ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ



ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

28 ЧЭРВЕНЯ 1996 г. № 26 (3850) Кошт 2 500 руб.

# А ЎСЁ Ж ТАКІ МЫ ЖЫВЁМ

*Ў народ і край свой толькі веру*
*І веру ў самаго сябе.*
Янка КУПАЛА

...Паэты прыходзяць да людства прамянямі Мудрага Вышняга Святла. Паэты чуюць, прадказваюць і ратуюць. Паэты прамаўляюць тую адзіную малітву, якую ткаў праз вякі Народ. Паэты сыходзяць з Зямлі, як птушкі, расхрыстаным крыллем засланяючы радзімнае гняздо.

Набліжаюцца да белае Краіны дні Купалавы — дні дакранання, далучэння да таямніцы яго Прышэсця, Яго Лёсу, яго Вечнасці. Па нейкай суровай логіцы Сусвету штогод мы спачатку памінаем Янку Купалу, ідучы да магілы ў задуме і прасвятленні 28-га чэрвеня, у дзень ягонай загадкавай пагібелі. І толькі потым, у ліпеньска-купалаўскі сонцазварот, вяртаемся да Пачатку, да З'яўлення прарока ў Краі спеўным і журботным.

Вось і сёлета, запрашаючы род беларускі на Жальбіны да паэтавай магілы 28-га чэрвеня і на свята народзінаў 6-га (каля помніка) ды 7-га (у Вязынцы) ліпеня, згадваем пра пуцявіну Купалаву па гэтай Краіне, пра памяць, што яшчэ цяплее-прарастае стромка скрозь гады паэтычнымі радкамі, творачы гісторыю. Якраз удзячная згадка пра паэтавы дарогі і мясціны на свеце, пра повязь Купала — Полацк, Купала — гісторыя перакінулася гнуткай кладкай ад часу Купалы да нашага дня, калі паэт паўстае штораз нанова ў павяртаных творах і ўспамінах.

"З адною думкаю аб шчасці Беларусі" — гэтак вызначыў некалі Янка Купала свой Шлях, Свой Час, сваё Прызначэнне. Гэтак ішоў ён па жыцці, адкрываючы балючую повязь мінуўшчыны і будучыні, расхінаючы прастору і час дзеля Адраджэння Краю і вольнага дыхання суайчыннікаў. Гэткаю думкаю аб шчасці Беларусі жывілася вера ўсіх творцаў таго высокага і годнага Адраджэння, што абрынулася ў курапацкую бездань. Гэткаю нягаснаю думкаю сілкуецца і дзень сённяшні — дзень, сплецены з успаміну і мары, з веры і сумніву. Дзень, памкнёны ў зорную далячынь вольнае Бацькаўшчыны.

"З адною думкаю аб шчасці Беларусі" — гэтак назвалі супрацоўнікі Купалавага Дома-музея выставу старых паштовак, якія "запомнілі" родны Край і свет пры жыцці Купалы. Дарэвалюцыйныя, даваенныя мястэчкі і гарады гаворадзь да нас, нашчадкаў, з тых цёплых (колькі рук іх саграваlа!) паштовак. Яшчэ не пакалечаны Менск, юнацкі прытулак паэта Санкт-Пецярбург, дзе жыў ён у слыннага Браслава Эпімах-Шыпілы, вечная прыцягальная Вільня... Паштоўкі вядуць у бытнасць, у неўміручасць, і мацуюць адчуванне паяднанасці з продкамі Купалавы рукапісы, пазначаныя тым ці іншым горадам стварэння, задумы — горадам, які пазірае з вечнасці, занатаванай маўклівай паштоўкай. І высцілаецца спрадвечная сівая дарога Айчыны, па якой нястомна ідуць пакаленні, каб здзейсніць сваю місію ў малым кутку сусветнага неабсяжжа.

І паўстаюць радзімным абярогам светлыя воблікі нашых далёкіх папярэднікаў, што рассыпалі пазнакамі сляды на ўтравелым гасцінцы. Паўстае велічна, векапомна першая нашая Дзяржава — Полацкая зямля, да якой прыходзіў прычасціцца і прарок-Купала, перад якой спавядальна хіліў паэт чало.

У старажытны Полацк невыпадкова прывёў гістарычны бальшак і сённяшніх дбайцаў на спадчыннай ніве. Намаганнямі супрацоўнікаў Літаратурнага музея Янкі Купалы, Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка, актывістаў Міжнароднага фонду Купалы і ягонай Полацкай філіі ў музеі старажытнага кнігадрукавання ў траўні была наладжаная адметная імпрэза — своеасаблівы паўтор гістарычна-мастацкай вечарыны, арганізаванай 70 гадоў назад у гонар Янкі Купалы Полацкай філіяй "Маладняка" пры ўдзеле Саўнаркома і наркома асветы.

Літаратурна-музычная рэтракампазіцыя сапраўды нібыта сталася паваротнай у часе. Не было жывога Купалы, якога чуў старадаўні Полацк у 1926 годзе. Але ўваскрэслі яго Дух, яго Думка, яго прарочы Голас. Ажыла і ўстрапянулася да свята ягоная Любоў. Узышло надзеяй ягонае збалелае Слова "гэта крык, гэта енк, што жыве Беларусь"... Чутна была хада гісторыі, развражная хада Краіны, якая не згубіла ў вяках годнасці і гонару. Дыхаў разняволена пачатак стагоддзя, што некалі акрыліў вераю змарнелы Край. Пад сэрцам першае крывіцкае сталіцы зноў зварухнулася абуджанае жыццё — жыццё, выснаванае з памяці і сягненняў чалавечае яснае мары...

(Працяг на стар. 3)



*Народны артыст Беларусі прафесар Барыс ПЯНЧУК абвяшчае вынікі працы журы*

# ПЛЕНЭР ДЛЯ ДУХАВЫХ

## НА СВЯЦЕ Ў БАРАНАВІЧАХ

***У вачах сваіх добрых знаёмых я заўважыла... парушынку зайздрасці. Ай, дзівакі! Хтосьці з іх пабыў у рамантычным асяроддзі першага нясвіжскага фестывалю камернай музыкі, хтосьці здзейсніў гістарычны прарыў на мінскія канцэрты "Віртуозаў Масквы" і сеньёры Кабальe, камусьці засталіся суткі да творчай вандроўкі ў Францыю — я ж мела ўсяго толькі ўражанні з Баранавічаў. Мела і намер проста падзяліцца імі, а вось ледзь не азмрочыла чыёсьці памкненне ў Парыж...***

***Усміхаецеся, скептыкі? Вядома, вядома: Парыж заўсёды Парыж. Але вядома і тое, што цэнтр культуры — не геаграфічнае панятак, а з'ява духоўная, сацыяльна-гістарычная, часавая (ці часовая). Дык дайце веры, менавіта Баранавічы, дзе тры дні красавала свята і ўсё было добра, гожа, годна, — менавіта гэты адносна малады беларускі горад аздобіў сваім адмысловым узорам стракаты кілім еўрапейскай культуры.***

(Працяг на стар. 10-11)



*Музычнае прывітанне з Польшчы.*



# КОЛА ДЗЁН

***Пасля доўгіх ваганняў прэзідэнт Расіі ўсё ж наважыўся прыехаць у Беларусь. З аднаго боку, наведанне Брэсцкай крэпасці якраз 22 чэрвеня — досыць выйгрышны перадвыбарчы ход, а з другога боку, хочаш не хочаш, трэба сустракацца з гаспадаром і галоўным інтэгратарам — прэзідэнтам Беларусі, папулярнасць якога ў палітычным свеце за апошні час упала, бадай, "ніжэй каленяў", а празмерна шчырыя выказванні супраць Ельцына растыражаваны ў шматлікіх расійскіх і беларускіх выданнях. Сустрэча двух лідэраў дзяржаў адбылася. Можа, хто і чакаў, што на ёй адбудзецца прымірэнне і "інтэграцыя" пойдзе далей, аднак, цяпер можна сказаць пэўна — гэта і не планавалася. Бо занадта рана адзін з братоў захацеў гуляць у сваю гульню на чужым полі. Такое не забываецца...***

## ВЕРАГОДНАСЦЬ ТЫДНЯ

Падобна на тое, што прэзідэнт Беларусі патроху пачынае рыхтавацца да магчымых ускладненняў адносін з Расіяй пасля 3 ліпеня. Менавіта гэтак можна зразумець ягоныя словы пра тое, што Беларусь ператворана ў "прахадны двор" (вароты ў нас адчынены толькі з аднаго боку — расійскага), а таксама заяву аб увядзенні з 1 ліпеня такога рэжыму, што ніводзін грамадзянін нашай краіны не зможа выехаць за мяжу без дазволу ўладаў. Прыгадаем яшчэ, што ў друку апошнім часам пачалі з'яўляцца публікацыі пра тое, што дамоўленасці з Расіяй (аб "нулявым" варыянце, аб супольнасці дзяржаў) практычна не дзейнічаюць якраз па віне расійскага боку. Ну, а калі так, то пасля 3 ліпеня давядзецца Беларусі браць кірунак на поўны суверэнітэт, які на справе пры дадзеным ладзе будзе азначаць ці не поўную ізаляцыю ад усяго цывілізаванага свету.

## ПАПЯРЭДЖАННЕ ТЫДНЯ

26 чэрвеня на мінскім заводзе "Белвар" адбыўся стыхійны (паводле БТ) страйк: рабочыя запатрабавалі ад кіраўніцтва выплаціць заробак за красавік і травень... Адна ластаўка, як вядома, вясны не робіць, але ўлады атрымалі першы званок наконт таго, што цярпенне народа канчаецца і, як і прагназуюць сацыёлагі, услед за "нацыяналістычнай" моладдзю на вуліцы можа выйсці і талерантны люд, які ўжо не верыць прыгожым абяцанням... Стыхія звычайна бывае больш разбуральнай, чым "планавыя" выбухі.

## ПАСЛАННЕ ТЫДНЯ

Палкоўнік У. Замяталін накіраваў на імя спікера парламента С. Шарэцкага ліст, у якім запатрабаваў прызначыць псіхіятрычную экспертызу дэпутату С. Шушкевічу з мэтай праверыць яго "на предмет вменяемости". С. Шарэцкі адаслаў гэты ліст прэзідэнту Беларусі з просьбай надалей пазбавіць яго ад падобных пасланняў. Старшыня ВС, пэўна ж, дакладна ведае, да каго трэба звяртацца ў падобных выпадках.

## ЦЫНІЗМ ТЫДНЯ

Адказваючы на пытанне чытачкі газеты "Аргументы и факты", начальнік Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі М. Фяськоў прывёў такія лічбы: "у 1995 годзе з 219 школ Мінска 38 былі рускамоўнымі, а 181 — беларускамоўнай. У гэтым, 1996 годзе, з 221 школы ў 49 выкладанне вядзецца на рускай мове, а ў 172 — на беларускай..." Цікава, ці знойдзецца сярод чытачоў "ЛіМа" хоць бы адзін, які паверыць у праўдзівасць гэтых лічбаў? Каб жа сітуацыя была такой, якою "малююць" яе чыноўнікі — мы б і гора не ведалі. На жаль, лічбы гэтыя "прыгожыя" патрэбны якраз чыноўнікам, каб, спасылаючыся на іх, закрываць у Мінску апошнія беларускамоўныя класы. На заканчэнне — прыклад чыноўніцкага цынізму з таго ж інтэрв'ю М. Фяськова: "І Галоўнае ўпраўленне, і Міністэрства адукацыі і навукі РБ лічаць мэтазгодным існаванне беларускамоўных школ, але тым не менш галоўнай мэтай сёння з'яўляецца выхаванне пісьменнага, высокаадукаванага грамадства". Вось так, ні больш, ні менш...

## ПРЫЯРЫТЭТ ТЫДНЯ

Газеты паведамілі, што прэзідэнт Беларусі падпісаў распараджэнне аб павышэнні ўдвая заработнай платы амонаўцам. Пасля гэтага заробак сяржанта амона будзе складаць прыблізна 3,5 мільёна рублёў. І гэта ў той час, калі сярэдні заробак прафесарска-выкладчыцкага складу мінскіх ВНУ (паводле "Звязды") складае 1,5 мільёна рублёў, не кажучы ўжо пра іншыя катэгорыі працаўнікоў. Што ж зробіш, такія прыярытэты ў нашай дзяржавы.

## НАПАД ТЫДНЯ

У ноч з 20 на 21 чэрвеня трое невядомых уварваліся ў кватэру аглядальніка "Белорусской деловой газеты", уласнага карэспандэнта рускай службы радыё "Свабода" Юрыя Дракахруста. Гаспадар кватэры ў гэты час знаходзіўся ў камандзіроўцы ў Польшчы, а дома была толькі яго жонка Галіна. Злачынцы жорстка збілі яе і загадалі "перадаць пра гэта мужу". Жанчына страціла прытомнасць і прыйшла да памяці праз нейкі час у ванне з гарачай вадой. Паколькі з кватэры нічога не прапала, мэта начных візіцёраў становіцца відавочнай: напад на кватэру, як лічыць і сам Ю. Дракахруст, зроблены па палітычных матывах. Быць сумленным журналістам (і родным такога журналіста) — сёння небяспечна... Па факту злачынства ўзбуджана крымінальная справа, распачата следства.

## НАМЕР ТЫДНЯ

Ходзяць чуткі, што прэзідэнт Беларусі выдзеліў для здымак фільма расійскаму рэжысёру Я. Мацвееву адзін мільярд васемсот мільёнаў рублёў. Мяркуецца, што новы фільм будзе працягам ужо вядомага "Любить па-русски". Дзіўная справа, у бюджэце няма грошай на фінансаванне беларускай культуры, на выплату заробку настаўнікам, а ў прэзідэнта заўсёды ёсць "лішнія" — то на "Залаты віцязь", то на "Славянскі базар", а цяпер вось і на "Любовь па-русски", поўны кошт якой 5 мільярдаў рублёў. І сапраўды, "любовь по-русски": дам, але толькі таму, каго люблю...

## "НАЦЫЯНАЛІЗАЦЫЯ" ТЫДНЯ

У мэтах далейшага развіцця музычна-тэатральнага мастацтва краіны прэзідэнт Беларусі падпісаў указ аб пераўтварэнні Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі ў ... творчае аб'яднанне "Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь". Будынак тэатра будзе перададзены пад кіраванне аператыўнага ўпраўлення Кіраўніцтва справамі прэзідэнта. Галоўны вынік "нацыяналізацыі" непасрэдна для артыстаў і работнікаў тэатра — павышэнне службовых акладаў у сярэднім у 1,7 раза.

*Адгалоскі*

# ЗНОЎ ПРА КУРАПАТЫ

***Днямі ў сродках масавай інфармацыі краіны было апублікавана Заключэнне Пракуратуры Рэспублікі Беларусь, якая паўторна расследавала матэрыялы крымінальнай справы, што тычылася пахаванняў у Курапатах. Пракуратура зноў прыйшла да адназначнай высновы: у лясным масіве Курапаты ў 1937—1941 гг. органамі НКУС БССР праводзіліся масавыя расстрэлы грамадзян.***

***Але навошта было паўторана расследаваць справу, у якой даўно былі пастаўлены ўсе кропкі над "і", навошта было зноў варушыць косці "невинно убиенных"? Згадаем гісторыю выкрыцця гэтага злачынства.***

Пачалося ўсё восем гадоў назад пасля з'яўлення ў "ЛіМе" артыкула З. Пазняка і Я. Шмыгалёва "Курапаты: дарога смерці", які знайшоў шырокі водгук у дэмакратычнай грамадскасці рэспублікі. У артыкуле апавядалася пра страшную знаходку ва ўрочышчы Курапаты пад самым Мінскам, дзе пры пракладцы газаправода былі выяўлены астанкі некалькіх дзесяткаў тысяч чалавек, якія, паводле высноў аўтараў, належалі ахвярам сталінскіх рэпрэсій у перадваенны час.

З'яўленне згаданага артыкула прыпала акурат на першыя гады гарбачоўскай перабудовы з яе кволымі, па першым часе, парасткамі так званага плюралізму і іншых свабод, некаторым паслабленнем дыктату цэнзуры — неад'емнай часткі любога таталітарнага рэжыму. Але, тым не менш, толькі лімаўцы, мабыць, ведаюць, які ціск людзей з будынка, дзе зараз знаходзіцца адміністрацыя прэзідэнта краіны, а тады — ЦК КПБ, давялося перааддольваць, перш чым згаданы артыкул з'явіўся на старонках газеты.

Неўзабаве пасля лімаўскай публікацыі па факце масавых забойстваў у Курапатах Пракуратурай рэспублікі была ўзбуджана крымінальная справа, а яшчэ праз нейкі час утворана Дзяржаўная камісія па расследаванні курапацкай трагедыі. Праведзеныя судова-медыцынскія і крымінальныя экспертызы далі магчымасць сцвярджаць, што ў Курапатах пахавана не менш як 30 тысяч чалавек. Знойдзеныя ў магілах гільзы і патроны да рэвальвера сістэмы "наган" і пісталета "ТТ", якімі былі ўзброены супрацоўнікі камендатур НКУС, што прыводзілі ў выкананне смяротныя прысуды пазасудовых "троек" і "двоек", а таксама паказанні 55 жыхароў размешчаных паблізу Курапатаў вёсак Цна, Падбалоцце, Драздова, відавочцаў расстрэлаў, засведчылі, што гэтая крывавая расправа ўчынена сталінскімі рэпрэсіўнымі органамі.

Помніцца, адразу пасля лімаўскай публікацыі не праходзіла дня, каб рэдакцыйная пошта не прыносіла паведамленняў аб дзесятках, а мо і сотнях падобных Курапатаў, раскіданых па ўсёй Беларусі, аб жудасных расправах энкавэдыстаў над ні ў чым не вінаватымі людзьмі. Але прадыктаваны часам мізэрны ліміт праўды аб мінулым, які дазволіла сабе выдаць тады яшчэ камуністычная ўлада, быў вычарпаны. Таму ж "ЛіМу" было катэгарычна забаронена надалей друкаваць матэрыялы, звязаныя з даваеннымі масавымі рэпрэсіямі. Да прыкладу, Галоўлітам быў зняты літаральна з паласы артыкул аб расстрэлах органамі НКУС вязняў мінскай турмы у раёне цяперашняга парку імя Чэлюскінцаў.

Прыблізна на гэты час прыпадае і з'яўленне так званай "грамадскай камісіі" на чале з былым партызанам І. Загараднюком, якая, выконваючы заказ пэўных палітычных сіл, паставіла сваёй мэтай абылгаць, дыскрэдытаваць высновы, да якіх прыйшла Урадавая камісія па падзеях у Курапатах, а, па сутнасці, абяліць, рэабілітаваць органы НКУС, якія, па думцы загараднюкоўцаў, ніколі не займаліся неабгрунтаванымі пакараннямі. (!?) У 1993 годзе згаданая "камісія" звярнулася ў Вярхоўны Савет рэспублікі з прапановай "адмяніць" рашэнне Урадавай камісіі па расследаванні курапацкіх забойстваў. Мабыць, досыць уплывовыя сілы стаялі за І. Загараднюком, калі Вярхоўны Савет пайшоў яму насустрач, даручыўшы тагачаснаму Генеральнаму пракурору В. Шаладонаву правесці паўторнае расследаванне курапацкіх пахаванняў.

"Грамадская камісія" развіла бурную дзейнасць, наладжваючы шматлікія прэс-канферэнцыі, выступаючы ў друку, па радыё і тэлебачанні, мабілізуючы нават сродкі кіно. Хто бачыў скандальную кінастужку Ю. Азаронка "Нянавісць: дзеці хлусні", прысвечаную нібыта "выкрыццю" БНФ і яго лідэра З. Пазняка, відаць, звярнуў увагу на тое, што пачынаецца гэтае "кіно" з кадраў, знятых на Курапацкіх магілах, дзе члены згаданай камісіі, перабіраючы ў руках нейкія ланцужкі, з вучоным выглядам "даказваюць" няўдзел у курапацкіх расстрэлах органаў НКУС, "выкрываюць" спробы "злокозненных" антыкамуністаў абылгаць гісторыю Камуністычнай партыі, яе правадыроў.

Ну, што ж, сапраўды, няма сёння ў камуністаў большага клопату, чым неяк рэабілітаваць усталяваны імі на прасторах былой Расійскай імперыі рэжым, які заплямiў сябе нечуванымі злачынствамі ў дачыненні да ўласнага народа. Вось і цяперашні правадыр кампартыі Расійскай Федэрацыі Г. Зюганаў, што рвецца ў прэзідэнты Расіі, нястомна паўтарае, што ніякіх такіх сталінскіх рэпрэсій не існавала, што ўсё гэта — выдумка ворагаў камунізму і г. д. У рэчышчы гэтых выказванняў зусім натуральна глядзяцца сёння ў калонах камуністычных дэманстрантаў побач з чырвонымі сцягамі і партрэты вусатага "правадыра ўсіх часоў і народаў" — аднаго з самых жудасных злачынцаў, якіх ведала гісторыя чалавецтва.

Зрэшты, спробы абяліць сталінскі рэжым па сваёй псіхалагічнай сутнасці не адрозніваюцца ад спроб сучасных заходніх неанацыстаў рэвізаваць Нюрнбергскі прысуд галоўным нямецкім злачынцам, ад іх сцвярджэнняў, што ніякіх Асвенціма ў і газавых печаў, дзе былі знішчаны мільёны бязвінных ахвяр, на самай справе не існавала. Праўда, паміж нашымі чырвонымі і замежнымі карычневымі ёсць істотная розніца — апошнія не асмельваюцца з'яўляцца на вуліцах з партрэтамі Гітлера, бо за гэта без доўгіх цырымоній можна трапіць у турму. У нас жа "портретоносцы" Сталіна лічаць сябе мала не героямі.

Але вернемся да курапацкіх падзей, паўторнае расследаванне якіх было даручана старшаму следчаму па асабліва важных справах Пракуратуры Рэспублікі Беларусь Валерыю Камароўскаму. Роўна год назад я сустракаўся з ім, і Валерый Міхайлавіч паказваў мне дзесяткі новых дакументаў, у тым ліку польскіх, нямецкіх, ізраільскіх, якія каменя на камені не пакідалі ад "навуковых" вышукаў так званай "грамадскай камісіі" з яе версіяй, што нібыта курапацкія магілы пакінулі фашысцкія акупанты ў гады вайны, знішчаючы там яўрэяў, дэпартаваных у Беларусь з розных краін Заходняй Еўропы.

Тады ж у "ЛіМе" пад назовам "Нянавісць: хто яны, дзеці хлусні?" была апублікавана гутарка з Валерыем Камароўскім, у якой ён выклаў сваё бачанне курапацкіх падзей, бачанне, падмацаванае шматлікімі дакументамі. Прадстаяла яшчэ вялікая праца на шляху выяўлення ісціны, але шэраг ужо знойдзеных дакументаў, у прыватнасці, рашэнне Палітбюро ЦК ВКП (б) ад 5 сакавіка 1940 года, прынятае па запісцы тагачаснага наркома ўнутраных спраў Л. Берыі аб ліквідацыі некалькіх дзесяткаў тысяч арыштаваных грамадзян Польшчы, а таксама жыхароў заходніх абласцей Украіны і Беларусі, давалі ўсе падставы меркаваць, што забойствы польскіх вайскоўцаў у Катыні у Смаленскай вобласці і расстрэлы ў Курапатах — звенні аднаго ланцуга.

Згаданае на пачатку гэтых нататак Заключэнне Пракуратуры РБ аб пахаваннях у Курапатах, такім чынам, кладзе канец (спадзяюся на гэта) спробам "грамадскай камісіі" і тым, хто за ёю стаіць, выдаваць чорнае за белае.

**Міхась ЗАМСКІ**

# "СТРАНА ОГУРЦОВ"? — НЕ, КРАІНА РЭФЕРЭНДУМАЎ

У апошнія месяцы мы адмерваем час па грамадскіх акцыях "непадпарадкавання": 24 сакавіка, 2 красавіка, 26 красавіка, 1 траўня, 30 траўня, 22 чэрвеня. Нават калі дэманстрацыі і мітынгі апазіцыі афіцыйна дазволеныя, дазвол гэты, па сутнасці, з боку ўлад вымушаны, і ўсё роўна людзі прыйдуць з "недазволенымі" сцягамі, будуць скандзіраваць "недазволеныя" лозунгі, гаварыць "недазволеныя" прамовы. Сёння кожная вялікая сходка занепакоеных лёсам краіны і сваім уласным лёсам людзей абавязкова набывае антывертыкальны характар. Таму і не дзіўна, што ў нетрах Адміністрацыі выношваецца думка ўвогуле забараніць пікеты, шэсці і мітынгі. Зразумела, "у мэтах стабілізацыі грамадства".

Аднак і ў перапынках паміж буйнымі грамадскімі акцыямі сумаваць, так бы мовіць, не даводзіцца. Так, у часе паміж 30 траўня і 22 чэрвеня міліцыя абстраляла з аўтамата машыну вядомага (і галоўнае — перспектыўнага) палітыка Віктара Ганчара, інтэлектуала, які ўпэўнена набірае палітычную вагу, ідзе ўверх па кар'ернай лесвіцы. Другі інцыдэнт: невядомыя тэрарысты, вельмі прафесійна адчыніўшы дзверы без ключа, уварваліся ў кватэру вядомага журналіста і палітолага Юрыя Дракахруста і моцна збілі ягоную жонку. У кватэры нічога не ўзялі, а жанчыне далі зразумець, што гэта ёй — за мужа.

Хацелася б верыць, што і ў першым, і ў другім выпадку няма палітычнай падкладкі. Але, калі браць да ўвагі, што апошнім часам (24 сакавіка, 2 і 26 красавіка, 30 траўня) ахвярамі амонаўскага "беспредела" станавіліся ў асноўным менавіта маладыя людзі з інтэлігентнымі тварамі, дык няцяжка працягнуць нітачку логікі далей...

Прысутнасць Ельцына ў Беларусі 22 чэрвеня прымусіла беларускія ўлады быць нечакана талерантнымі, дэманстраваць плюралізм (як казалі ў часы перабудовы). У гэты дзень міліцыя і амон не атрымалі загаду ўмешвацца ў палітыку, біць людзей з бел-чырвона-белымі сцягамі. Гвалт справакаваў бы супраціў, быў бы непажаданы розгалас.

Як бы там ні было, а спадару прэзідэнту даводзіцца дбаць аб сваім іміджы. Ці не таму ходзяць чуткі, што ўвосень зноў будзе "рэферэндум", на якім сп. Лукашэнка зноў намераны "перамагчы"? Гэтым разам... НАТА. Нас запытаюць, ці згодныя мы, каб НАТА пашыралася на ўсход. Уяўляю, як перапалохаюцца ў Брусэлі, у штаб-кватэры Паўночна-Атлантычнага альянсу і адразу спыняць "Дранк нах Остэн"! І аднначасова спыняць інвестыцыі ў нашу эканоміку...

Пасля таго, як сп. Лукашэнку абралі прэзідэнтам, у маскоўскай прэсе з'явілася публікацыя пра Беларусь пад назвай "Страна огурцов". Многія тады абурыліся. І правільна. Мы — не краіна агуркоў. Мы — краіна рэферэндумаў...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Меркаванне

# НЯМА ВОЛІ БЕЗ ЗЯМЛІ, НЯМА ЗЯМЛІ БЕЗ ВОЛІ

Так склалася, што на Беларусі дзейнічаюць дзве палітычныя партыі, якія дэкларуюць абарону інтарэсаў сялянства: Беларуская сялянская партыя і Аграрная партыя Беларусі. І вяскоўцы часцяком пытаюць: "Навошта нам дзве такія палітычныя партыі, якія адрозненні паміж імі?"

Галоўныя адрозненні тры: час утварэння партый, хто іх утвараў і якія мэты яны адстойваюць. Беларуская сялянская партыя (БСП) утворана 23 лютага 1991 года, а Аграрная партыя — 13 чэрвеня 1992 года. БСП утварылі фермеры, арандатары і навукоўцы, АП — старшыні калгасаў і кіраўнічы апарат. БСП з моманту ўтварэння выступала за правядзенне зямельнай рэформы, АП — за ўмацаванне калгасна-саўгаснай сістэмы.

Але час ідзе і жыццё вучыць. І з боку Аграрнай партыі ўсё часцей сталі гучаць думкі аб неабходнасці рэформы калгасаў і саўгасаў.

Першы выказаўся на гэты конт старшыня знакамітага калгаса "Рассвет" Васіль Старавойтаў: "У калгасе няма такой сілы, якая б прымусіла чалавека добра працаваць". Потым прагучала выказванне міністра Васіля Лявонава: "Калектыўнае павінна быць сумай прыватнага". А 19 студзеня г. г. газета "Белорусская нива" надрукавала праект рэформы аграпрамысловага комплексу, аўтары якога па многіх пазіцыях сталі на бок Сялянскай партыі. Вядома, што ўдзел у распрацоўцы праекта прымалі і члены Аграрнай партыі. Мы падумалі: лёд зрушыў, трэба наладжваць кантакты і дзейнічаць разам.

На V з'ездзе БСП была выказана прапанова: "Як толькі механізм рэформы запрацуе, як толькі аграрнікі прызнаюць і ўзаконяць правы выхаду з калгаса з паем зямлі і доляй маёмасці, будзе знята і апошняя перашкода для аб'яднання Сялянскай і Аграрнай партый".

І вось у двух нумарах "Народнай газеты" за 5 і 6 сакавіка бягучага года надрукавана інтэрв'ю з адным з кіраўнікоў Аграрнай партыі Валерыем Яфімавым. Ён даволі падрабязна выказаў погляды сваёй партыі. Рэформамі тут і не пахне. Нават слова "рэформа" Валерый Сымонавіч вымавіў адзін раз ды і то ў негатыўным сэнсе. Можна з ім спрачацца, можна нешта абвяргаць ці ўдакладняць, але ці ёсць у гэтым сэнс? Лепш паказаць пазіцыю Сялянскай партыі. Няхай людзі ведаюць і альтэрнатыўны пункт гледжання.

### ЗЯМЛЯ — ГАЛОЎНАЕ НАША БАГАЦЦЕ

У Беларусі на душу насельніцтва прыпадае амаль гектар сельгасугоддзяў і шэсцьдзесят дзве соткі ворнай зямлі. Па апошнім паказчыку Беларусь перавышае Германію ў пяць, а Японію ў дваццаць разоў.

Пасля гвалтоўнай калектывізацыі сельская гаспадарка Беларусі апынулася ў заняпадзе. Натуральны эвалюцыйны працэс развіцця сялянскіх гаспадарак быў спынены. Сяляне страцілі зямлю і асноўныя сродкі вытворчасці. Ім пакінулі невялікія прысядзібныя надзелы зямлі і ручныя сродкі для іх апрацоўкі. Калгасна-саўгасная сістэма не справілася з задачай накарміць народ. Камуністычны ўрад трыццаць працэнтаў харчавання пастаянна купляў за мяжой. Само жыццё патрабуе: вольны чалавек павінен працаваць на ўласнай зямлі.

### ПРЫНЦЫПЫ ЗЯМЕЛЬНАЙ РЭФОРМЫ

Беларуская сялянская партыя выступае за правядзенне зямельнай рэформы цывілізаваным шляхам. Яго забяспечаць тры галоўныя прынцыпы: законнасць, добраахвотнасць і матэрыяльны інтарэс.

Законы павінны быць прамога дзеяння, абмяжоўваць правы мясцовай улады і прыцягваць да крымінальнай адказнасці іх парушальнікаў.

Матэрыяльны інтарэс забяспечыць бясплатны зямельны пай, адзіны падатак на зямлю і рынкавыя цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю.

Законнасць і матэрыяльны інтарэс адкрыюць дарогу сялянству для добраахвотнага правядзення зямельнай рэформы.

### УМОВЫ ЗЯМЕЛЬНАЙ РЭФОРМЫ

Для паспяховага правядзення зямельнай рэформы і ўтварэння эфектыўнай сельскай гаспадаркі неабходны наступныя ўмовы: прыватная ўласнасць на зямлю, дзейнасць іпатэчных (зямельных) банкаў і эканамічная свабода вытворцаў.

БСП прызнае дзве формы ўласнасці на зямлю: прыватную і дзяржаўную. Да дзяржаўнай уласнасці трэба аднесці землі навукова-даследчых устаноў, эксперыментальных баз, буйных жывёлагадоўчых комплексаў і рэзервовы фонд. Астатнюю зямлю неабходна перадаць у прыватную ўласнасць. Дарэнне, здача ў арэнду, заклад у банк і продаж зямлі, як і ва ўсім свеце, павінны стаць нормай.

Без шырокай сеткі іпатэчных банкаў прыватная ўласнасць на зямлю будзе малаэфектыўнай. Магчымасць закласці зямлю ў банк, атрымаць крэдыт, купіць тэхніку, насенне і ўгнаенне стварае перспектыву зацікаўленай працы на сябе.

Камандна-адміністрацыйная сістэма кіравання сельскай гаспадаркай давяла яе да поўнага развалу. У мінулым годзе калгасы і саўгасы на 85 працэнтах зямлі вырабілі толькі 50 працэнтаў прадукцыі. Стольк ж вырабіў і прыватна-сямейны сектар (дачнікі, прысядзібныя гаспадаркі, фермеры) на 15 працэнтах зямлі. Надой малака ад каровы ў калгасах складае 2153 кілаграмы, ураджайнасць збожжавых у многіх з іх знізілася да 10 цэнтнераў з гектара. Ёсць, праўда, адзін стабільны паказчык у дзейнасці калгасаў: колькасць кіруючага апарату. Самае дзіўнае, што прыватна-сямейны сектар без кіруючага апарату даў рост прадукцыі на 7 працэнтаў, а калгасы і саўгасы дапусцілі спад на 12 працэнтаў.

Відавочна, што бюракратычны апарат трэба аб'явіць банкрутам і адправіць у адстаўку. Неабходныя органы кіравання сяляне ствараць самі. Сістэма, заснаваная на прымусе, павінна саступіць месца эканамічнай свабодзе.

### ШЛЯХІ ЗЯМЕЛЬНАЙ РЭФОРМЫ

Беларуская сялянская партыя не навязвае грамадству адзіную мадэль зямельнай рэформы. Няхай кожны робіць свой выбар на аснове закона. Зямельная рэформа будзе праводзіцца адначасова наступнымі шляхамі: стварэннем сямейных гаспадарак фермерскага тыпу; узбуйненнем прысядзібных гаспадарак жыхароў вёскі і малых гарадоў; пераўтварэннем калгасаў і саўгасаў у асацыяцыі фермерскіх і кааператыўных гаспадарак, акцыянерных таварыстваў, калектыўна-долевых гаспадарак.

Тэхналогія зямельнай рэформы будзе залежаць ад заканадаўства. БСП прапануе прыняць закон аб зямлі і на яго аснове: утварыць рэзервовы фонд, у які перадаць 15 працэнтаў зямлі калектыўных гаспадарак і 10 працэнтаў дзяржаўнага ляснога фонду; вызначыць сярэдні зямельны пай на кожнай калектыўнай гаспадарцы і даць права выхаду калгаснікам і рабочым саўгасаў з паем зямлі і доляй маёмасці; афарміць зямельны пай калгаснікаў і рабочых саўгасаў, якія вырашылі працаваць самастойна, у прыватную ўласнасць бясплатна; зняць абмежаванні на памер прысядзібных гаспадарак для жыхароў вёскі і малых гарадоў; зняць абмежаванні на памер фермерскіх гаспадарак; надзяляць зямлёю з рэзервовага фонду былых вяскоўцаў, якія страцілі працу ў горадзе, былых гаспадароў зямлі ці іх нашчадкаў, а таксама фермераў і ўладальнікаў прысядзібных гаспадарак для іх узбуйнення.

У выніку такой рэформы, зямля прыдбае гаспадара, а дзяржава — кармільца. Вольны чалавек будзе працаваць на ўласнай зямлі. Такі падыход дазволіць правесці зямельную рэформу без разбурэння матэрыяльна-тэхнічнай базы калектыўных гаспадарак, без "чорнага" перадзелу і крывавых разборак. Ён адпавядае інтарэсам усяго грамадства.

Некаторыя палітычныя сілы, у тым ліку і Аграрная партыя, на жаль, выступаюць супраць зямельнай рэформы. Але калгасна-саўгасную сістэму ўжо ніхто не рэанімуе. Яна мёртвая. Трэба набрацца мужнасці і прызнаць гэты факт.

**Яўген ЛУГІН,**
**старшыня Беларускай сялянскай партыі**

Варункі

# НАША МІЛІЦЫЯ

*"Запомніце твар гэтага чалавека, — сказаў Кловіс.*
*— Бандыт? — спытаў я.*
*— Не, паліцыянт".*
*Армандо Сантос "Эскадрон смерці".*

**Падчас апошняга мітынгу апазіцыі падышоў я да маёра, які адказвае за ахову грамадскага парадку ў Цэнтральным раёне Мінска, і запытаў: "Ну дык як жа вы, Яўген Яўгенавіч, дапусцілі, што 30 мая у вашым РАУСе збівалі людзей?" — "У нас не білі" — адказаў ён. "Што, і ў дворыку вашым не білі?" — перапытаў я. "У нашым аддзяленні не білі", — яшчэ раз сказаў ён і адышоў, не развітаўшыся.**

**Як гавораць сведчанні людзей — білі. У асноўным у пастарунках — людзі ў цывільным. Зараз ужо вядома, хто гэта былі — звычайныя оперупаўнаважаныя, ці як іх яшчэ называюць — "оперы" з райаддзелаў міліцыі.**

**Некалі пазней даследчыкам цікава будзе перабіраць пратаколы затрыманняў пасля веснавых падзей у Мінску, складзеныя як бы пад капірку. Бо хлусіць не толькі міліцэйскае начальства. Яно прымушае хлусіць і сваіх падначаленых — Пецяў і Ваняў, сяржантаў і радавых.**

**Сведчанняў гэтаму — дзесяткі. Але паказальны тут выпадак з былым дэпутатам Вярхоўнага Савета, перакладчыкам Л. Баршчэўскім, які на судзе за падзеі 26 красавіка, пры дапамозе адваката, здолеў-такі прымусіць сваіх "сведкаў" прызнацца, што яны яго там у вочы не бачылі. Праўда, суддзя ўсё роўна вырашыў "паверыць" таму, чаго "сведкі" не пацвердзілі, і даў, на ўсялякі выпадак, Л. Баршчэўскаму штраф у мільён рублёў. Але гэта ўжо асобная гісторыя. Вернемся да нашых бараноў.**

**Не менш паказальная нашумелая гісторыя пра хлопца-нямко, які, згодна пратаколу затрымання, крычаў і нецэнзурна выражаўся.**

**Хто мне растлумачыць, чаго варты міліцыянер, які дае заведама хлуслівыя сведчанні? Хто можа даць гарантыю, што пасля таго, як гэты сяржант Пеця, які зманіў па ўказцы свайго начальства, заўтра не праявіць ініцыятыву і не зманіць на судзе ў любой іншай сітуацыі, дзе зняволенне чалавека будзе вымярацца ўжо не суткамі, а гадамі? А цяпер растлумачце мне, чаго ўвогуле вартая такая праваахоўная сістэма?**

**Любога з нас могуць прыхапіць "людзі ў цывільным", а то і ў форме і даць сведчанні, што ты, напрыклад, забіў чалавека. Падказаць, які будзе вынік змагання простага смяротнага грамадзяніна РБ з нашай сістэмай правасуддзя? Ці вы сумняваецеся ў здольнасцях сяржанта Пеці засведчыць так, як трэба?**

**І гэта самае брыдкае адкрыццё. Я разумею гэтых "хлопцаў у цывільным". Слабая чалавечая натура. Ім плацяць і яны адпрацоўваюць. Як тыя лялькі ў батлейцы, якіх тузаюць тудысюды.**

**Праўда, для аб'ектыўнага суда такая паслухмянасць ніколі не была дастатковым апраўданнем.**

**Згадаем яшчэ, напрыклад, Польшчу, дзе, як казаў мне адзін знаёмы паляк, таксама напачатку разганялі дэманстрацыі "Салідарнасці". Дайшло да таго, што ў бок кожнага міліцыянера народ пляваўся. А затым наступіў такі час, што следам за галавой калоны з жанчынамі і дзецьмі з кветкамі ішлі рабацягі з манціроўкамі і арматурай. І калі перад імі ўзнікаў паліцэйскі заслон — жанчыны з дзецьмі расступаліся, а наперад выходзіў працоўны клас. Пасля некалькіх такіх дэманстрацый паліцыя стала шоўкавай і кінула біцца.**

**Ці ведае гэта батлейшчык, які сёння водзіць Жаўнера і Казу?**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

# А ЎСЁ Ж ТАКІ МЫ ЖЫВЁМ

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

Дзве невялічкія выставы — "Купала і Полацк", "Па Купалавых мясцінах", зладаваныя ў музеі паэта, стваралі ўражанне павяртання нашага мысляра-песняра да вытоку дзяржавы — да Полацка, уражанне прысутнасці Купалы ў мурах, якія трывушча нясуць праз эпохі і ліхалецці ўратавальную для нацыі інфармацыю — магутную энергію асветнікаў, абаронцаў, адданых дзяцей гэтае цярплівае зямлі. Ад мужных часоў Рагвалода і Рагнеды, Еўфрасінні і Усяслава Чарадзея, Скарыны і Сімяона пераняў Купала веліч Духу і відушчасць сэрца, і пажоўклыя старонкі рукапісу паэмы "Гарыслава" вечава звязалі ніты эраў, а фотаздымкі, артыкулы, вершы 20—30-ых гадоў яскрава сведчылі, што пераемнасць не згасла, што Купала асвячаў Айчыну мудра і ўзвышанабожна, як славутыя папярэднікі...

Выстава фотамастака Альберта Цэхановіча "Па Купалавых мясцінах" быццам падказвала і Купалу, і нам, сучаснікам-спадчыннікам, шлях аднаўлення — ад Вязынкі, ад багататворчых Акопаў, ад Менска і Ляўкоў да Полацка. Ад усіх селішчаў-сядзіб, ад усіх пачаткаў і задум — да Полацка, да дзяржаўнасці, да незалежнасці. Купала разумеў гэта — значнасць Полацка ў гісторыі рэчаіснай і гісторыі фармавання нацыянальнае свядомасці. Купала наскрозь бачыў мінуласць і будучыню, прадчуваў сваю асабістую ролю ў часе, на гістарычных скрыжалях, і ролю свайго пакалення, ролю народа і ролю інтэлігенцыі. І Купалавым важкім роздумам пра лёс Бацькаўшчыны, пра духоўны скарб-набытак Полацка дзеля Адраджэння, пра пагрозу згубы гэтага векавога набытку, што быў і застанецца апірышчам-падмуркам нацыянальнага жыцця, была да краю напоўнена вечарына, вытканая з Купалавых твораў і прадказанняў-прадчуванняў, з успамінаў пра час, Паэта, лёс, сустрэчы і ростані, спадзяванні і роспач.

Выстава "Купала і Полацк" у звязе з мастацкай тканкай вечарыны акрэслілі балюча-ўзнадзеенае падабенства гэтых двух пераломных момантаў стагоддзя — часу Купалы і часу нашага, уздымна-роспачнага, калі на шалях сусветнае праведнасці зноў хістаецца бязверна Беларусь. "А суд гісторыі цяжкі", і Полацк зноў па праве старэйша-вечавым судзіць-мяркуе, раіць і раскрывае сутнасць.

Упершыню Янка Купала ступіў на мужную полацкую зямлю ў 1916, калі быў пераведзены з Менска ў складзе дарожна-будаўнічага атрада Варшаўскай акругі шляхоў зносін на працу старшага рабочага шпалаўкладчыка. У гэтую пару паэт быў чалавекам вайсковым. Але жыццё вакол віравала ў прадчуванні перамены, знаёміла з новымі людзьмі і мясцінамі, зводзіла з калегамі і сябрамі. Тут, у Полацку, Купала зноў пазнаваў свой народ, сваё раскіданае гняздо, якое трэба было адбудаваць ды ахінаць ад чужых вятроў.

...Настане 1926. На ўрачыстай вечарыне Купалу ўшаноўваюць палачане і госці. Побач з Купалам — паплечнікі, рупліўцы беларушчыны старшыня Саўнаркома Язэп Адамовіч і нарком асветы Антон Баліцкі. Але трывожны подых ужо чуцён.

У гэтым жа годзе Купалам напісана турботнае:

**І прыйдзе новых пакаленняў**
**На наша месца грамада**
**Судзіці суд, ці мы сумленна**
**Жыццё прайшлі...**

І гэтым жа вершам Паэт балюча прадугледзіць:

**І засумуецца патомак,**
**Калі дазнаецца аб нас,**
**Што нейкі з нас хоць быў не зломак,**
**А плечы гнуў у крук не раз;**

**Не йшоў з адкрытымі вачыма**
**У свет і сцежкі не прастаў,**
**А ўсёй магчымасці магчымай**
**Таптаў сляды, сябе таптаў.**

Ці не ў наш бясслаўны час, час зняваг нацыянальных святыняў, кінуў відушчы Купала дакорлівы папрок? Ці не нас папярэдзіў, каб "не неслі ў петлі дум і рук"? Ці не нам усім жадаў нашад дужасці, вынослівасці, калі выдыхнуў:

**Ёсць жа яшчэ ў мяне вера**
**Ў вольны мой родны народ...?**

Раскрылена некалі гучала Купалава слова на Полацкай вечарыне. 1926 год яшчэ не курчыўся ў страху рэпрэсій. 31 мая 1926-га Наркамат асветы БССР прысвоіў імя Янкі Купалы доследна-паказальнай школе пры Полацкім педтэхнікуме. Але Купала чуў душою поступ бяды. Купала ўстрывожана пісаў "крывёй з сваіх грудзей". А ўжо ж пытаўся ў Прарока "А колькі нам дасі чырвонцаў, Калі мы пойдзем за табой?". Ужо ведаў паэт кошт бяспамяцтва, адцуранства.

Але не сышоў са скрутнае лесвіцы, што клікала да Волі, не адступіўся, пакуль не зляцеў з маскоўскіх прыступкаў у нябыт.

Гэткага Купалу, ваярскага і задумнага, гордага і закаханага, вечнага бунтоўнага Купалу адчулі ўдзельнікі сёлетняй травеньскай вечарыны, здзеенай у Полацку. Купала і цяпер клікаў, будзіў, прызнаваўся:

**Ёсць жа яшчэ ў мяне сэрца,**
**Поўнае шчырых жаданняў,**
**Якое перш разарвецца,**
**Чымся любіць перастане.**

Купала неўміручы і цяпер сцвярджае, што ёсць мы, беларусы, у свеце, усклікае прачыста: "О Божа! Ты хоць заступіся і не дай дарэшты нам сканаць!".

Купала застаецца з Радзімай. Купала прарос у сэрцах надзеяй на беларускі "пасад між народамі". Пра Купалу цяпер будзе нагадваць і яшчэ адна іскрыстая кропка на нашай зямлі, дзе застаўся паэтаў след, — мемарыяльная дошка на станцыі Баравуха, створаная скульптарам Алесем Мірончаыкам у знак паэтавай працы на чыгунцы ў 1916-ым годзе.

Пакуль прыходзяць творцы, мысляры на гэтую нязмоўклую зямлю, датуль яна жывая і праўдзівая. Датуль будуць нараджацца на волі Божай і тыя, хто чуе творцаў-мысляроў і ўзносіць голас іх да ўсяго Краю, ўсяе планеты.

Удзячна было яшчэ раз вярнуцца да мудрага Купалы, каб упэўніцца ў прарочых ягоных словах: "А ўсё ж такі мы жывём!.." Жывём і верым у самых сябе, як спрадвек верылі працавітыя нашыя продкі. Жывём, ідзём да Купалы ў дзень смерці і ў дзень народзінаў — ідзём поруч з ім, пад яго аховаю і блаславеннем да Беларусі.

**Антаніна ХАТЭНКА**

## КАРАВАЙ ЮБІЛЯРУ



**Генрыха Далідовіча з нагоды яго 50-годдзя ўшанаваў Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа. Сюды, у гэты святы для беларусаў дом, прыйшлі калегі па пяры, па службе, удзячныя чытачы.**

**Юбіляра напачатку песнямі і танцамі прывіталі і ўручылі каравай землякі — самадзейныя артысты са Стаўбцоўшчыны.**

**Шаноўнага госця павіншавала дырэктар музея З. Камароўская. Затым рэй павёў старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў В. Зуёнак. Усе выступоўцы гаварылі пра багаты творчы набытак юбіляра, пра яго месца ў роднай літаратуры. Генрых Далідовіч, заўважыў І. Шамякін, знаходзіцца ў адной шарэнзе з лепшымі майстрамі мастацкага слова Беларусі. Семнаццацігадовым юнаком запамятаў Генрыха Ніл Гілевіч, калі прымаў у яго ўступны экзамен у БДУ. Тады ўжо адчуваўся ў вясковым хлопцы літаратар. Вельмі ж хацелася Нілу Сімонавічу бачыць абітурыента студэнтам.**

**Словы павагі і прыязнасці да юбіляра выказалі галоўныя рэдактары часопісаў "Полымя", "Нёман", "Вожык" С. Законнікаў, А. Кудравец і В. Блакіт, гісторык М. Ермаловіч, адзін з былых галоўных рэдактараў часопіса "Маладосць" (цяпер яго ўзначальвае Г. Далідовіч) Г. Бураўкін, зямлячка пісьменніка, загадчыца сельскага клуба Т. Бурдукевіч.**

**Як і водзіцца ў такіх выпадках, на вечарыне выступіў і сам юбіляр.**

**Кастусь СЦЕПАНЮК**

## "МАГУТНЫ БОЖА" КЛІЧА...

**У чацвёрты раз пройдзе на зямлі магілёўскай Міжнародны фестываль хрысціянскай музыкі "Магутны Божа". Сёлета да яго арганізацыі і правядзення самае непасрэднае дачыненне маюць гарадскія ўлады — Уладзімір Цумараў, намеснік старшыні Магілёўскага гарвыканкома ўзначаліў аргкамітэт фестывалю. Днямі мы атрымалі інфармацыю ад аднаго з пастаянных энтузіястаў і чыннікаў магілёўскага свята музыкі, члена аргкамітэта Анатоля Шпількова, які, прынамсі, паведаміў:**

**— Горад сур'ёзна рыхтуецца да сустрэчы шматлікіх гасцей: прыбіраюць вуліцы, фарбуюць дамы, вызначаюцца месцы для адкрыцця канцэртных пляцовак, робіцца рэкламная прадукцыя, маляўнічыя транспаранты. З 13 па 16 ліпеня, тэрмін ужо традыцыйны, Магілёў будзе жыць сапраўды вялікім міжнародным святам: чакаем гасцей з Вялікабрытаніі, Галандыі, Германіі, Італіі, Польшчы, Расіі, Украіны, Францыі. Апроч шматлікіх канцэртаў (яны адбудуцца ў Палацы культуры ВА "Хімвалакно", у Акадэміі музыкі, у гарадскім Доме культуры, у касцёле св. Станіслава, на адкрытых пляцоўках), плануюцца выстаўкі, сустрэчы ля фестывальнага вогнішча, семінары з удзелам спецыялістаў па харавой музыцы, імпрэза беларускіх рок-гуртоў "Крок насустрач", паказ дакументальнага фільма "Успамін пра Міколу Равенскага", і спектакля пра Еўфрасінню Полацкую, свята з нагоды заканчэння рэстаўрацыі касцёла св. Станіслава... Фестывальнае журы, як заўсёды, узначальвае наш знаны маэстра, прафесар Віктар Роўда. Сярод ганаровых гасцей, спадзяёмся, будзе ўладыка Філарэт, а таксама айцец Аляксандр Надсан ды беларусіст Гай Пікарда з Лондана.**

**На кліч духоўнасці, дабрыні, яднання ў Магілёў ужо тры гады запар падчас фестывалю збіраліся светлыя, шчырыя, творчыя людзі з розных краін. Дай Божа, каб і сёлета фестываль духоўнай музыкі пацвердзіў сваю высакародную місію на самым высокім узроўні.**

**С. Б.**

## СВОЙ СЛЕД

**у літаратуры пакінула і Ганна Сапрыка, з дня нараджэння якой споўнілася 85 гадоў (памерла 14 мая 1962 года). Родам яна з вёскі Куркаўшчына цяперашняга Мсціслаўскага раёна. Пасля заканчэння Мсціслаўскага педагагічнага тэхнікума (1930) настаўнічала на Віцебшчыне. У 1931 годзе пераехала ў Мінск, скончыла газетна-выдавецкае аддзяленне Мінскага педінстытута. Працавала ў Беларускім дзяржаўным выдавецтве.**

**У 1926 годзе ў часопісе "Малады араты" Г. Сапрыка апублікавала першы верш. Выступала і як празаік, выдала кнігу прозы "Калі ў сэрцы вясна" (1959). На беларускую мову пераклала "Апавяданні кітайскіх пісьменнікаў" (1953), "З крыжам ці з нажом" Я. Галана (1954) і іншыя.**

Імпрэзы

# УСЕ ПАЙШЛІ НА ФЕСТЫВАЛЬ...

У Гродне адбыўся першы Фестываль нацыянальных культур. Гэта падзея магла быць яшчэ больш значнай у жыцці нашай краіны, калі б яна адбывалася на хвалі нацыянальнага адраджэння. Аднак, наадварот, фестываль адбыўся на фоне антыбеларускасці ў грамадстве. Прыкладаў таму можна прывесці шмат. Гэта і ганенні на дэмакратычную апазіцыю, збіццё мірных дэманстрантаў і журналістаў, цэнзура друку і г.д. Асобна хацеў бы выдзеліць закрыццё беларускамоўных школ, хоць такімі школы лічыліся фармальна. Затое зараз беларускамоўныя класы гвалтоўна пераводзяцца на рускую мову навучання. Прыкладам таму СШ N II г. Гродна. У мінулым навучальным годзе, які толькі што скончыўся, усе пятыя класы займаліся на рускай мове, хоць вучні некаторых класаў перад гэтым чатыры гады займаліся па-беларуску. Робіцца ўсё ў лепшых савецкіх традыцыях: настаўнікі праводзяць сярод бацькоў адпаведную агітацыю (вядома, не на карысць роднай мове), затым бацькі пішуць адпаведную заяву. Усё нібыта па законе...

Мова — носьбіт культуры народа. Калі і надалей так будзе доўжыцца, у тым ліку і ў адносінах да моў іншых народаў краіны, то як можна будзе праводзіць такія фестывалі далей?

Фактычна беларусы аказаліся ў якасці нацыянальнай меншасці, калі ўлічваць стан народнай адукацыі і распаўсюджанасць дзяржаўнай мовы як сродку інфармацыі. Рускамоўны эфір практычна поўнасцю запоўніў краіну, ім таксама карыстаюцца і дзяржаўныя сродкі электроннай інфармацыі. Тое ж самае можна сказаць і пра дзяржаўную прэсу (у дадатак яна яшчэ і неаб'ектыўная). Беларускамоўныя назвы газет і дыктарскі тэкст пагоды не робяць.

Пра моўны стан другіх народаў краіны гаварыць не бяруся, бо амаль нічога не ведаю. Не памылюся, калі скажу, што хваліцца, відаць, ім таксама няма чым. Знаю, праўда, што ў новым навучальным годзе ў Гродне будзе адкрыта польскамоўная школа. Аб адкрыцці школ другіх народаў, у тым ліку і беларускага, не чуваць.

Да гэтага застаецца толькі дадаць, што ў дзень адкрыцця фестывалю быў сведкам, як група настаўнікаў і вучняў стаяла з пікетам каля будынка Гродзенскага аблвыканкама. На плакаце быў надпіс з заклікам выконваць Закон аб адукацыі. Іх ніхто не прыняў: "Усе пайшлі на фестываль".

**В. ШАЎРОЎ**

*г. Гродна*

# "ТУТ СВОЕАСАБЛІВЫ МЕНТАЛІТЭТ"

***На пытанні нашага карэспандэнта адказвае адзін з ініцыятараў і арганізатараў першага рэспубліканскага Фестывалю нацыянальных культур, прэзідэнт аб'яднання татар-мусульман Беларусі "Аль-Кітаб" Барыс Іванавіч ШАБАНОВІЧ***

**— Барыс Іванавіч, падчас святаў мы ўсе жывём пачуццямі і толькі пазней пачынаем ацэньваць, аналізаваць. Самы час вярнуцца да Фестывалю нацыянальных культур, што напрыканцы мая адбыўся ў Гародні. І так — плюсы і мінусы.**

— Пра мінусы казаць я буду менш, бо не заўсёды іх можна выносіць на людзі. Каб не нашкодзіць. Нацыянальныя пачуцці — далікатнейшая справа, у сувязі з гэтым можа быць шмат нюансаў. Не дай Бог штосьці не тое скажаш...

**— Што ж, тады пачнём з плюсоў.**

— А яшчэ лепш — з перадгісторыі фестывалю. Нацыянальныя суполкі з'явіліся на Беларусі ў 1989 годзе, у іх ліку — і аб'яднанне "Аль-Кітаб". Мы здолелі аб'яднацца і стварыць Асацыяцыю кіраўнікоў нацыянальна-культурных суполак Беларусі. Гэтая арганізацыя не зарэгістравана ў Мінюсце, яна як бы нефармальная. Галоўнае, што асацыяцыя існуе, пра яе ведаюць, з ёй лічацца. Мы не хочам і не павінны навязваць свае погляды асобным суполкам. Мы толькі збіраемся, абмяркоўваем агульныя пытанні, прымаем сумесныя рашэнні: чаго патрабаваць ад улад, што прасіць, як дзейнічаць далей. Вядома — у кантэксце усебеларускага адраджэння. Гэта адзіны суцэльны паток, і што ў ім адрозніваюцца галасы так званых меншасцей — заслуга беларускага народа.

**— Яго славутай талерантнасці, якую падчас не так разумеюць і не без поспеху скарыстоўваюць.**

— Як бы вы самі ні ацэньвалі гэтай з'явы — факт ёсць факт: нацыянальная раўнавага існавала на зямлі Беларусі са старажытных часоў. Менталітэт беларусаў сугучны іншым народам, што здаўна тут жывуць і зрасліся з карэннай нацыяй.

**— Адраджэнскім працэсам — і большасці, і меншасцей — спрыяла набыццё дзяржаўнасці. Усе раптам страпянуліся і адчулі сябе людзьмі. Аказалася, што на беларускай зямлі жывуць прадстаўнікі больш чым ста нацыянальнасцей...**

— ...І перад намі паўстала задача выпрацоўкі канцэпцыі адраджэння нацыянальна-культурных меншасцей. Шляхам сустрэч з Кабінетам Міністраў мы прыйшлі да высновы, што гэтым пытаннем павінны займацца ўлады, а не толькі зацікаўленая грамадскасць.

**— Адным словам, вы захацелі паставіць справу на дзяржаўную нагу?**

— Нацыянальная палітыка — гэта заўсёды справа дзяржавы і павінна засноўвацца на раўнавазе, роўнабаковым развіцці ўсіх народаў. Мы не патрабуем нейкіх прывілей: ва ўсіх нас адна канстытуцыя, усе мы роўныя перад грамадствам. З цягам часу быў створаны Савет па справах меншасцей пры Кабінеце Міністраў. Такім чынам, мы дабіліся разумення, што займацца намі, выкарыстоўваць нашу актыўнасць павінна дзяржаўная ўлада.

**— Калі ласка, колькі слоў пра склад савета і яго дзейнасць.**

— У яго ўваходзяць міністры ад культуры і адукацыі, намеснікі міністраў ад МЗС, працы, эканомікі, ад МУС на ўзроўні начальнікаў упраўленняў, ад Міністэрства юстыцыі. Ну, і, вядома, кіраўнікі ўсіх суполак. Атрымаўся досыць цікавы орган — грамадска-дзяржаўны. Сярод канкрэтных спраў Савета — выязное пасяджэнне ў Віцебску, дзе разглядаліся наступныя пытанні: 1) праблемы нядзельных школак; 2) аб працы аб'яднання "Аль-Кітаб"; 3) аб практыцы работы Віцебскага аблвыканкама з нацыянальна-культурнымі суполкамі. Гэтае пасяджэнне было падрыхтоўчым звяном да навукова-практычнай канферэнцыі "Нацыянальныя меншасці Беларусі: шляхамі супрацоўніцтва і згоды".

**— Наколькі я ведаю, вопыт такіх канферэнцый у вас ужо быў?**

— За апошнія гады мы двойчы праводзілі канферэнцыі, якія мелі статус міжнародных. Першая была прысвечана рассяленню татар на землях Беларусі, Літвы і Польшчы, другая разглядала ўзаемадзеянне ісламскай культуры з беларускай і іншымі. Удзельнічала каля 100 вучоных з многіх краін свету, выдадзены іх даклады. Са свайго боку праводзілі падобныя канферэнцыі палякі і яўрэі. Вось мы і вырашылі: чаму б не правесці супольнае мерапрыемства? (Падрабязна пра яго, дарэчы, пісала "Культура"). Канферэнцыя не проста папярэднічала першаму рэспубліканскаму Фестывалю нацыянальных культур — яна рыхтавала для яго канцэптуальную глебу.

**— Нарэшце мы ўшчыльную падышлі да майскай святочнай дзеі. Што яна адбылася ў Гародні — гэта выпадковасць?**

— Мы доўга думалі, дзе быць фестывалю. Гродзенскія ўлады самі выступілі з ініцыятывай, бо зноў-такі мелі вопыт — неаднойчы праводзілі сумесныя святы палякаў з літоўцамі. Павінен сказаць (гэта якраз тыя плюсы, пра якія вы пыталіся), што гродзенцы паставіліся да нашага свята з выключнай цеплынёй і чалавечнасцю. Адно што міліцыі было мнагавата (перастрахоўка, ці што?) Пасля майго выступлення пры адкрыцці падыходзілі людзі, ціснулі руку, дзякавалі... Так што гэты фэст — не аднаразовая акцыя і не самамэта. Гэта адна з праяў сумоўя, кантакту розных культур Беларусі. Ад яўрэяў на канцэрце выступалі выкладчыкі музычных вучылішчаў са сваім ансамблем. Там і беларусы ўдзельнічалі. У дзіцячым ансамблі "Турначык" (жураўлік) таксама не толькі татарскія дзеці. Ну і што? Хіба гэта блага?

**— Барыс Іванавіч, для нас, беларусаў, востра стаіць пытанне самасвядомасці. Што зберагло як этнас беларускіх татар, што спрыяла вашай нацыянальнай ідэнтыфікацыі?**

— Мабыць, рэлігія. Найперш рэлігія. У гэтым хрысціянскім краі, на стыку цывілізацый адбылася трансфармацыя рэлігій, сфарміраваўся своеасаблівы менталітэт. Скажам, калі параўнаць нас, сучасных татар Беларусі, з жыхарамі Татарстана, то аснова будзе адна, а кампаненты — розныя. Мы многае страцілі — мову, музыку, песні, абрады. Нявесту на дзяжу садзім, як і ў вас, песні беларускія пяём... І ўсё ж мы ёсць, мы захаваліся, бо рэлігійныя традыцыі найбольш жывучыя.

У наступным годзе мы будзем адзначаць 600 год масавага рассялення татар на Беларусі. І ўжо зараз пачынаем рыхтавацца да гэтага вялікага свята.

**— Поспехаў вам — і ў святы, і ў будзённай працы дзеля адраджэння.**

**Гутарыла Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

Анонс

# КНІГА ПРОСІЦЬ РАТУНКУ

## НЕДЗЯРЖАЎНАЯ ВЫДАВЕЦКАЯ ДЗЕЙНАСЦЬ У БЕЛАРУСІ: ГІСТОРЫЯ І СУЧАСНАСЦЬ

Адным з фактараў развіцця новага грамадства з'яўляецца нармальнае функцыяніраванне ў ім выдавецкай дзейнасці. У Беларусі на фоне агульнага крызісу эканомікі адбываецца спад у выдавецкай сферы. Адсутнасць прадуманай дзяржаўнай палітыкі ў гэтай галіне (як гэта робіцца ў Расіі) адмоўна ўплывае на фарміраванне кніжнага рынку рэспублікі. Дзяржава практычна перастала клапаціцца аб той частцы выданняў, якія ва ўсім свеце карыстаюцца дзяржаўнай падтрымкай ці спонсарскай дапамогай. Скарачэнне выдавецкай прадукцыі — шлях да інтэлектуальна-духоўнай катастрофы нацыі, дапусціць якую мы не маем права.

Звярнуць увагу грамадства на такую сітуацыю магчыма шляхам "крыку на ўвесь голас" або спакойнага, але метадычна паслядоўнага ўздзеяння на свядомасць грамадзян сродкамі mass media. Напрыклад, у артыкуле генеральнага дырэктара ВВК "Эрыдан" А. Патупы "Книгоиздание в Беларуси: Некоторые тенденции в свете статистики — коллапс или третья волна рыночной адаптации?" ("Фемида", 1996, 12 лютага, N 7) даецца "некалькі простых прапаноў" выхаду з крызісу.

Тэму падтрымалі на факультэце бібліятэчна-інфармацыйных сістэм і ў аддзеле рэдкай кнігі бібліятэкі Беларускага універсітэта культуры, а таксама ў Беларускай бібліятэчнай асацыяцыі. Гэтыя зацікаўленыя арганізацыі прапаноўваюць праект правядзення навукова-практычнай канферэнцыі "Недзяржаўная выдавецкая дзейнасць у Беларусі: гісторыя і сучаснасць".

Асноўная ідэя праекта — правесці канферэнцыю (5—6 верасня 1996 г.), на якой сабраць навукоўцаў Беларусі і замежных краін, прадстаўнікоў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Міністэрства сувязі і інфарматыкі, Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку, журналістаў, рэдактараў незалежных газет і часопісаў, супрацоўнікаў бібліятэк, Нацыянальнай кніжнай палаты Рэспублікі Беларусь, кнігагандлёвых дзяржаўных і недзяржаўных цэнтраў і абмеркаваць агульныя пытанні іх дзейнасці і ўзаемадзеяння.

Мяркуецца разгледзець праблемы гісторыі і сучаснага стану выдавецкай дзейнасці ў Беларусі і беларускай дыяспары за мяжой, звярнуць увагу грамадскасці на складанае становішча сучаснага існавання выдавецкай справы ў Рэспубліцы, актуальнасць стварэння нарматыўна-заканадаўчай базы рэгулявання дзейнасці недзяржаўных выдавецтваў, узаемаадносін паміж недзяржаўнымі выдавец-твамі і бібліятэчна-інфармацыйнымі структурамі.

На канферэнцыю выносіцца абмеркаванне наступных пытанняў: гісторыя беларускага недзяржаўнага друку; пытанні дзяржаўна-прававога рэгулявання выдавецкай дзейнасці на сучасным этапе; сучасны стан недзяржаўнай выдавецкай дзейнасці ў Беларусі; бібліятэкі і недзяржаўныя выдавецтвы: праблемы і ўзаемасувязі; праблемы распаўсюджання прадукцыі недзяржаўных выдавецтваў: маркетынг, цэнтры, кніжны гандаль; прадукцыя недзяржаўных выдавецтваў: галіновы, тэматычны, моўны і іншыя аспекты; незалежны перыядычны друк.

Жадаючыя прыняць удзел у рабоце канферэнцыі могуць дасылаць тэмы выступленняў на адрас: *220001, г. Мінск, в. Рабкораўская, 17, Аддзел рэдкай кнігі бібліятэкі Беларускага універсітэта культуры. Тэл. (17) 222-83-27, 222-83-07.*

**Тамара САМАЙЛЮК,**
**загадчык аддзела рэдкай кнігі бібліятэкі БУКа**

Экалогія

***Маштаб экалагічных праблем, якія навіслі над намі, набывае глабальны характар. Стан свету, у якім мы жывём, пагаршаецца з кожным днём. Скідваюцца сцёкавыя воды ў рэчкі і азёры, з прычыны чаго нясе страты эканоміка, хварэюць людзі і скарачаецца працягласць іх жыцця. У Беларусі, асабліва ў Мінску, ужо адчуваецца дрэнная якасць пітной вады. Самай забруджанай ракой застаецца Свіслач — вядома ж, пасля Мінска, прадпрыемствы якога забруджваюць яе бязлітасна. Схемы артэзіянскіх свідравін на будучае няма. Што мы, мінчукі (і наогул беларусы), будзем піць праз 10-15 гадоў? А чым мы дыхаем? Летась прымысловыя выкіды ў атмасферу склалі 508 тысяч тон. А колькі шкоды прыносяць выкіды аўтамабільнага транспарту? Толькі ў Мінску ў сарака працэнтаў дзяцей павышанае ўтрыманне свінцу ў крыві. Перавышана і норма ўтрымання кадмію. А якое паветра ў Магілёве, Наваполацку, Светлагорску?***

***Пасля Чарнобыля, як гэта ні парадаксальна гучыць, мы быццам прызвычаіліся да стану экалагічнай катастрофы і не заўважаем таго, чаго, здавалася б, не заўважаць нельга. Нашы сметнікі, так званыя звалкі, перавысілі ўсе тэрміны эксплуатацыі, а смеццеперапрацоўчых заводаў (за выключэннем мінскага і магілёўскага) як не было, так і няма.***
***А таксічныя адходы? Далёка не кожнае прадпрыемства мае магчымасць затраціць на іх перапрацоўку немалыя сродкі, у выніку атрута трапляе ў тыя ж нашы шматпакутныя вадаёмы. Дык на якім экалагічным сметніку мы жывём?***

***Экалогія — гэта ўзаемаадносіны чалавека і навакольнага асяроддзя. На жаль, сёння гэтыя ўзаемаадносіны неразумныя, мякка кажучы. Сёння чалавек нігілістычна адмаўляе прыродаахоўныя нормы і правілы, экалагічнае бескультур'е і невуцтва набываюць небяспечны размах. Смецце, кучы бітага шкла, выжарыны пасля распаленых дзікунамі вогнішчаў у лясах і пералесках, мазутныя і бензінавыя плямы ў рэчках і азёрах, паламаныя і знявечаныя дрэвы, выдраныя з грыбніцай і карэннем жалезнымі граблямі ягаднікі і грыбы — вось вынік гэтага прыроднага нігілізму і экалагічнай нявыхаванасці.***

***Уся гэтая процьма пытанняў і праблем і прывяла мяне ў кабінет да Міхаіла Іванавіча РУСАГА, міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Міністэрства адносна новае, таму і маё першае пытанне прагучала прыкладна так:***

# ШТО ЖЫЦЦЁ НАША? ЗДАРОЎЕ ПРЫРОДЫ...

## КАРЭСПАНДЭНТ "ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА" ГУТАРЫЦЬ З МІНІСТРАМ ПРЫРОДНЫХ РЭСУРСАЎ І АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ

**— Міхаіл Іванавіч, якімі функцыямі надзелена ваша міністэрства і якая яго структура?**

— Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя створана, альбо вырасла з былога "Дзяржкампрыроды", функцыі якога былі досыць вузкія. У склад міністэрства ўваходзяць Камітэт па экалогіі, Камітэт па зямельных рэсурсах, Камітэт рыбааховы, вытворчае аб'яднанне "Беларусьгеалогія" і іншыя падраздзяленні ці структуры. Мы вядзем разведку прыродных рэсурсаў, выяўляем іх запасы, выдаем дазвол і вызначаем ліміты на іх здабычу — напрыклад, калійнай солі, нафты і торфу і г. д. Тое ж тычыцца і лесу. Мы вызначаем лесагаспадарнікам ліміты на тое, што, дзе і колькі можна высекчы — каб лес забяспечваў прырост, каб не атрымалася так, што ў пагоні за прыбыткам рабаваць дзяцей і ўнукаў. Прынцып тут у нас такі: інтэграцыя экалагічных пытанняў у эканамічныя рэформы, інакш кажучы — іх узаемная сувязь, бо "чыстая экалогія" без эканомікі нікому непатрэбна, а эканоміка без экалогіі — гэта пагібель людская, смерць чалавецтва. У тым сэнсе, калі мы бяздумна будзем "працаваць" з тым жа лесам, з вадою, з іншымі прыроднымі рэсурсамі...

**— На чым павінна быць заснавана гэтая праца? На чалавечым розуме, разважлівасці, цвярозасці, прадбачлівасці? Ці не замала ўсіх гэтых маральных катэгорый? Пэўна ж, праца гэтая павінна быць угрунтавана на прававой, заканадаўчай базе?**

— Безумоўна. Заканадаўчая база павінна быць асновай у рабоце па захаванні, зберажэнні і паляпшэнні стану навакольнага асяроддзя. Пакет прыродаахоўных законаў павінен складацца прыкладна з 16 актаў. Палова з іх, гэта значыць 8, прынята ўжо. Асноўным стаў Закон "Аб ахове навакольнага асяроддзя". Наступны закон — "Аб экалагічнай экспертызе". У нас зараз ёсць Галоўная інспекцыя па дзяржаўнай экалагічнай экспертызе. Нашы структуры ўзялі пад нагляд усе асноўныя будоўлі, якія могуць рэальна ўплываць на пагаршэнне навакольнага асяроддзя і паставілі іх у даволі жорсткія ўмовы. Наколькі гэтыя ўмовы жорсткія, сведчыць тое, што мы адхіляем, не даем "блаславення" кожнаму другому праекту. Створаны экалагічныя карты Мінска і ўсіх буйных прамысловых цэнтраў краіны. Прамыслоўцы хочуць будавацца там, дзе ёсць газ, вада, чыгунка, іншыя камунікацыі, але аднаго іх жадання мала, апошняе слова — за экалагічнай дзяржаўнай экспертызай. Такі, скажам, прыклад. "Белвар" пабудаваў цэх па зборцы акумулятараў, а неўзабаве загаварылі аб яго пашырэнні, аб новым там будаўніцтве, каб, маўляў, задаволіць шырокі попыт і г. д. Мы ж сказалі: не, там будзе толькі зборачны цэх і не больш, шкоднага прадпрыемства мы дазволіць не можам, нават калі яно і эканамічна выгаднае.

Далей назваў бы Закон "Аб экалагічным падатку". Ён прымушае карыстальнікаў прыроднымі рэсурсамі сур'ёзна думаць над тым, каб зводзіць да мінімуму розныя скіды і выкіды, бо рахункі за гэта мы выстаўляем таксама вельмі "сур'ёзныя". За кожнае перавышэнне нормы скідаў ці выкідаў сёння трэба плаціць. Інспекцыя наша працуе аператыўна, выязджае ў любы час, без папярэджання бярэ на праверку заборы вады ці паветра. Санкцыі супраць парушальнікаў — не толькі штрафныя плацяжы, якія могуць дасягаць мільёнаў і нават мільярдаў рублёў. Сваімі санкцыямі мы можам і зачыніць прадпрыемства-штрафнік, як зачынілі мы, да прыкладу, некалькі асфальтных заводаў, што былі пабудаваны без праектаў і ў недазволеных месцах. Тое ж самае можна сказаць пра аварыі, якія, на жаль, па-ранейшаму надараюцца. Згадаю аварыю ў Гомелі — там выліўся ў рэчку нафтапрадукт. Мы выставілі іск на 37 мільярдаў рублёў, і суд нас падтрымаў, няхай сабе і не на ўсю суму, а толькі на 8 мільярдаў. Але і гэта — грошы вялікія, траціць якія наўрад ці хто захоча, лепш падумае пра нармальную тэхналогію ці надзейную сістэму папярэджання. Само сабою, што "штрафныя" сродкі ідуць на прыродаахоўныя мерапрыемствы. Мы будуем ачышчальныя збудаванні, новыя вадаводы, новыя фільтры на прамысловыя выкіды, новую апаратуру. І гэты закон сёння працуе досыць сур'ёзна. Па такім прынцыпе, дарэчы, жыве ўвесь свет. Асабліва жорстка падыходзяць да экалагічных праблем у Германіі і Швейцарыі, там з парушальнікамі прыродаахоўных законаў, проста скажам, не цырымоняцца. Вядома, нікому не хочацца плаціць вялікія экалагічныя падаткі, аднак — трэба, таго вымагае закон. Вось і салігорскія калійшчыкі наракалі на нас, што выставілі ім рахунак на 5 мільярдаў рублёў, але ж — вымушаны былі заплаціць. Не хочаш плаціць — не шкодзь прыродзе! Залежнасць — самая простая...

**— Сапраўды, як клятва Гіпакрата: "Не нашкодзь!" Настаў час сур'ёзна ўзяцца за экалагічнае выхаванне грамадства, бо на карту пастаўлена само выжыванне чалавека, не кажучы пра ягонае здароўе, якое неад'емнае ад здароўя навакольнага асяроддзя. Асяроддзе ж гэта зведвае велізарны, так бы мовіць, ціск адходаў — прамысловых і бытавых. Якая сітуацыя з адходамі, Міхаіл Іванавіч? Як у нас эксплуатуюцца звалкі? Як выкарыстоўваецца другасная сыравіна? У цывілізаваным свеце наладжана схема раздзельнага збору смецця, і гэтая схема прыносіць выгаду. А ў нас на сметніках — слоікі, бутэлькі, люмінесцэнтныя лямпы, макулатура, рыззё, абутак...**

— Прамысловых і бытавых адходаў у нас назапасілася сотні мільёнаў тон. У Салігорску ляжыць 500 мільёнаў тон солеадвалаў, у Гомелі — тысячы тон фосфагіпсу, на Бабруйскім і Рэчыцкім гідролізных заводах — тысячы тон легніну. Гэта — адходы, але ж адначасова — і каштоўная другасная сыравіна. Скажам, з солеадвалаў можна атрымліваць каўстычную соду. Яе мы купляем за мяжою, між тым як у нас распрацаваны праект атрымання каўстычнай соды з уласнай сыравіны. Ды толькі праект так і застаўся праектам, як у нас часта робіцца. Гэтак жа было і з заводам біяпрэпаратаў: маўляў, навошта ён нам? А цяпер усе заклапочаны: дзе падзеліся медыцынскія біяпрэпараты! Зараз, як я гаварыў ужо, кожны праект праходзіць экалагічную эспертызу. І калі прынята рашэнне там ці яшчэ дзе-небудзь будаваць завод, дык эмоцыям, пачуццям незадаволенасці асобных людзей паддавацца не трэба. Напрыклад, гамяльчане, вядома ж, незадаволены, што ў іх будуецца палігон таксічных адходаў, тым не менш, — палігон будуецца. Таксічных адходаў, інакш кажучы, страшнай атруты, у нас назапасілася дзесяткі мільёнаў тон, і іх неяк трэба уніфікаваць, абясшкодзіць. Працуюць у нас лакафарбавыя заводы, заводы медыцынскіх прэпаратаў, ядахімікатаў — куды дзяваць адходы вытворчасці? Прынялі рашэнне пад Чачэрскам, у зоне адсялення, на пакінутых землях будаваць адзіны ў рэспубліцы палігон для шкодных адходаў. Геолагі перабралі не адзін дзесятак мясцін. Галоўнай умовай павінна быць наяўнасць "падземнага замка" — гэта значыць, каб не было падземных вод. Урэшце знайшлі унікальнае месца, дзе гліняны "замок" ажно ў сем метраў. І замест таго, каб усёй грамадой скінуцца і пачаць будоўлю, усчаліся спрэчкі, пустыя гаворкі, беспрадметныя дыскусіі. Адходы ж тым часам працягваюць забруджваць ваду, зямлю і паветра.



**— Нашы людзі і праўда прывыклі адно думаць: абы вайны не было, а ўсё іншае неяк перажывём. А тое, што хварэем мы ўсе ад тых самых нітратаў, якія нават у артэзіянскай вадзе выяўляюць, не задумваемся. Дарэчы, па дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, усе хваробы і бяруць пачатак ад кепскай пітной вады. Якая ў нас вада, Міхаіл Іванавіч? У рэках азёрах, у калодзежах і водаправодах?**

— Беларусь — унікальная краіна, з унікальным экалагічным комплексам. Зірнём на нашы рэкі. Аніводная з іх не прыцякае да нас, усе цякуць ад нас, і прырода зрабіла так, што палова рэк нясуць свае воды ў Чорнае мора, а другая палова — у Балтыйскае. І гэта нас да многага абавязвае. Вось Заходняя Дзвіна. Яна стварае сур'ёзныя праблемы. Літоўцы 70% вады з Заходняй Дзвіны спажываюць на піццё, і цяпер Літва патрабуе ад нас чыстай вады. Мы вымушаны сур'ёзна рупіцца аб гэтым: сістэма ачышчальных збудаванняў на Дзвіне даволі салідная. І Нёман стаў чысцейшы, адрэгуляваны раён Стоўбцаў — там нарэшце ўзведзены ачышчальныя збудаванні.

Сёння ва ўсім свеце стаіць праблема пітной вады. Не абышла яна і нас, на жаль, хоць запасы пітной вады ў Беларусі ўнушальныя. Ды бяда ў тым, што не навучыліся мы як след скарыстоўваць яе. Зазірніце ў нашы магазіны. Паліцы там застаўлены польскай пітной вадой у пластмасавых пляшках. Ці не смешна гэта? Наша ж вада куды лепшая па ўсіх паказчыках! Быў я ў Нью-Йорку. Адзін галон пітной вады каштуе там 3 долары і стаіць у кожнага ў халадзільніку. Чаму б і нам гэтак не рабіць? Упэўнены, многія куплялі б чыстую артэзіянскую ваду, а не пілі б з крана нешта падобнае на ваду, з забойчым пахам хлоркі.

**— Сапраўды, вадзе нашай усе замежныя госці зайздросцяць. А пра цудадзейныя беларускія крыніцы легенды ходзяць. Вунь крыніца ў мінскай Вяснянцы — там нават капліцку пабудавалі, людзі з усяго Мінска з'язджаюцца, каб папіць той "святой" вадзіцы. Добрай славай карыстаюцца і мінеральная беларуская вада, ці не праўда?**

— Мінеральная вада ў нас — шасці накірункаў, аналагі ёй — трускавецкая, вярска, міргарадская, ашхабадская і інш. У нас разведана унікальных мінеральных крыніц столькі, што вады з іх хапіла б на палову Еўропы. Выйшлі мы на савет прадпрымальнікаў: маўляў, ёсць забураныя свідравіны, ёсць гатовыя — стаўце лініі разліву, абагачайцеся. Дык і тут дае аб сабе знаць наша непаваротлівасць, марудлівасць. Лепш купім кансерваваны хімэактыў і будзем піць, а сваё — не цэнім...

**— Міхаіл Іванавіч, акрамя вады, запасамі якіх прыродных рэсурсаў можа пахваліцца наша Беларусь?**

— А сім-тым можа і пахваліцца. Скажам, у нас ёсць досыць значныя запасы поліметалічных водных канцэнтратаў. У адным літры такога расолу знаходзіцца да 300-400 міліграм соляў у іённым стане, і можна атрымліваць з іх чысцейшы ёд, бром, ліцій, стронцый (не радыеактыўны, а той, што патрэбен для вырабу фотаэлементаў). Цяпер нашы геолагі сумесна з тэхналагічным універсітэтам працуюць над тым, каб стварыць прамысловую ўстаноўку па перапрацоўцы водных канцэнтратаў. Яна патрэбна краіне, бо і той жа ёд, і бром мы дагэтуль купляем за мяжой, а маглі б даўно мець свой. Ёсць нафта, хоць і не гэтак шмат, як хацелася б, і залягае яна глыбока, здабываць яе цяжка, тым не менш нашы натфавікі ўсё ж даюць штогод нафтаперапрацоўшчыкам каля 2 мільёнаў тон "чорнага золата". Ёсць у нас залежы жалезных руд. Утрыманне жалеза ў іх, праўда, невялікае, да 27 працэнтаў, аднак жа, на думку вучоных, іх можна перапрацоўваць і забяспечыць тым самым жалезам нашы металургічныя камбінаты. Пераважная большасць радовішчаў розных карысных выкапняў знаходзяцца на Гомельшчыне, на так званым Прыпяцкім прагібе. Ёсць там і буры вугаль, і вядома ж, калійная соль. На ўжо разведаных запасах мы спакойна можам павялічваць вытворчасць калійных угнаенняў у 2-3 разы. Практычна невычэрпныя ў нас запасы спажыўнай солі. Сёння мы яе здабываем прыкладна 2 мільёны тон, а ўжо ўзнікла праблема яе збыту. Дастаткова ў нас граніту і іншых будаўнічых матэрыялаў, маглі б імі забяспечыць сябе цалкам,

*(Працяг на стар. 12)*

таратура і ўся нацыянальная культура выканае Боскую місію, калі застанецца Святлом у цемры, будзе ствараць і папулярызаваць нацыянальныя самабытныя духоўныя каштоўнасці. Толькі на гэтым шляху можна "дамагчыся папулярнасці беларускамоўнага твора". Узорам такога пісьменніка для мне былі і засталіся Васіль Быкаў і Ніл Гілевіч. Высокі аўтарытэт прынясе і "паэзія чыстае красы", створаная ў мураванай вежы-званіцы, а таксама і сацыяльна ангажаваная, барацьбітная літаратура і публіцыстыка.

У абодвух выпадках творцы мастацтва не будуць абыякавымі да лёсу Бацькаўшчыны. Неабавязкова перамагаць: Бог любіць хутчэй пераможаных, чым пераможцаў. Банальны прыклад — гістарычны лёс Нямеччыны і Японіі. Але барацьба павінна быць абазначана хоць бы сімвалічна. Як у евангельскім архетыпічным сюжэце, калі Юда з атрадам "воінаў і служак ад першасвятароў і фарысеяў", узброеных мячамі і палкамі, прыйшоў, каб узяць Ісуса Хрыста: "А Сымон Пётра, маючы меч, дастаў яго і ўдарыў першасвятарова раба, і адсек яму правае вуха..." (Ян 18:3—10).

Адказваючы на трэцяе пытанне, скажу нешта, што, мабыць, здасца парадоксам. Змагацца за выжыванне Беларусі, роднае мовы і культуры беларусам наканавана не толькі пры дыктатуры, але яшчэ з большай энергіяй ва ўмовах самай што ні на ёсць еўрапейскай дэмакратыі. З разумным дыктатарам (хоць ён — рэдкасць) можна дамовіцца, напрыклад, пераканаць яго, што беларускі сіні васілёк упрыгожыць суквецце культур братніх народаў. А стыхія дэмакратыі, асабліва калі яна без Бога ў душы, можа з лёгкасцю "з'есці" этнасы і цэлыя нацыі, якія не прайшлі гартавання ў рамках нацыянальнай дзяржаўнасці і традыцыі дзяржаўнага моўна-культурнага пратэкцыянізму.

Змена пісьменніцкіх пакаленняў датычыцца хутчэй праблемы пераемнасці ў развіцці літаратуры, чым жыццёвага лёсу пісьменнікаў. Тут няма простай храналагічнай паслядоўнасці. Па аналогіі з выслоўем "Бог ёсць Бог жывых, а не мёртвых", можна сказаць: рэгіянальная (нацыянальная) сусветная літаратура ёсць суквецце вечна жывых яе творцаў. Увайсці ў літаратуру — значыць далучыцца да гэтай духоўнай вечнасці. Нашымі папярэднікамі ў літаратуры застаюцца ўсе яе творцы — ад Кірылы Тураўскага і Францішка Скарыны да нашых славутых сучаснікаў, якія ўжо выявіліся ў творчасці. Непасрэднымі ж сваімі папярэднікамі я мог бы назваць маладнякоўска-ўзвышанскае пакутніцкае пакаленне літаратараў 1920—1930-х гадоў.

Што тычыцца наступнікаў, то мы тут не маем права голасу: выбіраць — ім, а не нам. Для нас, тэарэтыкаў і крытыкаў, мае значэнне свая школа ў навукова-літаратурнай працы. Мы, кожны па-свойму, далучаемся да яе падрыхтоўкі праз навучанне студэнтаў, асабліва ў малакалькасных навукова-творчых семінарах. Калі з дзесяці ўдзельнікаў семінара адзін студэнт акажацца "наш", то гэта ўжо ўдача.

**Уладзімір КОНАН**

---

калі хто не ведае яго змест, няма не толькі яўнай небяспекі дзяржаве, там няма нават заклiку да антыдзяржаўнага акта, бо заклік ёсць **інструкцыя**, а не голыя абстракцыі; калі, напрыклад, пісьменнік заяўляе, як ён ненавідзіць Чарнобыль, гэта зусім не разумеецца падрабязнай інструкцыяй па тэрарыстычных актах на АЭС.

Вось такая атрымліваецца "паэзія чыстай красы"...

3. У многім дзякуючы прынцыпу "хай цябе сёння, а мяне заўтра", у нас аказалася фізічна вынішчанае амаль цэлае пісьменніцкае пакаленне. Можна толькі здагадвацца, якой была б нашая літаратура цяпер, калі б не страта таго пакалення (у віну прадстаўнікам якога, дарэчы, ставіліся не дзеянні, а словы).

Нават матэрыялісты прызнаюць, што нічога не з'яўляецца ніадкуль і не знікае ў нікуды, а пераходзіць у іншыя формы. Найвялікшы Боскі дар — жыццё, перададзены нам, нібы **эстафета**, і мы проста абавязаны жыць не толькі за сябе, а хоць крышку і за тых, "што праўды па свеце шукалі, ды, не здабыўшы, у дамоўкі без часу сышлі".

**Андрэй ФЕДАРЭНКА**

---

Часопісы

# ШЧОДРАСЦЬ АДАБРАНАГА ЗЕРНЯ

"З людзьмі і сам-насам" — чарговая падборка Я. Брыля, што мае падзагаловак "З лірычных запісаў" і адкрывае майскі нумар "Полымя", займае ў ім ці не палову аб'ёму. Калі пачынаеш знаёміцца з гэтымі занатоўкамі, зробленымі падчас роздуму аб жыцці, аб лёсах людзей, з якімі давялося ў розныя гады і пры рознай нагодзе сустракацца аўтару, разумееш такую "шчодрасць" рэдакцыі, якая не паскупілася плошчай, ахвочы слыннаму майстру так шмат месца. Я. Брыль ніколі не быў ахвочы да шматслоўнасці. І гэтым разам ашчаджае слова. І час чытача таксама, бо ўпэўнены, што няма неабходнасці шмат гаварыць там, дзе найлепей спрацоўвае лаканічнасць, падмацаваная трапнасцю жыццёвага назірання. Як у гэтым запісе: "Прачытаўшы, што на восьмым дзесятку выйшаў N з партыі, смешна падумалася: колькі ўсяго ўсялякага ён набраў ад яе?! Лаўрэацтва, геройства, акадэмічнасць, прэзідыумы, замежныя паездкі, бясконцыя выданні! Пара і адпачыць. З удзячнасцю?.."

Удумвайся, чытач, у сказанае. Удумвайся і рабі высновы. Паспрабуй разабрацца — найперш, канечне, для самога сябе. І не толькі ў лёсе гэтага самага N. Кінь позіркам наўкола. Ці не зашмат развялося сярод нас падобных "праведнікаў", якія раптоўна становяцца "чыстымі", ад усяго ранейшага лёгка і беспаваротна адмаўляюцца? Ці няма ў гэтых іх паводзінах, быццам бы ў многім і апраўданых, бо нішто на зямлі, а значыць і ў поглядах чалавека на вечнае — ці няма звычайнага прыстасаванства? Таго самага, якое, заўсёды спадарожнічала ім і толькі цяпер узяло іншы накірунак? Хоць, калі задумацца, дык і папракнуць гэткага "адраджэнца" няпроста. Могуць некаторыя і не зразумець. Як жа гэта так — чалавек у сталым веку стаў на правільны шлях, а ёсць ахвотнікі засумнявацца ў яго сумленнасці? У рэшце рэшт наконт гэтага Я. Брыль таксама не прамінуў выказацца: "І зноў думаецца пра **гульню** (тут і далей выдзелена Я. Брылём. — **А. М.**), якою мне часта за апошнія гады здавалася наша беднае адраджэнне. Многа, замнога гульні!..

А гаварыць такое ўголас, няхай сабе ў нейкай меры і ясна, абгрунтавана — будзе сустрэта, чаго добрага, як здрадніцтва".

Я. Брыль не быў бы Я. Брылём, калі б не заставаўся самім сабой. Таму і не баіцца ён, што тое ці іншае яго меркаванне нехта зразумее няправільна. Магчыма, у "здрадніцтве" і не абвінаваціць, тым не менш не прыме выказанага. Ды і як можна маўчаць, калі сёй-той у сваёй "беларускасці" кідаецца ў крайнасці, на якія здатны ці чалавек недалёкі, альбо звычайны інтрыган, гатовы з поспехам выкарыстаць для сбе выйгрышнасць моманту: "Пачуў, што цыбаты развязны лахмей, рэдагуючы ў маладзёжнай газеце матэрыял, закрэсліў у сказе словы "вялікія рускія пісьменнікі" і паставіў: "рускія белетрысты" — Талстой і Дастаеўскі... А другі, крыху здальнейшы, прыкметнейшы сказаў выступаючы: "Трэба нам вызваляцца ад гэтых барадатых класікаў!"

А сабе эпітэтаў не шкадуюць. Трэці з гэтай змены, можа, найбольш туманны, у надрукаванай аўтабіяграфічнай даведцы ўжо не толькі паэт, але і філосаф. Сам пра сябе"...

Лёгка згадаць, колькі маладых творцаў, своечасова атрымаўшы маральную падтрымку менавіта Я. Брыля, сталі вядомымі літаратарамі. Але быць добрым у дачыненні да сапраўднага таленту — гэта не значыць патураць бездарам, аматарам калялітаратурных гульняў і проста эксперыментатарам дзеля эксперыментатарства, хто хоча любой цаной звярнуць на сябе ўвагу: "Чытаючы любамудрыя выкрунтасы некаторых маладых і не надта ўжо маладых празаікаў, паэтаў і філосафаў, часам ўспамінаецца жаночая чарга ў паліклініцы былой і сённяшняй "лечкамісіі". Сядзячая чарга, у светлай выгодзе, у няспешнай гамане з больш ці менш выразным спаборніцтвам у свабодным веданні мудрагелістых назваў хваробаў і лекаў, з усёй эквілібрыстыкай замежных спецыяльных словакамбінацыяў, якія мне і да сценкі пастаўленаму не запомніць..."

Не хацелася б, каб у падобнай ацэнцы Я. Брылём напісанага некаторымі ледзь не са школьнага ўзросту "класікамі", нехта ўбачыў, як бы лепей сказаць... Відаць, правамоцным будзе гэтае: "З маладымі ў рожкі". Перафразіраваўшы колішняе маладнякоўскае "у рожкі са старымі". Не трэба шукаць таго, чаго няма. Лепей задумацца над тым, што ёсць. А навідавоку пазіцыя МАЙСТРА, які, валодаючы талентам "недюжинной силы", не прымае (і не пры якіх абставінах не можа прыняць!) падробкі пад талент, гульні ў... талент. І разам з тым, як відаць з яго новых запісаў, не праміне выпадку парадавацца поспехам іншым. Гэта адчуваецца ў запісах, у якіх згадваецца М. Танк. Зроблены яны пасля смерці знакамітага паэта. Тады, калі боль па незваротнасці страты асабліва моцны і адчувальны: "Гаварылася пра яго на паніхідзе, як пра паэта **вялікага**. Я — з тымі, хто адчуваў гэта даўно, і я зноў з прыкрасцю думаў, як цяпер некаторыя з нашых свянцаюць адзін аднаго эпітэтамі "апостал", "геній"... Том ягоны гартаў, што асвяжаючы ў памяці, толькі ўбачыўшы на старонцы, а што і перачытваючы. Адчувалася, што не процьма ягоных урадавых узнагарод патрэбна, бо **застанецца** тое, што **застаецца** ад сапраўднага літаратара, што не сам ён, а людзі называюць і **потым** назавуць вялікай паэзіяй".

І яшчэ... Ужо і з пэўнай доляй жадання разабрацца, а ці ўсё з напісанага М. Танкам заслугоўвае аднолькавай ухвалы, захаплення: "Танк неяк даўно казаў, што Багдановіч пісаў адразу выбранае. І тут гэта не зусім справядліва: каб Багдановіч пажыў даўжэй — было б і для адсеву, бо і ў тым, што ім напісана, сёе-тое магло б і ў адсеў пайсці.

У Танка адсеву хапае, ён і сам займаўся ім пры перавыданнях. Аднак... Шчаслівае аднак! — у яго такое багацце адабранага зерня, што мякіна, якая адвеялася, бачыцца тым часова неабходным, што павінна адслужыць і адысці, як і ў спрадвечнай, вечнай малацьбе і веянні".

Такія гэтыя развагі "з людзьмі і сам-насам". Я далёкі ад думкі, што яны адназначна будуць успрыняты, як і тое, што і раней з'яўлялася ў Я. Брыля ў гэтым жанры. Гаворка пра тое, наколькі спрацоўвае прыцягальная сіла таленту аўтара. А яна яшчэ як дае аб сабе знаць. Таму і чытаецца напісанае ім з цікавасцю. А за Я. Брылём ужо следам ідуць і іншыя, хто таксама прыхільнік лаканічнай літаратурнай формы.

Чарговы раз выходзіць на сустрэчу з чытачом у тым жа "Полымі" А. Гардзіцкі, прапануючы літаратурныя запісы і жарты "Вакол Парнаса". Гэтыя яго "бывальшчыны" (бадай, і такое вызначэнне жанру падыходзіць) тычацца як выпадкаў з жыцця асобных творцаў, так і ўвогуле жыцця літаратурнага ці калялітаратурнага. І не толькі на Беларусі. А. Гардзіцкаму не адмовіш ва ўменні быць назіральным. Як і ва ўменні падаць тое, што было пачута ад іншых.

...А. Кудравец апошнім часам не так і шмат друкуецца. Хоць, па праўдзе кажучы, і раней ён быў не надта творча пладавіты. Але пра каго можна сцвярджаць, што адразу піша выбранае, не сумняваючыся, дык пра яго. Пацвярджэнне таму — і новае апавяданне пісьменніка "Позні яблыкі". А. Кудравец не пабаяўся ўзяць для твора завельмі літаратурную назву. Не пабаяўся, бо зусім не ад літаратуры ідзе ён у гэтым творы (а што Анатоль Паўлавіч на сённяшні дзень адзін з самых выдатных нашых прыхільнікаў малога жанру, сумнявацца не даводзіцца), а ад самога жыцця. Больш таго, кранаецца тых яго момантаў, якія нядаўна яшчэ пісьменнікамі абыходзіліся, у цэнтры ўвагі аўтара — складаны лёс жанчыны, якая рана засталася без мужа, паколькі ён быў рэпрэсіраваны, а ў вайну страціла і сына. Доўгі час думала, што ён прапаў без вестак. І як не паверыць было, калі суседка-паштальёнка неяк прынесла "казённую паперку", у якой "было надрукавана на машынцы, што Гушча Уладзіслаў Іванавіч вылецеў на выкананне баявога задання і на базу не вярнуўся, а таму лічыцца без весткі прапаўшым. Далей была прыпіска, што пры з'яўленні новых матэрыялаў ваенны камісарыят паведаміць дадаткова". І зайздросціла гэтай самай суседцы, што сын той атрымаў званне Героя Савецкага Саюза.

Толькі праз шмат гадоў даведалася яна, што гэтая ўзнагарода напаткала ўсё ж і яе сына. Даведалася пасля таго, як і суседкі ўжо не стала — "два гады як памерла", а ўся рэч у тым, што абодва яны былі Гушчамі, абодва Іванавічамі. Толькі імёны крыху разніліся. Адзін Уладзіслаў, другі — Уладзімір...

У апавяданні дакладна не гаворыцца — па выпадковасці суседка ўсё пераблытала і атрымлівала пенсію не за свайго сына, ці наўмысна гэта зрабіла. Але ад усяго маці не лягчэй. І яна рашаецца на самае страшнае: канчае жыццё самагубствам.

А пачынаеш чытаць апавяданне і насцярожваешся, бо адразу сутыкаешся з залішняй традыцыйнасцю яго сюжэтнага ходу: "Некалі пасёлак цягнуўся на кіламетр, а мо і болей, і хаты стаялі так густа, як тое маглі дазволіць шэсцьдзесят сотак гародаў. Як і па ўсёй Беларусі, вайна і тут пракацілася жалезным катком, мужчын павыбіла, а хаты, дзякаваць Богу, пакінула. Адно толькі школа згарэла.

Усё гэта было даўно, паўста гадоў таму, а мы ехалі цяпер".

Чарговае вяртанне ў гады маленства, вяртанне ў родную вёску... Аднак як шмат яно можа сказаць, калі за пяро бярэцца пісьменнік па прызванні?! А такім нязменна і бачыцца А. Кудравец, кожнае новае апавяданне якога зместам цягне на аповесць, а то і на раман. Як і гэтае — "Позні яблыкі"...

Не адзін дзень заняло ў мяне знаёмства з гэтым нумарам "Полымя". Думаю, не менш часу адвядуць на яго і іншыя. Інакш і нельга — што ні матэрыял, дык — "не адпускае" ад сябе. Як і творы В. Віткі з яго будучай кнігі "Вучымся гаварыць", прысвечанай памяці Ф. Янкоўскага. Гэта свагo роду азбука для дзяцей, але азбука, якая вельмі розніцца ад прапанаваных іншымі аўтарамі. Хоць застацца арыгінальным аўтару было не так і лёгка. Тым не менш факт застаецца фактам: В. Вітка не проста ў паэтычнай форме падае літары алфавіта, а на асобны з іх піша па некалькі вершаў.

А вось Б. Бур'ян ("Шкельцы з мумеарнай мазаікі"), вяртаючыся на шмат гадоў назад, "прыгадвае некаторыя падрабязнасці літаратурнага жыцця і звычаяў мінулага", расказвае пра пісьменнікаў (найперш пра А. Астрэйку), з якімі яму давялося неаднойчы сустракацца, а то і сябраваць. Адначасова гэта і пераацэнка маральных каштоўнасцяў, і жаданне разабрацца не толькі ў іншых, а і ў самім сабе. Тэма, зразумела, для сённяшняга дня не новая. Як жылі мы? Да чаго імкнуліся? Чаго дасягнулі? Але пішацца ўсё гэта Б. Бур'янам зусім не для таго, як зазначае ён, — "каб "ачарніць" нашае цудоўнае "ўчора". Мэту аўтар паставіў іншую. І больш удзячную. Пераацэнка адбываецца не па схеме — той добры, а гэты кепскі. Пераацэнка вырастае з духоўнай неабходнасці і душэўнай патрэбы. І што важна — Б. Бур'ян зусім не збіраецца "каяцца" ва ўсіх грахах ці патрабаваць гэтага ад іншых. Б. Бур'ян толькі з вышыні дня сённяшняга глядзіць на дзень учарашні. І пры гэтым захоўвае нязменны такт і пачуццё меры. Як і не пазбаўлены ён перакананасці, што нельга ўсё адмаўляць і ахайваць цалкам: "Калі б на тое мая воля, я ўзяўся б з розных кніг А. Астрэйкі, А. Бялевіча ды і найталенавіцейшага А. Куляшова адабраць тыя творы, якія стварыліся імі па духоўным, па ўнутраным патрабаванні, па закліку або нават і капрызе ўласнага сэрца. Адсеяў бы напісанае па сацыяльным заказе, з-за боязі, у пагоні за выгодамі і ганарарам. Якія гэта будуць неўвядальнага хараства захапляючыя зборнікі "самых-самых" спавядальных і шчырых вершаў і паэм! Свабодных ад ідэалагічных шораў. І — праўдзівых".

І артыкул Д. Бугаёва "Дасягнутае і страчанае" (а калі дакладней, то чарговыя раздзелы вялікай працы, папярэднія таксама публікаваліся ў "Полымі" — NN 3 і 10 за 1992 год і NN 4 і 12 за 1993-ці, а таксама ў яго кнізе "Праўда і мужнасць таленту") — таксама імкненне разабрацца, наколькі пісьменнікі выконвалі "сацыяльны заказ" і як спрабавалі (часам і не ўсведамляючы гэтага цалкам) сказаць тую праўду, якой ад іх афіцыйныя органы і не патрабавалі. Д. Бугаёў па-сучаснаму асэнсоўвае раманы К. Крапівы "Мядзведзічы" і М. Лынькова "На чырвоных лядах", а таксама асобныя яго апавяданні.

Іншыя публікацыі — "Паэма занавешанага люстэрка" В. Сахарчука ("небу памяці Уладзіміра Андрэевіча Калесніка" прысвечана), вершы П. Саковіча, П. Прыходзькі, І. Мядзведзева, драматычны эцюд І. Франка "Пры сконе веку", перакладзены В. Рагойшам; рэцэнзіі А. Сямёнавай і А. Бадака (адпаведна аналізуюцца кнігі паэзіі "Коціцца рэха" К. Буйло і "Чага" М. Кусянкова), а яшчэ пародыі У. Ермалаева — таксама не пакідаюць абыякавым, выклікаюць роздум.

Нешта не памятаю ў сваёй аглядпай практыцы такога выпадку, калі б з'явілася жаданне згадаць літаральна ўсе матэрыялы аднаго нумара пэўнага часопіса. Ды цяпер не мог гэтага не зрабіць. Надзіва змястоўным атрымаўся ён у "Полымі"! Таму і засталіся па-за аглядам публікацыі ў іншых часопісах. Найперш аповесць А. Федарэнкі "Салдат" у "Маладосці". Але пра яе карціць сказаць асобна.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# УШАНАВАЛІ ВЕРУ РЫЧ



**У абласной бібліятэцы імя А. Пушкіна адбылася вечарына англійскай паэткі і перакладчыцы беларускай паэзіі Веры РЫЧ.**

**Цёплая, нязмушаная атмасфера ў зале была абумоўлена не толькі тым, што ў ёй было шмат моладзі (у тым ліку навучэнцаў Сахараўскага коледжа ў Мінску), але і асобай самой Веры Рыч. Яна не толькі па-майстэрску чытала свае вершы, але часам і спявала іх, падкрэсліваючы народны характар некаторых сваіх вобразаў і стылю, і, валодаючы беларускай мовай, стварала душэўны настрой у прысутных, у чым ёй дапамагала вядучая вечарыны Вольга Іпатава, якая, у сваю чаргу, пераклала некаторыя вершы англійскай паэткі на беларускую мову. Свае пераклады чытала таксама паэтка Валянціна Коўтун.**

**Павіншаваць Веру Рыч з юбілеем, прыйшлі старшыня рады Саюза пісьменнікаў Васіль Зуёнак, дырэктар навукова-асветнага цэнтра імя Скарыны Адам Мальдзіс, намеснік міністра па друку Іван Карэнда, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Сяргей Законнікаў і многія іншыя.**

**— У часпадрыхтоўкі гэтага вечара мы адкрылі для сябе Веру Рыч не толькі як выдатную дзеячку беларускай культуры, якая склала яшчэ ў 1971 годзе "Анталогію беларускай паэзіі" і шмат прапагандавала нашу літаратуру ў англамоўным свеце, але і як надзвычай цікавую творчую асобу, чые вершы прымусілі нас дзве гадзіны слухаць іх, стаіўшы дыханне, — так сказала дырэктар бібліятэкі Наталля Чуева, якая шмат намаганняў уклала ў правядзенне гэтай цікавай міжнароднай імпрэзы.**

**Я. ФЯДЗЮШЫН**

*На здымку: Вера РЫЧ*

*Фота Г. ЖЫНКОВА*

# "МАСТАЦТВА", N 5

**Нумар адкрываецца артыкулам М. Крукоўскага "Такая ж цэласнасць, як чалавек", што мае падзагаловак "Агульныя рысы структуры аснойных культуралагічных катэгорый" і прапануецца пад рубрыкай "Эстэтыка".**

**У раздзеле "Музыка" — матэрыялы "круглага стала", прысвечанага стрададуняй беларускай музыцы — "Дай Божа нам захаваць гэтую гармонію канфесійнага шматгалосся..." падрыхтаваны Н. Буцэвіч; слова Т. Мушынскай пра мастака М. Барздыку "Натхнёны Боскай музыкай", развагі В. Сізко пра шматгранную дзейнасць Р. Шырмы "Дзе ж тая скрыпка, што так цудоўна спявала?", артыкул В. Марозавай "З музычнага мінулага магілёўскіх гімназій".**

**"Сшытак" "Выяўленчае мастацтва" складаецца з матэрыялаў "Пра інсітны пачатак творчасці Юдэля Пэна і Марка Шагала" Л. Вакар, "Невядомы ліст Марка Шагала" Г. Запартыкі і Н. Усавай, "Свет, адлюстраваны ў кроплі" М. Харватавай, "За мяжою паўсядзённасці" М. Грамыкі, "Чацвёртае вымярэнне" Артура Ісачэнкава Л. Базан, "Суладдзе" В. Трыгубовіч.**

**Згадкі Б. Бур'яна пра Ю. Авяр'янава "След непрыкаянай душы", нататкі У. Мальцава "Што такое трансверсал-тэатр?" з міжнароднага тэатральнага сімпозіума, артыкул В. Лебедзева "З любоўю да тэатра..." (у сувязі з 40-годдзем тэатра юнага гледача), уражанні Т. Ратабыльскай "У тэатр гуляюць дзеці" ад Першага Міжнароднага фестывалю дзіцячых і юнацкіх тэатраў прапануюцца ў раздзеле "Тэатр".**

**"Народнае мастацтва" — гэта інтэрв'ю з дэканам факультэта павышэння кваліфікацыі, дацэнтам Беларускай акадэміі музыкі М. Булам "У музыцы трэба быць фанатам", згадкі М. Слізкага "Без гармоніка няма свята", артыкул Я. Сахуты "Калядныя ўзор" як адлюстраванне тэндэнцый у сучаснай народнай творчасці".**

**Сярод іншых матэрыялаў — заканчэнне матэрыялу Е. Бондаравай "Сустрэчы на кінематаграфічных скрыжаваннях", артыкул М. Яніцкай "Смутак мары Тышкевічаў", рэцэнзіі — А. Карлюкевіча на кнігу У. Ягоўдзіка "Белыя рысы на чорным полі" і А. Лабачэўскай на зборнік А. Яцкоўскага "Мастацтва, якое завецца наіўным" (выйшла ў Варшаве на польскай мове).**

Паэзія

## Алесь КАМАРОЎСКІ



### МОЙ УСПАМІН

**Мой успамін жыве вясной...
Не быў ён здрадай і мной.
Ды ў гэтай радасці зямной
Я не з табой, ты не са мной...**

**У гэты лес, у поўдзень той
Па даўняй замеці слядоў
Вярніся памяццю святой
І там хвіліну ты пастой...**

**Вясны блакітнае крыло
Ва успамін даўно сплыло...
Травой нішто не зарасло...
"Было, было,
Было, было!" —
Лес паўтарае многа раз...
Вярніся, дзень, вярніся, час!**

**І зноў цябе я прытулю,
І зноў цябе прыгалублю,
І кожну рысачку тваю
У сэрцы ціха затаю...
І хоць прайшлі даўно гады,
Гаркавы дым замёў сляды,
Ды маладыя я і ты,
Як і тады, як і тады...**

**Вясны блакітнае крыло
Ва ўспамін даўно сплыло...
Травой нішто не зарасло...
"Было, было,
Было, было!" —
Лес паўтарае многа раз...
Вярніся, дзень, вярніся, час!**

### БАЛЬНІЧНЫ РОЗДУМ

**— Дзень добры, бацька! — кажа сын.
— Не вельмі добры... — я ў адчаі...
Сцябае вокны дождж касы,
Хоць вырай восені адчаліў.**

**Яму, малому, шчэ няўцям,
Што свет уміг перавярнуўся,
Што не ад добрага жыцця
Ноч не сыходзіць з Беларусі.**

**Здаецца, дзень... Ды толькі дзе
Святло у поглядах і душах?
Куды людзей трыбун вядзе,
Як той табун, які задушаць?**

**Малы у бурах падрасце
І выйдзе потым на высновы:
Яму адбельваць гвалт і здзек,
Які рабілі з роднай мовы.**

**Малоціць лівень на страсе,
Бальніцы вокны — як байніцы...
А войнаў цэлы эфір трасе,
Аж тэлевізар наш баіцца...**

**— Спакойнай ночы! — кажа сын,
У словах тых — яму забаўкі...
А месяц плавае, як сыр,
Аж выюць з голаду сабакі.**

### КРЫК

**Цэны, цэны...
Быццам цені,
Шнырацъ прагна ў кашальках,
Выпатрошваюць кішэні,
Перацэнкі, павышэнні...
І краіна — ў галашэнні:
У даўгах,
А не ў шаўках.**

**Ля гатэляў,
Міні-бараў
У памадзе яркіх барваў
Млеюць выпешчана лярвы
У чаканні ліхвяра:
Вочы —
Вабныя даляры,
Сто спакус — праз акуляры...
А працоўны люд —
Ахвяра,
Памялом ганяе хмары
Ля айчыннага двара.**

**"Мерседэсы", "бэнцы",
"Вольвы"...
Паміж нацыямі —
Войны...
Дзе спакой
І выйсце дзе?
А дзяржаўных босаў
З воску
Слова вылеплены плёскат
Босай волі
Топіць вёску,
Горад к голаду вядзе...**

**Волі зыкі —
У пасылкі
І мяняем на пазыкі,
Прадаём гарод і род...
Праўдай сыкні —
Будуць ссылкі...
О, народ мой без'языкі!
Можа, ты і не народ?**

### СКРЫПКА

**Вайна дагнала бацьку ўсё-ткі —
Не вернуць могілкі назад...
Як успамін, калышуць соткі
Яго стары квяцісты сад.**

**На шафе ў хаце млее скрыпка,
Што не скалыміла граша,
Не скрыпка гэта, а іскрынка,
Яго гарачая душа.**

**Вяселле кожнае, радзіны,
Яго упрошвалі прыйсці,
Каб ён сваёю скрыпкай дзіўнай
І неба ў скокі запусціў.**

**Плылі ў застоллі хмельна чары,
Ды адступала ўміг сцяна —
Якія ён выкрэсваў чары,
Якія полькі выцінаў!**



**Прыйшоў з вайны... Рукой-калекай
Пяшчотна струны варушыў...
І не было найлепшых лекаў
І для рукі, і для душы.**

**Іграў свае ён... І відушча
З туману, прывідна, як мань,
Перада мной світала пушча
І разганяла той туман.**

**Лятаў смычок, як промні ліній...
Таго б не выказаў язык...
Маўчалі лiўні і яліны,
Лавілі кожны гук і зык...**

**Было, маркоцілася скрыпка,
Смычок тады — вастрэй ляза,
І скрыпка плавала, як рыбка,
Па нечым жалі і слязах...**

**Узяць бы мне... і хвацкім зухам
Смычком па струнах паласнуць!..
Ды наступіў мядзведзь на вуха,
Калі ў маліне я заснуў...**

**На піяніна вечка скрыпне,
Дачка абудзіць гук спярша...
І чую я: уторыць скрыпка —
Пакутна бацькава душа.**

Проза

Усе адбылося незвычайным чынам.

На спецсемінары па рускай класічнай літаратуры абмяркоўвалі раман Фёдара Дастаеўскага "Злачынства і пакаранне", і выкладчыца ў чорнай мантыі — маленькая жанчына ў гадах, з тварам, нібы грэцкі арэх, — запыталася ў ґрупы:

— Чаму Раскольнікаў забіў старую?

Спрэчка — гэта яблык, разрэзаны на часткі, у руках разнапольых свавольных людзей. Нястрымна, як дзеці, студэнты і пачалі спрачацца. Адны сцвярджалі, што Раскольнікаў забіў, бо разлічваў даказаць, што ён звышчалавек (Напалеон), другія — бо ён хацеў ідэю праверыць: пераступіць цераз кроў, каб пусціць капітал непатрэбнай старой на карысць чалавецтва, трэція схіляліся да таго, што ён хворы; выказваліся і зусім арыгінальныя меркаванні: Раскольнікаў — чысты крымінальнік, прайдзісвет і жулік, і інш.

Панцеляймонаў сядзеў побач з Дастаеўскім. Вядома ж, не побач, а пад ім — узяты ў рамку Фёдар Міхайлавіч вісеў на сцяне і з вышыні пільна сачыў... Зрэшты, з супрацьлеглай сцяны праз пенснэ скептычна і меланхалічна паглядаў Антон Паўлавіч Чэхаў. Але Панцеляймонаў не заўважаў класікаў. Ён вельмі ўважліва слухаў, аб чым спрачаліся аднакурснікі. І чым гарачэйшай рабілася іх спрэчка, тым с большаю асалодай нерваваўся Панцеляймонаў. Псаваў жа ён уласную кроў з-за таго, што, на думку большасці, Раскольнікаў, хаця і забіў старую, і абышоўся з ёю, зразумела, кепска, але... але злачынства яго было цалкам апраўдана, бо кіравала ім усё ж такі вялікая ідэя збавення пакутнага чалавецтва.

Асабліва на тым (што ідэя апраўдвае сродкі) настойвала Ада Блок — цікавая прывабная маладая жанчына. Яе далікатнае тонкае цела, змяіная пластычнасць рук, суразмерныя абрысы... — але ці варта займацца пошлай бухгалтэрыяй? — галоўнае, магчыма, таілася ў яе вачах: выразных, амаль чорных, разбэўленых фліртам і жаночым выклікам. Вочы гэтыя нагадвалі Панцеляймонаву пра іх сустрэчы (цёмныя алеі, ліхтары), пра пачуццё (асацыяцыя: канатаходца, бязважкасць, рулетка), пра дарэмна сказаныя словы, пра яе нечаканую разважальную халоднасць...

Ада гаварыла шмат і ўпэўнена, і ад гэтай упэўненасці было чамусьці няўтульна і тужліва. Доўга, з цікавасцю яна аналізавала вобраз Раскольнікава ў рамане, зачытвала ўрыўкі, дзе ён праяўляў высакароднасць: непакоіўся пра безнадзейнага Мармеладава, пра яго сухотную жонку, пра няшчасных дзяцей, а пасля падвяла вынік: "Раскольнікаў учыніў злачынства — праліў кроў, але зрабіў ён гэта на карысць чалавецтва". Гэтыя словы канчаткова і пераважылі тую чашу, на якой утрымлівалася нервовае маўчанне Панцеляймонава.

— У сваім рамане Дастаеўскі ўзняў дастаткова канкрэтнае пытанне, — сказаў ён глуха і незадаволена, і напалову павярнуўся да Блок. — Нельга разважаць аб ім абстрактна, толькі з пункту гледжання літаратуры. Кроў яна і ёсць кроў. Раскольнікаў забіў чалавека. Сякерай па цемені... Якія тут могуць быць ідэі аб збавенні чалавецтва? Ні адна, нават самая светлая ідэя, не варта таго, каб з-за яе...

Нечакана Панцеляймонаў спыніўся, — Ада папраўляла густыя, каштанавыя валасы: лёгка, зграбна, без усялякай увагі да яго слоў. Панцеляймонава гэта непрыемна ўразіла, і ён з прыкрасцю падумаў, што яна прыгожая.

Выкладчыца, што мерна хадзіла ў час дыскусіі студэнтаў з задуменным выглядам, прыпынілася каля кафедры. Прысела за стол.

— Вы працягвайце, працягвайце, — няспешна сказала яна, звяртаючыся не то да ўсёй аўдыторыі, не то асобна да Панцеляймонава і Блок. — Ведаеце, гэта заўсёды цікава, калі ісціна нараджаецца ў спрэчцы. Дастаеўскі — пісьменнік сусветнага значэння і сусветнай спрэчкі. Ён прымусіў свет задумацца на дзесяткі, сотні гадоў наперад. Свет жахнуўся, чытаючы Дастаеўскага... Вы, Панцеляймонаў, — выкладчыца кіўнула ў бок Панцеляймонава, — вы правільна вызначылі першую ідэю рамана: ці магчыма прыйсці да ўсеагульнага шчасця, пераступіўшы цераз кроў хаця б аднаго чалавека? Гэта вельмі добра... — прыпыняючыся на кожным слове, сказала яна і закурыла. — Але разумееце, ідэю гэту Дастаеўскі, пісьменнік глыбокай веры, непасрэдна звязваў з ідэяй пра Бога і бязбожнасць. Гэта была яго асноватворная ідэя, своеасаблівы падмурак, на якім ён будаваў усе свае вялікія раманы. "Я не веру ў будучае жыццё", "Ды, можа, і Бога зусім няма", — вось што ўкладае ў вусны Раскольнікава Дастаеўскі. А ўжо ў астрозе арыштанты, можа, таксама забойцы і зладзеі (але толькі не ідэйныя забойцы і зладзеі) кажуць яму: "Ты бязбожнік! Ты ў Бога не верыш!". Усё гэта невыпадкова. Пісьменнік ніколі нічога не робіць выпадкова, нават калі піша відавочную бязглуздзіцу. Дык вось, Раскольнікаў забіў чалавека (нікчэмную, здавалася б, старую, якая

Аляксандр КРЫВАНОС

# ТРЫВІЯЛЬНАЕ ПЫТАННЕ



жыла на працэнты пад заклад) не толькі таму, што хацеў праверыць, Напалеон ён альбо пустое недарэчнае стварэнне. І не таму, каб з дапамогай грошай забітай свет прывесці да ўсеагульнага шчасця. Тут усё больш сур'ёзна і складана: ён пераступіў цераз жыццё чалавечае, — выкладчыца злёгку чамусьці пастукала па стале сухім пракураным пальцам, — яшчэ і таму, — так, так! — што ён, на думку Дастаеўскага, не мог не забіць, — ён у Бога не верыў і Бога ў душы сваёй так і не знайшоў. Нездарма ж ужо пасля арышту, у астрозе, арыштанты яму кажуць аб гэтым. Вось у чым ідэя: калі Бога няма, значыць, усё дазволена. Чалавек пачынае ўяўляць сябе Богам, а, значыць, і быць усяму суддзёй. І тут дзеля вялікай ідэі можна пераступаць налева і направа, хавацца за высакародныя лозунгі і забіваць. Вы мяне разумееце?

Аўдыторыя засяроджана слухала, і раптам нехта выразна і цвёрда сказаў: "Не!" Ада Блок. Прыгожая маладая жанчына, якая калісьці бавіла час з Панцеляймонавым (цёмныя алеі асыпаліся, ліхтары патухлі). Гэта яна сказала. І праз міг дадала:

— Не, я сапраўды не разумею.

Усе паглядзелі на Блок. І Панцеляймонаў таксама паглядзеў і зноў мімаволі падумаў, што яна прыгожая. Выкладчыца, прыжмурыўшыся, не зводзіла з яе ўважлівых вачэй.

— Што ж вам незразумела, Блок? — не то зацікаўлена, не то незадаволена запытала яна.

— Мне незразумела, чаму мы так спрошчана ўсё тлумачым: і ў літаратуры, і ў жыцці.

— Што іменна, Блок, мы спрошчана тлумачым? Вучыцеся адразу правільна выказваць свае думкі. Вы ўсё-такі не на першым курсе...

— Я думаю, што наяўнасць Бога не дае нам права ўчыняць злачынства, як і яго магчымая адсутнасць, — сказала Блок.

— Яшчэ некалькі хвілін таму, Блок, вы казалі адваротнае. А іменна: што вялікая ідэя апраўдвае сродкі. Як жа вас разумець?

Блок бегла і без цікавасці зірнула на Панцеляймонава.

— Так, я думаю, што вялікая ідэя апраўдвае сродкі. На жаль, апраўдвае. Ва ўсякім выпадку, пра гэта сведчыць гісторыя, шматвяковае развіццё цывілізацыі... Але я паўтараю: наяўнасць Бога, як і яго магчымая адсутнасць, не дае нам права ўчыняць злачынства. Аднак...

Аднак нават псіхолаг сярэдняй рукі, пры пэўных умовах знайшоў бы ў выказваннях студэнткі Блок нейкую супярэчнасць. Лінгвіст безумоўна вылучыў бы ў яе апошнім выказванні два супраціўныя злучнікі... Псіхааналітык, мажліва, адзначыў бы, што нязвычнасць яе паводзін абумоўлена радыкальным адрозненнем паміж мужчынскім пачаткам яе бацькі і адхіленага ёю маладога чалавека. Пісьменнік... Што зрабіў бы пісьменнік? "Далей здарылася і зусім няўяўнае і фантастычнае", — магчыма, вывеў бы пісьменнік. Размова, зразумела, не аб гэтым, але менавіта так далей і развіваліся падзеі: няўяўна і фантастычна. Раптам Фёдар Дастаеўскі і Антон Чэхаў выслізгнулі з-за зашклёных багетных рамак і ўзняліся пад столь аўдыторыі. Пры гэтым у Дастаеўскага на шыі з'явілася вяроўка, а ў руках у Чэхава — звычайная садовая рыдлёўка. "Што гэта ў вас, Фёдар Міхайлавіч, вяроўка на шыі? Знялі б вы яе, галубок", — сказаў Чэхаў. — "А гэта ж вешацельная вяроўка, Антон Паўлавіч. Памятаеце, на Сямёнаўскім плацы мяне павесіць хацелі? Дык вось, гэта тая самая вяровачка і ёсць. А зняць яе я не магу, яна цяпер талісман у нейкім сэнсе: усе вялікія думкі ў мяне ад яе". — "Дык вас жа расстраляць хацелі, Фёдар Міхайлавіч, як жа так?" — "А якая розніца, паважаны: павесіць — расстраляць? Кажу ж вам: усё ў мяне ад гэтага". — "Але ж ці ў нашых сілах, Фёдар Міхайлавіч, вялікімі думкамі мучыцца? У мяне ў Гурзуфе невялікі агародзік каля самага мора. Апрацоўваю. Бясспрэчнае, ведаеце, задавальненне. Зноў жа і ў працы дапамагае. Вось, п'есу новую ствараю. Проста ствараю, як Бог дае".

Студэнт з носам, падобным на пытальнік, які абыякава ўявіў сабе гэту карціну (ён распалажыўся злева ад Блок і справа ад Панцеляймонава), уздрыгнуў: выкладчыца два разы настойліва пастукала па стале тупым канцом шарыкавай ручкі, патрабуючы, мабыць, максімальнай увагі. Аднак у аўдыторыі і без таго стаяла магільная цішыня: Блок паглыблялася ў тэму, пакідаючы ў сваіх словах усё менш і менш логікі. Пачуццё рэальнасці, здавалася, пакідала яе. Яна раптам з нейкім адчаем (быццам яе нехта правакаваў) загаварыла пра Дастаеўскага, пра рэвалюцыю, пра гіпербалізаваны вобраз маленькага чалавека ("у канцы дваццатага стагоддзя сучасны Акакій Акакіевіч памірае ў блочнай кватэры, таму што ў яго ўкралі ідэю"), пра стагоддзі страху, рабства, здрадніцтва, вар'яцкіх забойстваў, бязвер'я...

За акном нястрымна шумеў дождж, шумеў, нібы друкарскія машыны. Чалавек нявызначанага ўзросту (хутчэй малады, чым стары) з парасонам у руцэ, які па-руску завецца тросцю, праплыў па вуліцы і, спыніўшыся каля сустрэчнай урны, сабраў у роце густую макроту і агідна сочна сплюнуў. Вуліца, уліваючыся ў іншую, заклапочана прыпыняючыся на скрыжаваннях, вычварна адгаліноўваючыся завулкамі, пераходзячы ў цяністыя скверы, расшыраючыся ў праспекты (бясконцая чарада людзей, рэкламы, аўтамабіляў), сваёй разнастайнасцю, стракатасцю, нечаканым кінематографам падзей, рухам наперад, у бакі, па крузе, спіралі, — нагадвала дваццатае стагоддзе. Незлічоныя рэвалюцыі, вялікія і малыя войны, палітычныя маньякі і тэрарызм, вар'яцкія лозунгі, масавы гіпноз... Па вуліцы хадзілі, таптапі яе сваімі нагамі, абутымі ў боты, чаравікі, лакіраваныя туфлі, — сведкі, удзельнікі, спадарожнікі і вяршыцелі гісторыі: дэмагогі, героі, уладалюбцы, геніі, авантурысты, правадыры, дурні, абывацелі.

Дождж штрыхаваў усё і ўся. Чалавек нявызначанага ўзросту (хутчэй стары, чым малады?) знік у лабірынце вуліц. Павольна, быццам не жадаючы расставацца з хмурнай карцінай, размешчанай за вялікім квадратам заплаканага шкла, выкладчыца адышла ад акна. Скрыжаваўшы сухія рукі на грудзях, не перастаючы слухаць Блок, голас якой даносіўся, як шум хвалі, што набягала і адкочвалася, яна пачала ўздоўж радоў мерна хадзіць па аўдыторыі, разблытваючы клубок думак і рыхтуючыся ўзгадніць палемічную прамову студэнткі не то з тэмай семінара, не то з тым, што ўжо выходзіла за яго рамкі.

— ...Аднак не ўсё так проста, — упэўнена гаварыла Блок, свядома ці міжвольна падкрэсліваючы ў сваім голасе перавагу і высакамер'е. — Мне зазначылі на тое, што я непаслядоўная, што я спрабую разглядаць пытанні, расстаўленыя ў рамане Дастаеўскім, абстрактна, толькі з пазіцый літаратуры. Можа быць, можа быць, але мне здаецца, няма нічога больш канкрэтнага, чым усвядоміць: Раскольнікаў даўно ўжо перастаў быць толькі літаратурным тыпам. Выказваючыся вобразна, ён саскочыў з апошняй старонкі рамана, як саскоквае з прыступкі паравоза, не даязджаючы да горада, звышасцярожны рэвалюцыянер: з сакваяжам у руцэ, напакаваным рэвалюцыйнай літаратурай, з думкамі, нафаршыраванымі фантазіямі аб збавенні пакутнага чалавецтва. Ён саскочыў з прыступкі дзевятнаццатага стагоддзя ў стагоддзе дваццатае, аброс вучнямі, паслядоўнікамі, спадарожнікамі і зажыў рэальным, больш жорсткім, чым у рамане, жыццём. Хтосьці з яго паслядоўнікаў загінуў у гады ажыццяўлення вялікай ідэі, кагосьці (у тым ліку і яго самога) спрытна прыбралі з дарогі, якая хаатычна пятляла ў напрамку да вялікай будучыні, але мноства іншых раскольнікавых, якія аддалі жыццё за светлую ідэю...

— Ці не можна больш канкрэтна? — усміхнуўшыся, спытаў Панцеляймонаў, шчыра выказваючы ў сваім голасе адносіны да ахінеі, якую выплюхвала Блок.

Студэнт з носам, падобным на пытальнік, быццам вопытны шпіён, паглядзеў абыякава на Панцеляймонава, затым — на Блок. Выкладчыца не вымавіла ні слова.

— Больш канкрэтна? Я скажу табе зусім канкрэтна. Пацеляймонаў, — упершыню назваўшы прозвішча, уладальнік якога сядзеў справа ад яе, узбуджаным голасам сказала Блок. — Мноства іншых раскольнікавых, што аддалі жыццё за светлую ідэю, у канцы дваццатага стагоддзя ператварыліся ў жаласных гогалеўскіх акакіеў акакіевічаў. І вось гэтых старых, якія, магчыма, пражылі жыццё няўмела, людзей маленькіх, але з пачуццём спраўджанага абавязку, любоўю і гарачай верай у правільнасць абранага шляху, цяпер, на нашых вачах, забівае новае пакаленне рэвалюцыянераў, маладых ваўкоў, якія не падшываюць шлейкі для сякеры, а, нядбайна сплёўваючы цераз плячо на ўсіх, хто ішоў ззаду, садзяцца ў мерседэсы і спакойна едуць па касцях продкаў далей, у стагоддзе дваццаць першае, з крэдытнай карткай у кішэні і геннай інжынерыяй у галаве. Хіба гэта не забойства сякерай па цемені, Панцеляймонаў? А каб табе стала зусім зразумела, я скажу яшчэ вось што: дзевяць дзён таму ва ўласнай кватэры ад сардэчнага прыступу памёр адзін з тых самых класічных раскольнікавых, пра якіх, мабыць, і пісаў Дастаеўскі, — мой дзед. Два недарэчныя нязграбныя рэпарцёры абвінавацілі яго ва ўсіх грахах: допыты ў падвалах, расстрэлы і інш. Адмовіўшыся ад ежы, ён так і памёр: з няголеным падбародкам і са словамі, што перабіраў, як ружанец: "перакрэслілі жыццё, укралі ідэю...". Спадзяюся, цяпер табе ўсё зразумела, Панцеляймонаў? — запытала Блок і з задаволенай злосцю апусцілася на крэсла.

— Што датычыцца тваіх метафараў, то тут усё больш ці менш зразумела, але вось з логікай у цябе, па-мойму, не зусім, — сказаў, ледзянеючы, Панцеляймонаў. — Ты гаворыш, як я зразумеў, пра спачуванне да пракурораў гісторыі, пра ласку да гэтых старых раскольнікавых, якія заблыталіся ва ўласных указальніках недабудаванай дарогі, што вядзе ў рай. Цудоўна! Няхай будзе так: спачуванне, міласць... Але — не забыццё іх чорных спраў, не патаканне іх бязглуздым ідэям. Кінуць ім разменную манету міласціны, але і пагарды — вось чаго яны заслугоўваюць. Няхай яны сваёй дрыжачай старэчай рукой падымуць міласціну і ўспомняць пра тысячы пустых недарэчных стварэнняў — іх ахвяр, бязвінна закатаваных і забітых. — Панцеляймонаў перавёў дух. — А цяпер я адкіну метафары, і калі ўжо размова зайшла пра сваякоў, з пазіцый голага натуралізму раскажу пра лёс свайго дзеда. Рэвалюцыя, грамадзянская вайна, голад, рассяляньванне, турмы, вайна, зноў голад, смерць.... Вялікая галодная сям'я, праследаванні і прыгнёт, пакуты і гібель ад голаду некалькіх дзяцей... І ўсё гэта дзеля бязглуздай ідэі. Не думаю, што гэта можна неяк апраўдаць...

Блок задзірліва павяла плячыма:

— Апраўдаць? Але так было заўсёды. Гісторыя... — пачала яна і дзёрзка ўсміхнулася проста ў вочы Панцеляймонаву.

— Так не павінна быць, — увайшоўшы нечакана ў размову (як, памылкова, у чужую кватэру), сакраментальна сказала выкладчыца.

— Так быць не павінна, — настойліва паўтарыў Панцеляймонаў, зазірнуўшы ў выразныя непрымірымыя вочы Блок.

— Але гэта рэальнасць, — упарта сказала Блок.

— Якая ж гэта рэальнасць?.. — злосна вымавіў Панцеляймонаў і штосьці нядобрае прыгадаў — твар яго перакасіўся, нібы ў крывым люстэрку.

Блок ціха, задаволена рассмяялася. Панцеляймонаў адчуў у сабе іншага чалавека, і гэты іншы выйшаў з яго і, спатыкнуўшыся, завіс над страшэннай безданню.

— Чаго ж ты смяешся? — праз зубы працадзіў гэты іншы, з усёй сілай чапляючыся за таго, ранейшага, Панцеляймонава.

— Я смяюся, таму што ты хлусіш, хлусіш сам сабе, Панцеляймонаў! — сказала Блок, і зноў нешта падобнае на ўсмешку прамільгнула на яе прыгожым егіпецкім твары.

Аўдыторыя замерла. Панцеляймонаў ненатуральна выпрастаўся, пад скурай шчок у яго заскакалі шарыкі жаўлакоў.

— Хто хлусіць? — неяк недарэчна, не ведаючы для чаго, перапытаў Панцеляймонаў і чагосьці палез у кішэню штаноў, намацаў там насоўку, але пакінуў яе і выцягнуў руку пустой.

У Блок затрэсліся губы і ноздры прамога носа расшырыліся, быццам у наравістай жарабіцы.

— Ты хлусіш! — раптам ускрыкнула яна, і ў вачах яе выступілі слёзы. Твар яе перакрывіўся. З'явілася ў ім нешта зусім дзіцячае, неабароненае. — Ты хлусіш разам са сваім Дастаеўскім! Было б лепей, калі б ён працаваў над уласным стылем, займаўся словатворчасцю і пісаў нармальныя раманы. А яшчэ лепш купіў бы ў Гурзуфе агародзік каля мора і пачаў яго апрацоўваць рыдлёўкай. Усё было б больш карысці!.. Падумайце, Раскольнікаў — аблудны Хрыстос! Падумайце, цераз кроў ён пераступіў дзеля ідэі бязглуздай! А цяпер усё нармальна, Панцеляймонаў? Цяпер мы не пераступаем? І найноўшая гісторыя нашых дзён не стукае ў сэрцы мацярок, што атрымалі з усходніх краін цынкавыя труны з іх сынамі? З іх сынамі, якія...

Выкладчыца, знямеўшы, апусціла галаву.

— Вам неабходна супакоіцца, Блок, — пераадолеўшы немату, вымавіла яна. — Калі ласка, пакіньце аўдыторыю.

Блок не спынілася — працягвала нястрымна гаварыць.

— Замоўкні, дурніца! — хрыпла сказаў Панцеляймонаў.

Нехта з няцямлівых у аўдыторыі (у адзіночным ліку) дробна засмяяўся, па прастаце сардэчнай разважыўшы, што словы Панцеляймонава адрасаваны выкладчыцы.

— А-а! — задаволена працягнула Блок, — "замоўкні, дурніца!" Брава, брава! Табе не падабаецца, Панцеляймонаў?! Вельмі добра! Я паўтару, слухай: ты і падобныя да цябе — патэнцыяльныя злачынцы! Вы толькі словы прыгожыя кідаеце: пра шчасце чалавецтва, пра немагчымасць смерці дзеля гэтага шчасця. Але ж калі размова абернецца справай, дык вы — цераз кроў! Па вачах — абцасамі! Сякерай — па цемені! Аўтаматам — у грудзі! — ідзіце да светлай будучыні: мы дапаможам, падкажам, а хто не жадае гэтага раю, таго растаптаць, знішчыць, пакараць смерцю! Усё апраўдаеце, трагедыю апраняце ў карнавальныя сукенкі фарсу, і потым будзеце казаць пра веліч Дастаеўскага, пра непрыманне кроплі крыві дзіцяці дзеля вашай пошленькай крымінальнай будучыні!..

У першы момант пасля яе кароткіх, непатрэбных (як агрызак, што застаўся ад яблыка) слоў у аўдыторыі павісла цяжкая жахлівая цішыня. Студэнты падняліся з месцаў. Нехта спрабаваў стрымаць рукі Ады Блок, што размахвалі ў такт словам, нехта лез у сумку па валяр'янку, але затым наступіла гэта цяжкая цішыня. Выкладчыца сядзела, закрыўшы твар далонямі. І вось тут Панцеляймонаў устаў і накіраваўся да выхаду; ён быў бледны і рукі ў яго дрыжэлі. Ада выйшла з-за парты і перагарадзіла яму дарогу.

— Ды адыдзіся ты, вар'ятка, — сказаў ён, зазірнуўшы ў яе прыгожы егіпецкі твар.

Яна стаяла, не адступаючы.

Панцеляймонаў не разлічыў мужчынскай сілы і адпіхнуў яе з дарогі, як надакучлівую рэч, як прастытутку з панелі, і яна, ускрыкнуўшы, непрыгожа ўпала спачатку на вугал парты, а потым, спаўзаючы і агаляючы няўдала падагнутай рукой абцягнутае сцягно, на падлогу. Кнігі, канспект пасыпаліся на яе зверху. Павольна, вельмі павольна яна ўставала. Панцеляймонаву здавалася — вечна. Ад скроні да падбародка бегла кроў. Ада павяла па шчацэ, здзіўлена паглядзела на акрываўленую руку; нервова рассмяялася.

— Кроў, — сказала яна ціха, але ўсе пачулі, што яна сказала. — Вось яна, кроў, паглядзі, — паўтарыла яна. — Паглядзі ж, Панцеляймонаў!

Хтосьці сказаў:

— Падонак!

Студэнт з носам, падобным на пытальнік, абыякава і бязладна падумаў: "...калі б гэта сапраўды...".

Панцеляймонаў стаяў, апусціўшы рукі. Пад вокам у яго пульсавала нейкая жылка. Дробна-дробна. Ён быў падобны на Раскольнікава, які, забіўшы старую, нахіліўся над яе целам у пошуках ключоў ад камода. А побач ляжала сякера.

# ПЛЕНЭР ДЛЯ ДУХАВЫХ

## ЖАНОЧЫМ КЛУБАМ — 130 ГАДОЎ



**Усім знаёмы грамадскія жаночыя клубы "Гаспадынька", "Гаспадыня", "Сяброўкі" і іншыя, якія працуюць у гарадах і сёлах Беларусі. Выявілася, што падобныя клубы існуюць і ў Польшчы ўжо 130 (!) гадоў. Менавіта ў такіх клубах з даўніх часоў жанчыны атрымлівалі практычныя навыкі па шыцці, кулінарыі, догляду дзяцей, проста па-сяброўску сустракаліся.**

**На ўрачыстасць з выпадку 130-годдзя клубаў у мястэчка Нарэўка на Беласточчыне з'ехаліся актывісты гэтага жаночага руху, фальклорныя калектывы, народныя майстры са сваімі вырабамі. Ганаровым госцем жаночага свята стаў прэм'ер-міністр Польшчы Уладзімеж Цімашэвіч.**

**Яўген КАЗЮЛЯ, БЕЛТА**

*На здымку: на кірмашы вырабаў народных майстроў.*

*Фота аўтара*

## СЮРПРЫЗЫ МАЛАДЗЁЖНАГА ТЭАТРА



**Дзяржаўны маладзёжны тэатр Беларусі непрадказальны. Гэтым ён і цікавы. Чарговы сюрпрыз чакаў гледачоў у яго сценах 16 чэрвеня — тут адбылася прэм'ера містычнай драмы Эдварда Олбі "Малая Эліс". Яе пастаноўку за месяц з невялікім ажыццявіў рэжысёр з Нью-Йорка Крыстафер Марцін. А ідэя гэтага тэатральнага праекта нарадзілася ў Беларускім нацыянальным цэнтры Міжнароднага інстытута тэатра ЮНЕСКА, які адначасова выступіў і прадзюсерам пастаноўкі.**

**Пераклад п'есы з англійскай на беларускую ажыццявіў Дзмітрый Колас. У спектаклі заняты выдатныя акцёры: Сяргей Журавель, Аляксандр Шароў, Уладзімір Емяльянаў, Ігар Фільчанкоў і Валерыя Ліхадзей. А магчымасць увасобіць гэты унікальны тэатральны праект у жыццё з'явілася дзякуючы фінансавай падтрымцы, якую аказалі Беларускі фонд Сораса, карпарацыя "Дайнова", турыстычная фірма "Алатан Авіятур", авіякампанія "Белэйр" і пасольства ЗША ў Беларусі.**

*На здымку: акцёры маладзёжнага тэатра ў перапынку паміж рэпетыцыямі (злева направа) Ігар Фільчанкоў, Валерыя Ліхадзей, Уладзімір Емяльянаў і Сяргей Журавель.*

*Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА,* БЕЛТА

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

## ГОРАД...

125 гадоў таму неўтаймоўная цывілізацыя зрабіла свой чарговы наступ, у выніку чаго расступіліся лясы, і пралегла па змярцвелых карчах сталёвая сцежка, ля якой пазначыўся самы заходні на той час чыгуначны пункт: станцыя Баранавічы. Будучы горад. 6 лістапада 1871 года быў адкрыты рух цягнікоў на Захад.

Аднак гэту адметную ў жыцці Беларускай чыгункі ды цяперашняга райцэнтра дату вырашылі адзначыць на паўгода раней, прымеркаваўшы ўрачыстасці да ўжо традыцыйнага свята гараджан "Баранавіцкая вясна" і сумясціўшы з правядзеннем Рэспубліканскага фестывалю духавой музыкі "Беларускія фанфары-96". Гарманічную і непаўторную імпрэзу зладзілі талакой Міністэрства культуры Беларусі, упраўленне культуры Брэсцкага аблвыканкома, Баранавіцкі гарвыканкам, Баранавіцкі райвыканком, з удзелам рэдакцыі газеты "Культура".

Высокі ўзровень арганізатарскай культуры выяўляўся нават у дэталях: выпусцілі юбілейны значок і керамічную эмблему, блакнот з юбілейнай сімволікай, маляўнічы плакацік, густоўныя праграмкі фестывалю ў фірменным канверце, вырабілі сувенірныя поліэтыленавыя пакеты — з вясёлым старасвецкім цягнічком, падобным да мудрагелістага букета гарэзліва-выгінастых медных труб. І яшчэ штрых: на мікраскапічных папяровых кветачках, па якіх сталаваліся госці свята (у тым ліку й акрэдытаваныя журналісты), дробным курсівам умясцілі... пажаданне смачна есці!

Імклівы абрыс флюгельгорна, трубы, "апранутай" у фантазійную абалонку старэнькага лакаматыва, — галоўны элемент фестывальнай сімволікі, ці не на ўсіх графічных выявах спалучаўся з нотным радком песні У. Алоўнікава "Радзіма, мая дарагая". А музычная сцэна аказалася надзвычай моцна "прывязанай" да матываў чыгункі: на цэнтральную плошчу горада неверагодным чынам прыцягнулі два "кавалкі" сапраўднай каляі дарогі з дзвюма грузавымі платформамі, скарыстаўшы іх у якасці падмосткаў фестывальнай эстрады — вобразна кажучы, падмурка свята. Пра ўсё, што адбывалася на гэтай незвычайнай сцэне і вакол яе на працягу трох майскіх дзён, — і не расказаць. Бо нават раённая газета "Наш край", змясціўшы ажно на дзвюх сваіх палосах расклад "Баранавіцкай вясны", папярэдзіла чытачоў, што ўсё свята, пры вялікім жаданні, убачыць не ўдасца нікому. І параіла выбіраць відовішчы і месцы адпачынку адпаведна інтарэсам.

Выбар, прызнаюся вам, быў не з лёгкіх. Нават для тых, каго паклікалі ў Баранавічы выключна "Беларускія фанфары".

Як жа можна было, апынуўшыся ў гэтым дагледжаным гарадку, на час фестывалю аблашчаным сонейкам, не завітаць на бульвар Хейнала (горад-пабрацім у Фінляндыі). Ён прытуліў усіх мастакоў і народных майстроў, якія хацелі паўдзельнічаць у выстаўцы-продажы сваіх работ. Ён ператварыўся ў фотавернісаж на вольным паветры, дзе шэрагі стэндаў папулярна і прыцягальна прадстаўлялі гісторыю горада — ад першых драўляных дамкоў ля сталёвага шляху — праз перыпетыі развіцця і трагічны ваенны лёс — да ўзнаўлення з руінаў, эканамічнага росквіту, дасягненняў у галіне культуры і ў спорце.

А хіба можна было абмінуць яшчэ адзін прыўкрасны куток у цэнтры горада, з утульнай "галерэйкай", тонкія апоры якой аплецены маладымі коскамі дзікага вінаграду! Бульвар Штокерау, названы гэтак у гонар аўстрыйскага пабрацімa Баранавічаў: у дні свята прайшла яго прэзентацыя, прысутнічалі госці з Аўстрыі.

У тыя дні адбываліся святы гарадскіх двароў, канцэрты на агітпляцоўках і нават на калгасным рынку; Дом школьніка адзначаў сваё 50-годдзе і ладзіў паказ дзіцячых тэатраў (навучэнцы школ ды гімназісты гралі А. Вольскага і С. Міхалкова, Л. Родзевіча і А. Чэхава!). Разгортваліся самыя розныя выстаўкі: музычных інструментаў, на якіх навучаецца баранавіцкая дзятва, — з кансультацыяй спецыялістаў па настройцы, рамонце; сабак — у тым ліку з добрым радаводам, якіх можна было і набыць; ваеннай тэхнікі. Праходзілі спартыўныя спаборніцтвы і аэрашоу...

Даць волю захапленню? Ціха здзіўляцца? Ці ўспрымаць як належнае? І тое, і другое, а найбольш — трэцяе: пры такіх гаспадарах інакшай быць проста не магло.

Асоба старшыні аргкамітэта фестывалю "Беларускія фанфары-96", начальніка ўпраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Тадэвуша Стружэцкага не патрабуе рэкамендацый. Яго характарызуюць справы, якія заўсёды робяцца з душою, творча, з увагай да чалавека і зважаннем на дробязі, якія суправаджаюць людзей і кожную сітуацыю... Словам, Стружэцкі — гэта гарант высокай культуры, чалавечай шчырасці, спраўнай арганізацыі. А яшчэ ён умее знаходзіць аднадумцаў і тых, поруч з кім працуецца прыемна і надзейна. Поруч з ім гэтым разам былі галоўны спецыяліст упраўлення, мастацкі кіраўнік фестывалю Алег Скарына, галоўны рэжысёр імпрэзы Пётр Гуд, галоўны мастак Уладзімір Берташ, старшыня журы прафесар Барыс Пянчук, вядучая праграм народная артыстка Зінаіда Бандарэнка. І яшчэ многія. І, канечне ж, — кіраўнікі горада, раёна, вобласці.

Старшыня Баранавіцкага гарвыканкома Валеры Захарчанка быў сустаршынёю аргкамітэта і ветлівым гаспадаром, які неўзабаве пасля размяшчэння сталічнага "дэсанта" ў гатэлі і абеду правёў прэс-канферэнцыю. З яго нага аповеду паўстала вабнае сучаснае аблічча горада, які мог бы "жыць і развівацца аўтаномна". Таму што Баранавічы сёння — гэта 180 тысяч жыхароў на 50 кв. кіламетрах плошчы, гэта 29 прадпрыемстваў, у тым ліку буйное бавоўнянае, станкабудаўнічае, авіярамонтнае. Гэта цэнтр чыгуначнага транспарту, які абслугоўвае амаль усю Гродзенскую вобласць і палову Брэсцкай. Гэта месца дыслакацыі самага магутнага ў рэспубліцы вайсковага падраздзялення. У Баранавічах створана моцная сацыяльная база, спрыяльныя ўмовы для развіцця культуры, аховы здароўя, спорту. Сярэдні ўзрост ягоных жыхароў — каля сарака гадоў, і дэмаграфічны прагноз радуе: у Баранавічах больш люду нараджаецца, чым памірае.

Баранавічы — горад музычны: працуюць тры музычныя школы і вучылішча, ёсць Дом мастацтваў і два дамы культуры, моцныя сваімі творчымі калектывамі, з якіх многія адзначаны званнем "народны". Духавыя інструменты — у пашане: ёсць добрыя аркестры ў музвучылішчы, у брыгады ўнутраных войскаў, у баранавіцкіх ветэранаў. Штогод музычныя і харэаграфічныя калектывы ездзяць за мяжу, атрымліваюць на свае выступленні добрыя водгукі.

Як выключэнне сярод масавых сённяшніх засмучальных фактаў, установы культуры Баранавічаў не распаліся. Дый у раёне працуюць адметныя творчыя калектывы... Ну, а фестываль?

Калі не звяртацца да такіх свят, — падкрэсліў В. Захарчанка, — будзе вельмі цяжка працаваць з людзьмі. Важна ўзрушыць іх адчуваннем, што не ўсё ў жыцці будзённа і не ўсё гэтак кепска, як часам падаецца, што ёсць моманты светлыя, шчырыя, прыгожыя.

## ...І МУЗЫКА

Мэр горада В. Захарчанка, пазнаёміўшыся з якім нельга было не падумаць — вось ён, узор кіраўніка: разумны, валявы, дзелавіты, абыходлівы, прадстаўнічы, элегантны! — падчас гутаркі з прэсай даў




*"Майскі вальс": заслужаныя артысты Беларусі Міхал ЖЫЛЮК і Людміла КРЫВЕНАК.*



*"Адкуль такія еўрапейцы? — Тутэйшыя..."*

магчымасць пераканацца, што музыцы ў Баранавічах жывецца добра. Дый са слоў Т. Стружэцкага вынікала, што месца для правядзення фестывалю "Беларускія фанфары" абрана аптымальнае. Брэстчына даўно вылучалася дасягненнямі ў жанры духавой музыкі, праз якія менавіта ў Брэсце нарадзіўся і фестываль, які апошнім разам праводзіўся там у 93-м годзе і па ліку быў чатырнаццаты. А вось горад Баранавічы летась звярнуў на сябе ўвагу соцень удзельнікаў, гасцей Рэспубліканскага тэатральнага фестывалю імя У. Галубка: сапраўдны творчы дух мастацкіх паказаў падтрымліваўся вельмі высокім узроўнем арганізацыі фестывальнага жыцця. Многія тады "адкрылі" для сябе Еўропу ў дзвюх гадзінах язды ад нашай тлумнай сталіцы.

Чаму "Фанфары" загучалі менавіта тут, здаецца, ужо зразумела. Але навошта ўвогуле было "трубіць у фанфары", калі партытура нашага жыцця складаецца ўсё больш з немузычных нотак: эканоміка трашчыць, бюджэтнікі енчаць, вёска ўздыхае, а бакс усё зеляней, зеляней ды буркоча, і пішчаць сёння ўжо не "зайчыкі", а "зубры"...

Але ж калі мы не зайчыкі вушастыя, а людзі, у кола нашых жаданняў, інтарэсаў і праблем трапляе не толькі капуста. Ад калыскі да скону спадарожнічае нам у жыцці музыка. Музыка робіць нас людзьмі, падтрымлівае ў людскасці, але сама не можа без людской падтрымкі.

Так, музыка з намі, пакуль мы яе падтрымліваем. І Тадэвуш Іванавіч Стружэцкі нейк заўважыў, што калі пры сённяшніх неспрыяльных фінансавых умовах Міністэрства культуры не можа дапамагчы развіццю кожнага духавога калектыву, дык яно шукае магчымасці падтрымаць усіх разам. А менавіта — зладзіць вось такі рэспубліканскі фэст, дзе аматары-духавікі могуць паслухаць адно аднаго, павучыцца ў лепшых; дзе кіраўнікі аркестраў маюць час для абмену думкамі і вопытам, а вядучыя спецыялісты краіны ў жанры духавой музыкі, прафесары і артысты, не толькі працуюць у журы, але і праводзяць семінары, кансультацыі для сваіх менш спрактыкаваных калег. Конкурс падчас фэсту дазваляе самадзейным выканаўцам паказацца з лепшага боку, а пераможцам, атрымаўшы прэміі Міністэрства культуры (адпаведна месцам — 10, 8 і 6 млн. рублёў), скарыстаць іх на пашыў касцюмаў, набыццё інструментаў і да т.п.

Падтрымаць развіццё духавой музыкі на масавым узроўні — гэта значыць не даць змарнець традыцыі, якая жыла на Беларусі здавён. Нават цяперашняе "сярэдняе" пакаленне памятае святы духавой музыкі, а то і проста канцэрты ў парках. Не такі ўжо даўні час, падкрэсліваў Т. Стружэцкі, калі ці не кожнае прадпрыемства ў рэспубліцы лічыла за гонар мець у сябе духавы аркестр. Апошнім часам страчана многае. І ўсё ж — больш як паўсотні аматарскіх духавых аркестраў з тых, што існуюць у краіне сёння, маюць званні "ўзорны", "народны". Высокі ўзровень праграм дазволіў калектывам Брэсцкай вобласці зрабіць у межах "Фанфараў" свой міні-фестываль. Наогул, Баранавічы прынялі каля трох дзесяткаў аркестраў з Беларусі, удзельнічалі ў свяце госці з Аўстрыі, Польшчы, Украіны, Фінляндыі. Чакалі прадстаўнікоў Расіі, але ў апошні момант, на жаль, іх паездка не зладзілася...

Вы бывалі ў Баранавічах, ведаеце цэнтральную плошчу, за якой захавалі імя Леніна? Ну, калі нават не бывалі, не ведаеце, — лёгка зможаце ўявіць нашае па-сямейнаму цеснае суседства з музыкай: гучала яна з ранку да ночы проста на плошчы, а на плошчу гэткімі вачамі-вушамі выходзілі вокны гатэля. Пад гукі духавога аркестра (у разгар конкурснага праслухоўвання) ступалі мы на баранавіцкую зямлю, пакідаючы перагрэты дарогаю салон аўтобуса. Пад гукі знакамітага ля-мінорнага паланеза Агінскага крочылі на абед у блізкую да гатэля рэстарацыю, а вярталіся... у рытме старадаўняга вальса "Бярозка". Пасля прэс-канферэнцыі патрапіўшы ў калону ўдзельнікаў адкрыцця свята, з дзіўным адчуваннем (наперадзе — група барабаншчыц, ззаду — аркестр Брэсцкага Дома культуры, а між імі — наша стракатая шарэнга!) маршыравалі пад бадзёрае папуры з мюзікла Ф. Лоу "Мая цудоўная лэдзі".

Музычны нон-стоп на пленэры чараваў над часам, над намі, — гадзіннік зрабіўся амаль забытай непатрэбнай рэччу. Колькі кругоў прабеглі яго стрэлкі? Наўрад ці хто з гледачоў, захопленых відовішчам, гэта лічыў. Над плошчай лунаў голас дыктара, яна свяцілася ад сонца, мы стаялі ля помніка правадыру, шукаючы ў яговым ценю ратунку ад спякотных сляпучых промняў. А колькасць гледачоў павялічвалася ў геаметрычнай прагрэсіі...

Святочнае шэсце падтрымалі госці: прайшлі — з музыкай! — аркестравыя калектывы з Аўстрыі, Польшчы, Украіны. А за імі — гэткі букет лугавых кветак: чым больш яго разглядаеш, тым цяжэй падбіраць словы для апісання. Канцэртныя строі "з іголачкі"; сціплая уніформа; проста — светлыя кашулі з лепшымі штанамі з улаcнага гардэроба; можна было амаль беспамылкова пазнаць, хто тут — педагогі музычных школ са сваімі навучэнцамі, хто грае на мясцовых урачыстасцях ці з жалобнай нагоды, хто выступае ў палацах культуры ці вбслугоўвае танцы... Але зараз усе яны былі на роўных: канцэртныя калектывы, артысты! Аркестры з Наваполацка і Ганцавіч, з Оршы і Магілёва, з Белазёрска і Століна, з Гомельскай вобласці ды Мінскай, аркестр Пружанскага сельгастэхнікума і пасёлка Жамчужны Баранавіцкага раёна, дзіцячы духавы аркестр з Пінска і калектыў ветэранаў вайны і працы Палаца культуры бавоўнянага аб'яднання Баранавічаў... Дарэчы, адбыўся сапраўдны парад баранавіцкіх калектываў: народны ансамбль танца "Юрачка", знакамітыя "Лялькі", студыя бальнага танца і нават каманда гімнастак!

Здаецца, усе прайшлі ва ўрачыстым маршы, занялі сваю "нішу" на плошчы, але галасістыя духавыя набліжалі яшчэ адну хвалю музыкі. Неверагодна: гэта быў высокапрафесійны, узорна-паказальны аркестр, які мала каму даводзілася раней слухаць. Памятаю, як некалькі гадоў таму наша сталічная публіка перажыла ці не шок ад узрушэння канцэртамі Прэзідэнцкага аркестра марской пяхоты ЗША. І тут — зусім падобнае адчуванне. Дык вось, аказваецца, што мы маем! Узорна-паказальны духавы аркестр Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі (галоўны дырыжор Мікалай Жарко, начальнік аркестра Аляксандр Калінін) выкананнем некалькіх разнастайных канцэртных нумароў пацвердзіў сваё званне. Інтанацыйная чысціня, сінхроннасць, бездакорныя унісоны, грацыёзнасць відовішчнага дэфіле, ігра ў стылі: адточанасць марша, капрызлівае дыханне лацінаамерыканскіх рытмаў, агністая "Лявоніха" Я. Глебава...

Яўген Глебаў аказаўся самым рэпертуарным з беларускіх кампазітараў на гэтым фестывалі. А класікам — Уладзімір Алоўнікаў, чыя песня "Радзіма, мая дарагая" сталася музычнай эмблемай "Беларускіх фанфар". Пад яе матыў галоўны дырыжор аркестраў Брэсцкай вобласці ветэран духавой музыкі Віктар Парыцкі ды баранавіцкі школьнік Раман Шыманец паднімалі сцяг фестывалю. Пад гэтым сцягам працягвалася свята: прэзентацыя мастацкіх калектываў, канцэрт аркестра МУС з вядомымі салістамі — опернымі спевакамі Людмілай Крывёнак, Нінай Казловай ды Міхалам Жылюком, вячэрняя танцавальна-забаўляльная праграма "Баранавіцкі баль" з удзелам духавых аркестраў Брэстчыны.

Усё было шчыра і нефармальна: кароткія афіцыйныя прамовы, віншаванне імянінніка — галоўнага дырыжора свята і старшыню журы Б. Пенчука (незабыўны дзень нараджэння!), сюрпрызы піратэхнікаў, "НЛА" над плошчай — дэльтапланерысты з пачкамі рознакаляровых улётак, магутнае tutti зводнага калектыву ў "Беларускім маршы" Б. Пенчука на тэмы песень У. Алоўнікава...

Цэнтр горада жыў вольна і святочна: з музыкай! Мо гэта яна, музыка, гарманізавала настрой досыць стракатага вірлівага натоўпу, бо ні на плошчы, ні вакол яе не ўзнікала сварак-боек, непаразуменняў, хаця і "хуткая" дзяжурыла, і міліцыя. Сімпатычная, мушу сказаць, баранавіцкая міліцыя — "з чалавечым тварам". Я не чула, каб сур'ёзнае ўмяшальніцтва міліцыі спатрэбілася і падчас кульмінацыі фэсту, калі ўсяночнічалі жыхары разам з гасцямі горада. Пад музыку бавілі час і свядомыя слухачы, і выпадковыя прахожыя з дзіцячымі калясками, і заўзятыя "сабачнікі" са сваімі ўлюбёнцамі. Пад музыку праходзіў прадстаўнічы і з высокай культурай праведзены прыём у Доме мастацтваў — ад імя аргкамітэта і Баранавіцкага гарвыканкома. Пад музыку крочылі праз вечаровую плошчу каларытныя, маляўнічыя, артыстычныя і вясёлыя ўдзельнікі карнавала. Пад музыку (а то як жа!) нараджаліся стыхійныя дыскатэкі, фантазійныя скокі пад адкрытым небам. Грала музыка ў клубах і ў кавярнях. У кінатэатры "Кастрычнік" амаль да пяці гадзін раніцы круцілі камедыйныя стужкі — бясплатна: для тых, хто спазніўся на апошні аўтобус і застаўся ў цэнтры горада...

Між іншым, у гэтым кінатэатры быў цудоўны дзённы канцэрт, які, на жаль, не меў належнай рэкламы. Але знаўцы ўсёткі на яго патрапілі. Граў "залаты" беларускі трубач, міжнародны лаўрэат Андрэй Кавалінскі (студэнт прафесара Мікалая Волкава, дарэчы, актыўнага чынніка фестывальнага журы). Уразіла мяне больш за ўсё не столькі выкананне саліста (у годным партнёрстве з ім выступіла піяністка Таццяна Рыдлеўская), як унікальная атмасфера канцэрта: няўтульны ад шараватага святла і пустых крэслаў амфітэатр і — гарачы зацікаўлены прыём аўдыторыі, у якой, у адрозненне ад звыклага філарманічнага малюнка, амаль не было жанчын. Сталыя мужчыны, дзецюкі ў фірменных канцэртных строях, дваццацігадовыя равеснікі Андрэя і нават значна маладзейшыя за яго хлопцы — як яны слухалі, як захапляліся дзівосамі, што "выдавала" труба ў руках акадэміста-віртуоза!

сонцам фестывальнай эстрады; і тое, як хвацка гралі польскія музыкі на траўцы ля гатэля; і як захоплена слухаў нашы бяседныя песні пан Адам Вільчэўскі — дырэктар аддзела культуры, спорту і турызму Бяла-Падляскага ваяводства; і тое, які дзівосны (у Мінску такога не бачыла!) мастацкі феерверк расквеціў неба над горадам; і тое, як чыста было на яго вуліцах пасля масавых гулянняў і "масавага харчавання" на пленэры пад гукі ўсюдыісных духавых...

На цырымоніі ўрачыстага падвядзення вынікаў фестывалю Барыс Міхайлавіч Пянчук падкрэсліў, што пераможаных — няма. І не таму, што гаспадары свята пастараліся заахвоціць усіх удзельнікаў. А таму, што — фестываль ёсць фестываль. Вядома, журы вызначыла лідэраў. Першыя месцы занялі духавыя аркестры Брэсцкага ГДК (кіраўнік В. Коваль), Ляхавіцкага ГДК (кіраўнік В. Прадун) ды Маладзечанскі гарадскі (кіраўнік М. Дабравольскі). Другое — "Гарадзенскія трубы" (кіраўнік В. Шэмет), трэцяе — аркестр Палаца культуры "Нафтан" з Наваполацка (кіраўнік У. Нікіфараў).

З рашэннем журы цалкам пагаджаюся. Шкадую толькі, што ансамбль старадаўняй музыкі "Контрданс" Баранавіцкай ДМШ N3, якім кіруе Андрэй Канстанцінаў, — не вялікі аркестр і выступаў па-за конкурсам. Непаўторны калектыў: іграюць старадаўнюю музыку, "Полацкі сшытак", апранаюцца ў стылізаваныя пад сярэднявечча строі, а галоўнае — граюць на дзівосных, кшталту аўтэнтычных барочных, драўляных духавых інструментах! Вось дзе аб'ект увагі для музыкантаў-прафесійнікаў. І, мабыць, — для складальнікаў конкурсных умоў наступных фестываляў духавой музыкі, дзе, канечне ж, мае быць перспектыва для адраджэння самых глыбокіх, самых даўніх традыцый нашай зямлі.



*Дзе музыка, там і танчаць.*



*Звычнае "золата" медзі...*

●

Чытач мой цярплівы, канечне ж, зразумеў мае няўдалыя намаганні — ахапіць неабдымнае і, мабыць, здагадаўся, што падзея ў Баранавічах была куды цікавейшая за журналісцкую справаздачу. Калі мы збіраліся ў дарогу на Мінск, плошча яшчэ поўнілася святам. Гукі духавой музыкі, якая была і нашай ранішняй пабудкай, і паўночнаю калыханкай, не спяшаліся пакідаць горад.

Радасны і шчымлівы тэмбр духавога аркестра, відаць, яшчэ доўга будзе нагадваць стракатыя эпізоды трох баранавіцкіх дзён. І тое, як танчылі полечку зусім не знаёмыя між сабою вясёленькія мужыкі: адзін ссівелы, другі гадоў трыццаці — вось проста так, у ахвотку, ля залітай

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**
*Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ*

# ШТО ЖЫЦЦЁ НАША? ЗДАРОЎЕ ПРЫРОДЫ...

## УЛАДЗІМІРУ КУЗЬМЯНКОВУ — 60



**27 чэрвеня адзначыў сваё 60-годдзе празаік, кандыдат гістарычных навук У. Кузьмянкоў. Родам Уладзімір Іванавіч з вёскі Устаннае Слаўгарадскага раёна. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў у калгасе, з 1955 па 1957 год служыў у арміі, затым быў адказным сакратаром тагачаснай казлоўшчынскай раённай газеты "Сцяг перамогі". Пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1963) — літаратурны супрацоўнік, загадчык аддзела, адказны сакратар "Чырвонай змены". У 1971—1974 гадах У. Кузьмянкоў быў адказным сакратаром часопіса "Политинформатор и агитатор", пасля, да 1980 года — загадчык аддзела, адказны сакратар газеты "Звязда". У 1980 годзе Уладзімір Іванавіч стаў рэдактарам "Настаўніцкай газеты". На гэтай пасадзе працаваў да 1987 года. Быў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Беларуская мова і літаратура ў школе", старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ. Цяпер У. Кузьмянкоў — галоўны рэдактар газеты "Медыцынскі веснік".**

**З першым апавяданнем выступіў у 1966 годзе ў часопісе "Полымя". Аўтар зборніка апавяданняў "Ішла вясна" (1972) і кнігі "Восславляя дружбу народов" (1981).**

**З 60-годдзем, Уладзімір Іванавіч! Доўгіх год жыцця Вам і поспехаў у працы!**

## І ДЛЯ ДАРОСЛЫХ І ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**пісаў Уладзімір Глазырын, з дня нараджэння якога споўнілася 95 гадоў (памёр 10 мая 1961 года). Удзельнік грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, ён літаратурную працу пачаў у 1934 годзе. Апублікаваў урыўкі з п'ес "Фронт", "Огонь", "Юрий Резлер". Выдаў кнігу апавяданняў для дзяцей "В детстве" (1939). Драма "Фронт" у 1935 годзе выйшла ў перакладзе на беларускую мову. Таксама ў перакладзе былі выдадзены зборнік "Апавяданні" (1938), аповесць для дзяцей "Коля Гузоўскі" (1936), апавяданне "Маленькі разведчык" (1938). Сам У. Глазырын *пераклаў на беларускую мову* некалькі апавяданняў М. Лынькова.**

## ПРЫ ЖЫЦЦІ — ТОЛЬКІ АДНА КНІГА

**Івану Маркевічу ў гэтыя дні споўнілася б 60 гадоў... Раптоўна памёр 14 верасня 1981 года. Родам з вёскі Восава Бярэзінскага раёна. Пасля заканчэння школы працаваў у мясцовым калгасе, брыгадзірам жывёлагадоўлі ў саўгасе "Уша", старшынёй Ушацкага сельсавета. З 1964 года — супрацоўнік бярэзінскай раённай газеты. З 1972 года І. Маркевіч быў у "ЛіМе" загадчыкам аддзела культуры, з 1978-га да смерці — метадыстам Мінскага абласнога навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці. Беларускі дзяржаўны універсітэт скончыў у 1970 годзе завочна. З першым вершам І. Маркевіч выступіў у газеце "Чырвоная змена" 17 верасня 1961 года. У 1973 годзе выдаў кнігу паэзіі "Камандзіроўка". Другі зборнік "Васількі" стаў пасмяротным, ён пабачыў свет у 1984 годзе. Прытрымліваючыся традыцыйнай манеры пісьма, І. Маркевіч у сваёй творчасці ішоў ад перажытага. У прыватнасці, у яго пастаянна гучала тэма мінулай вайны — у маленстве будучы паэт быў сведкам таго, як фашысты спалілі суседнюю з яго Восавам вёску.**

*(Працяг. Пачатак на стар.5)*

дык жа зноў — як вазілі з-за мяжы так і возім; і цэмент, і шчэбень, і нават фармовачны пясок. А ёсць жа, паўтараю, сваё! Так, сёння трэба ўкласці сродкі ў разгортванне вытворчасці, у распрацоўку радовішчаў, але ж затое пасля ўсё стакроць акупіцца. Мы падрыхтавалі аналітычную запіску для Кабінета Міністраў, і прэм'ер-міністр, як нам стала вядома, абавязаў міністэрствы, найперш будаўнічыя, неадкладна правесці пераарыентацыю і пачаць эксплуатацыю сваіх радовішчаў будаўнічых матэрыялаў.

**— Міхаіл Іванавіч, хачу спытаць аб тым, як ажыццяўляецца кантроль за станам навакольнага асяроддзя. Думаецца, нарэшце і насельніцтва павінна быць інфармавана пра экалагічную сітуацыю?**

— Сумесна з Гідраметам мы вядзем кантроль і за вадой, і за паветрам, і за радыяцыяй. Тут ёсць праблемы, якія трэба вырашаць неадкладна, і тыя, якія можна вырашыць заўтра ці праз год-другі-пяты. У нас працуе некалькі *дзесяткаў станцый надземнага і паветранага* кантролю, заборы паветра робяцца тры разы за суткі. Вядзецца і падземны кантроль, аўтаматыка працуе няспынна, кругласутачна, і калі дзе-небудзь узнікае нейкае перавышэнне ці адхіленне, прыборы гэта адразу ж фіксуюць, і мы ведаем, у якой кропцы, у якім рэгіёне не ўсё добра. Вось, скажам, зусім нядаўна мы атрымалі паведамленне, што на трасе Мінск-Брэст у раёне Баранавіч рэзка ўзрасло ўтрыманне ў паветры азоту. Адразу ж была выяўлена ўцечка, і сітуацыя нармалізавалася. Кантралюем і ўзровень радыяцыі — і ў *паветраным пласце*, і ў падземным. Кантраляваць кантралюем, аднак жа адзначу з горыччу, што кантроль — гэта яшчэ не панацэя ад экалагічных бед. Услед за кантролем павінна весціся велізарная, скажам так, ачышчальная праца. Бо вернемся хоць бы да той самай пітной вады. У нас сёння брудныя не толькі рэкі — значна пагоршылася і якасць падземных вод. У асобных водазаборах Мінска, Барысава, напрыклад, утрыманне нітратаў у свідравінах намнога перавышае нормы. Гэта вынік таго, што вытворчыя сцёкі з прадпрыемстваў, птушкафабрык, свінагадоўчых комплексаў *прасочваюцца ў глыбокія пласты*. Гэта *праблема* сёння вельмі хвалюе эколагаў.

**— Раскажыце, калі ласка, пра асабліва ахоўваемыя тэрыторыі — запаведнікі і заказнікі, якія цяпер падпарадкаваны Адміністрацыі прэзідэнта.**

— Сёння ў нас ахоўваецца дзяржавай 5 працэнтаў тэрыторыі краіны. Да 2000 года гэты паказчык мы мяркуем давесці да 11 працэнтаў — у адпаведнасці з *пастановай* Кабінета Міністраў "Аб асабліва ахоўваемых тэрыторыях". Толькі летась у нас створаны два нацыянальныя паркі — "Браслаўскія азёры" і "Нарачанскія азёры". Тлумачыць, што гэта такое, наўрад ці ёсць патрэба — мясціны гэтыя вядомы не толькі ў нас, але і далёка за межамі Беларусі. Гэта унікальныя прыродныя ўтварэнні. Скажам, глыбіня некаторых Браслаўскіх азёр дасягае 40 метраў, у іх чысцейшая прэсная вада. Зараз там забаронена карыстацца маторнымі лодкамі. Трэба спадзявацца, што з цягам часу, адпаведна абсталяваныя, гэтыя дзве *мясціны прывабяць шматлікіх замежных* турыстаў і будуць прыносіць дзяржаве немалы прыбытак. Само сабою, што мясцовыя жыхары не будуць ушчэмлены статусам нацыянальнага парку, які нададзены іх землям. Людзі паранейшаму могуць там жыць і весці гаспадарку, збіраць грыбы і ягады, але, канешне ж, не жалезнымі граблямі.

**— Калі ўжо зайшла гаворка пра граблі, дык — якую адказнасць нясуць падобныя варвары, якія пакідаюць пасля сябе сапраўды жудасную карціну?**

— Не так даўно Вярхоўны Савет унёс змены ў Адміністрацыйны кодэкс адносна пакарання за прыродаахоўныя парушэнні. Варварскае абыходжанне з прыродай цяпер будзе карацца жорстка — на любога парушальніка будзе накладацца штраф да 50 мінімальных зарплат. Хай ведаюць пра гэта тыя, для каго не існуе, скажам, вызначаных законам тэрмінаў на збор, да прыкладу, журавін ці забароны паліць вясною сухую леташнюю траву, што прыводзіць часта да жахлівых наступстваў. Што было раней? Гарыць лес, а пакараць няма каго, няма з каго запатрабаваць кампенсаваць страты. Новы артыкул дакладна вызначае вінаватых у злачынстве. Гэта ж тычыцца і рознага роду браканьерства. Уявіце сабе: у таварыстве паляўнічых і рабаловаў, так бы мовіць, "пад ружжом" — 100 тысяч чалавек. Калі прыкінуць, дык на кожны квадратны кіламетр угоддзяў — адзін паляўнічы. У такой сітуацыі ці ацалее штонебудзь жывое на гэтым кіламетры? З браканьерствам зараз мы вядзем самую жорсткую барацьбу. Абмежавалі шэраг *паляўнічых гаспадарак, скарацілі* тэрміны палявання. Не выключана, што паўсюль цалкам забаронім паляванне на лася. Разгул браканьерства — проста нечуваны. Для барацьбы з ім мы стварылі аператыўныя брыгады, падключылі сваю ваенізаваную ахову, міністр унутраных спраў выдзеліў нам у падтрымку групу АМАПа. Штодня выяўляем дзесяткі парушальнікаў. Толькі сёлету пасля закрыцця паляўнічага сезону мы адабралі ў браканьераў 216 адзінак зброі, затрымалі больш за 800 парушальнікаў. Што штурхае гэтых людзей на злачынства? Толькі не голад. Затрымліваем мы людзей, узброеных дарагімі, коштам *па не*калькі мільёнаў рублёў, карабінамі, прыборамі начнога бачання. Гэта што, бедны чалавек, які не можа сабе купіць кавалак мяса? Альбо іншы выпадак. Рыбінспекцыя затрымлівае чалавека і канфіскуе ў яго рыбалоўных сетак даўжынёю ў... цэлы кіламетр. За незаконнае паляванне і лоўлю рыбы, акрамя штрафу, мы ўвялі зараз яшчэ і кампенсацыю за нанесеную прыродзе экалагічную шкоду. Браканьер цяпер плаціць не толькі штраф за незаконна злоўленую рыбіну, але і аплачвае кошт знішчанага разам з гэтай рыбінай патомства. Так, адзін немалы начальнічак злавіў на Нарачы 17 вугроў, а яго злавілі рыбінспектары, і ў выніку браканьеру прад'яўлены рахунак на 17 мільёнаў рублёў. *Спадзяёмся, другі раз ён не захоча паехаць "на* вугра". Тут, дарэчы, заўважу, што работа рыбінспектара досыць небяспечная. Браканьер стаў надзвычай агрэсіўны, нават ваяўнічы. Да такой ступені, што мы вымушаны ўзброіць рыбінспектараў аўтаматамі, а не пісталетамі, як раней, бо з пісталетам падступацца аднаму супраць трох, пяці, а то і сямі чалавек ноччу, у лодцы, на вадзе — зусім не проста. Тым не менш, рыбінспектары змагаюцца з парушальнікамі паспяхова. Толькі летась імі затрымана больш чым 13 тысяч браканьераў. Апошнім часам мы ўсё часцей бяром на работу адстаўнікоў-афіцэраў, *людзей мужных, вопытных*, законапаслухмяных. Іначай — нельга: бой браканьерам трэба даваць бязлітасны.

**— Міхаіл Іванавіч, вы нядаўна вярнуліся са Злучаных Штатаў Амерыкі. Якая была мэта паездкі, якія ўражанні, які вопыт прывезлі адтуль?**

— Летась, як вядома, нашы прэзідэнт і прэм'ер-міністр выступілі на сесіі ААН з ініцыятывай у другой палове 1997 года правесці міжнародную канферэнцыю па ўстойлівым развіцці нашай маладой незалежнай краіны. Што гэта такое? Гэта велізарны круг праблем, гэта ўсеагульная праграма на будучыню, гэта дакладны разлік таго, як мы будзем жыць. Разлік і сацыяльна-эканамічных наступстваў, і экалагічных у цеснай іх спалучанасці. Мы таксама прыступаем да распрацоўкі гэтай праграмы, будзе займацца гэтым найперш наш інстытут эканомікі, да работы будуць падключаны дзесяткі буйнейшых нашых вучоных па самых розных накірунках эканамічна-сацыяльнага *развіцця краіны. І ўсё разлікі і эканамічныя* прыкідкі-прагнозы павінны быць цесна ўвязаны з экалогіяй, каб не нашкодзіць самім сабе, каб забяспечыць нашу будучыню і будучыню нашых дзяцей і ўнукаў. У святле, скажам так, гэтай праграмы мы і ездзілі ў ЗША. Узначальваў нашу дэлегацыю віцэ-прэм'ер Уладзімір Гіляравіч Гаркун. Мелі мы там нямала сустрэч з вядомымі дзяржаўнымі і грамадскімі дзеячамі. Расказалі ім пра сітуацыю ў нашай краіне, яшчэ і яшчэ раз прыцягваючы іхнюю ўвагу да чарнобыльскай трагедыі нашай Беларусі. Гэта трэба было рабіць, бо многія ў свеце, у тым ліку *і амерыканцы ўсё яшчэ лічаць, што* чарнобыльская бяда больш закранула Украіну (ЧАЭС жа знаходзіцца, маўляў, на Украіне), чым Беларусь. Вось і даводзілася тлумачыць, што 70 працэнтаў "бяды" прыпала на нас, беларусаў, што сёння мы вымушаны траціць пятую частку бюджэту на ліквідацыю наступстваў чарнобыльскай аварыі. Сустракаліся мы там не толькі з амерыканцамі. Былі сустрэчы з прадстаўнікамі Еўрасаюза, з міністрамі экалагічных міністэрстваў Германіі, Францыі, Даніі, Бельгіі. Здаецца, з усімі знаходзілі паразуменне, усе выказвалі жаданне дапамагчы нам, аказаць садзеянне ў хутчэйшым *пераадоленні сённяшніх нашых* цяжкасцей. Бельгійскі міністр, напрыклад, сказаў літаральна наступнае: мы, Беларусь і Бельгія, дзве еўрапейскія краіны, якія не маюць ядзерных рэактараў, а ўсе астатнія маюць, таму мы павінны ўзяцца за рукі і дапамагаць адна адной. Прыемна адзначыць, што сапраўды многія разумеюць нашы беды і дапамагаюць нам. Асаблівую ўдзячнасць хацеў бы выказаць ураду Швейцарыі, які выдзеліў нам амаль 3 мільёны швейцарскіх франкаў бязвыплатна. За гэтыя сродкі мы атрымалі неабходнае абсталяванне, устанавілі яго і зараз ствараем зямельны кадастр, які вельмі спатрэбіцца нам, калі ва ўсю пачнецца прыватызацыя, запрацуе рынак, у тым ліку і зямельны. Швейцарскія спецыялісты, дарэчы, за свой кошт навучылі нашых дзяўчат працаваць на гэтым абсталяванні, і цяпер мы нават выконваем некаторыя швейцарскія заказы, бо ў нас, што грахі ўтойваць, рабочая сіла таннейшая. У дадатак да гэтага Швейцарыя выдзеліла 3 мільёны франкаў для будаўніцтва водазабору ў Добрушы і 1 мільён 200 тысяч франкаў — на рэканструкцыю Гомельскай ТЭЦ-2.

**— Яшчэ хачу спытаць, Міхаіл Іванавіч, пра так званую азонавую дзірку. Яна, кажуць, недзе над Антарктыдай, далёка ад нас і нам не пагражае. Ці так гэта?**

— Зусім не так. Яна ўпершыню была заўважана над Антарктыдай, а пасля выяўлялася і ў іншых месцах атмасферы Зямлі. Пласт азонавага прыкрыцця ўсяго жывога на планеце сапраўды станчаецца. І вінаваты ў гэтым усе мы. Мы таксама робім такія рэчывы, якія падымаюцца ўверх і робяць там сваю разбуральную справу. Найперш назаву, у якасці прыкладу, наш завод "Атлант". Усе холадакампаненты — гэта *азонаразбуральныя рэчывы. Такія рэчывы* выкарыстоўваюцца і на лакафарбавых заводах. Значыць, трэба мяняць тэхналогіі, адмаўляцца ад такіх холадакампанентаў. "Атлант" гэтым займаецца ўсур'ёз. Разам з ім мы стварылі сумесны праект. Прынята рашэнне глабальнага экалагічнага фонду аб выдзяленні нам гранта на суму каля 7 мільёнаў долараў пад гэты праект. Сусветны банк праводзіць зараз экспертнае заключэнне фінансавага стану і недзе ў кастрычніку Савет дырэктараў банка пryме адпаведнае рашэнне. Прыкладна такую ж работу мы вядзём па брэсцкім "Цветатроне", пінскім "Камертоне", мінскіх "Белвары" і "Інтэграле".

**— Згадваючы паездку ў Амерыку, вы гаварылі пра чарнобыльскія наступствы. Гэта, вядома, наша найвялікшая трагедыя. Але ці правамерна, скажам, усе нашы хваробы, асабліва *злаякасныя пухліны*, спісваць на Чарнобыль? Пэўна, трэба памятаць і пра "не чарнобыльскую экалогію". Калі можна так сказаць, якіх усё ж забруджванняў у нас найбольш?**

— Забруджванне навакольнага асяроддзя ідзе пераважна за кошт гаруча-змазачных матэрыялаў і выкідаў вытворчасці. Згадаем, напрыклад, Паставы. Там ГЗМ вылілася на зямлю столькі, што імі прамок пласт на 40 сантыметраў углыб. Кінеш запалку — зямля гарыць. Зараз туды завозіцца новая зямля, а запаскуджаная вывозіцца. Дзякаваць Богу, новае абсталяванне дазволіць перапрацаваць ці абясшкодзіць яе.

**— А ў дадатак да гэтых крыніц забруджвання — тыя ж жывёлагадоўчыя комплексы?**

— Гэта таксама велізарная праблема. Найперш яна звязана з вадою, пра яе ўжо гаварыў. Сёння комплексы загружаны на трэць, і ўжо па гэтай прычыне прыродзе стала трошкі лягчэй дыхаць. На 6 буйных комплексаў выдзелілі грошы. Для Барысаўскага комплексу распрацаваны праект стварэння біятэхналогіі — з дапа*могай біямасы ачышчаць гноевыя сцёкі* да чыстай вады, якую можна будзе бясшкодна скідваць проста ў рэчку. Комплекс "Белая Русь" Уздзенскага раёна таксама пайшоў па такім шляху. А ў саўгасе "Белавежскі" Камянецкага раёна намагаемся стварыць біягазавую ўстаноўку, як гэта робіцца на Захадзе, на якой усе сцёкі павінны ўтылізавацца і даваць газ. Унікальная галандская тэхналогія прымяняецца ў адным з саўгасаў Брэсцкага раёна, якая дазваляе зменшыць спажыванне вады у 12—15 разоў. Без вады, як вядома, ні туды і ні сюды. Дзесяткі варыянтаў трэба прапрацоўваць у *сувязі з праблемамі вады*. Вунь, *Вілейскае* вадасховішча — яно ўсё зацвіло, ваду з яго піць немагчыма. Геолагі знайшлі паблізу Мінска цэлае падземнае возера з цудоўнай вадою, якое здольнае цалкам забяспечыць сталіцу. Значыць, трэба гораду брацца і рабіць новыя вадаводы. Так, гэта дарога, але ж — трэба...

**— І апошняе пытанне, Міхаіл Іванавіч. Які горад у нас самы забруджаны? Маю на ўвазе перш-наперш паветра...**

— На вялікі жаль, ён у нас не адзін! Магілёў, Гомель, Орша, Бабруйск, Мінск, Наваполацк і інш. І сярод крыніц забруджвання на першым месцы — аўтатранспарт. Так званыя выхлапныя газы. Апошнім часам тут узнікла новая складаная праблема. Да нас хлынуў паток аўтамабільнай старызны. Аўтазвалка з Еўропы перакінулася да нас. Мы ўнеслі прапанову: аўтамашыны старэй за 7 гадоў у Беларусь не завозіць. А возьмем аўташыны. Іх завезлі да нас столькі (кажу пра старыя, адпрацаваныя шыны), што ўся наша Беларусь ператвараецца ў звалку аўташын. І аўтакузаваў...

**— Пра многае яшчэ хацелася б распытаць вас, Міхаіл Іванавіч, але адчуваю, што *ў адной гутарцы ўсіх праблем аховы* навакольнага асяроддзя не ахопіш. Таму пакуль што паставім на гэтым кропку. Дзякуй вам, што пагадзіліся сустрэцца і распавесці чытачам "ЛіМа" пра тое набалелае, з чым сутыкаемся ўсе мы, якім наканавана жыць тут і працаваць.**

**Гутарыла Марыя ГІЛЕВІЧ**

*У артыкуле “Беларускае адраджэнне” Максім Багдановіч сярод беларускіх пісьменнікаў-адраджэнцаў першай паловы XIX стагоддзя невыпадкова вылучае перш за ўсё Яна Чачота. Ужо з 1819 года яго вясёлыя, задзірыстыя песні і вершы, напісаныя па-беларуску, былі вельмі папулярныя сярод беларускай моладзі, асабліва студэнтаў Віленскага універсітэта. А ў 1844 годзе паэту ўдалося апублікаваць у фальклорным зборніку “Сялянскія песні з-над Нёмана і Дзвіны” свае беларускія творы, адрасаваныя сялянам. Гэтая публікацыя стала такім чынам яскравым фактам нараджэння новай беларускай літаратуры.*

*Але Ян Чачот, як і ўсе без выключэння пісьменнікі Беларусі першай паловы XIX стагоддзя, змушаны быў пісаць пераважна на польскай мове. Бо яна была на Беларусі ў той час афіцыйнай мовай, мовай справаводства і літаратуры — вынік “цеснай інтэграцыі” Вялікага княства Літоўскага з Польшчай. Усё адукаванае грамадства карысталася тады ў нас польскай мовай. Пісаць жа па-беларуску — азначала пісаць без адрасу. Такая была рэальнасць.*

*Тым не менш Ян Чачот і ў сваіх польскамоўных творах заставаўся шчырым абаронцам свайго народа, ягоным гучным голасам. Не ведаючы польскамоўнай спадчыны Яна Чачота, мы не можам па-належнаму зразумець паэта, ацаніць яго падзвіжніцкае змаганне за Волю і Праўду, за беларускасць.*

*Ніжэй падаюцца ў маім перакладзе з польскай мовы некалькі вершаў Яна Чачота пераважна віленскага перыяду, найбольш плённага ў яго творчай біяграфіі, а таксама асобныя творы з нядаўна адшуканага цыкла — “Спевы пра даўніх ліцвінаў”, у якім паэт захацеў паказаць праз найбольш важныя эпізоды і постаці старажытную гісторыю Беларусі. Усе гэтыя вершы ўзяты з кнігі Яна Чачота “Выбраныя творы”, якая неўзабаве выйдзе ў вялікай літаратурнай серыі — “Беларускі кнігазбор”. Ян Чачот усё яшчэ вяртаецца на Радзіму.*

**Кастусь ЦВІРКА**

# ВЯРТАННЕ ПАЭТА

ДА 200-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯНА ЧАЧОТА

## АНУФРАВЫ ІМЯНІНЫ

Гэй жа, Муза, з бочкі віннай
Лепш вылазь у наш гурток!
Мы дарма цябе сябрынай
Дзесь шукалі між аблок!

Ты ў віне, у ім ты госціш,
Незаўважная, спрадвек!
П’ю і я, мо буду ў млосці
Граць, як той злыселы грэк,[1]

Што ў цябе на службе шчырай,
Муза, кожнай быў парой,
Што і сёння з вольнай лірай
У любой бяседзе свой.

Так што, Муза, з бочкі віннай
Лепш вылазь, зноў клічу я.
Сябрука ж вітаць павінна
Ліра ў гэты дзень мая.

Што ў сябра імяніны,
Запісалі мы на лбе.
Бо забыў іх без прычыны
Каляндар — ці так сабе?

Мо з ім сябар наш у змове?
Не дадзім іх замаўчаць!
Будзем з Бахам мы, панове,
Шчокі ў гурце фарбаваць!

Хай — здадзім свой розум Баху!
Дзень свой, дружа, не скруці!
Не саб’еш ты нас са шляху —
Хоць да чаркі дапусці!

Не манахі ж мы, што ў келлях!
Час прабіў! Шум-звон з відна.
І ў руках во — з сонцам келіх!
Імяніннік, піць да дна!

За табой і мы прыгубім —
Адставаць жа нельга нам!
Так, мы ўсе цвярозасць любім,
Ды нам люб і гэты гам.

Як унь сонца ўсёй прыродзе
Годзіць сёння і здаўна,
Так яснеюць на свабодзе
Нашы думкі ад віна.

Ты, Ануфр,[2] — наш вершы дружа,
Ды не буду я хваліць,
Узвышаць цябе задужа
Ці зычэннямі цвяліць,

Што нам траціць час, Ануфры,
На зычэнні, ці ж ад іх
Больш дукатаў будзе ў куфры,
Больш здароўя з словаў тых?

Зараз важкую ахвяру
Я падношу — гэту во
Залатую ў іскрах чару:
Пі, бо вытхнецца пітво!

Кінь пра золата сумёты
Сніць — сяброўства ў нас было б!
Утапі ў віне турботы
І раз’ясні з намі лоб!

*1819*

*[1] Анакрэон — старажытнагрэцкі паэт, аўтар эратычных і застольных песень.*

*[2] Ануфры Петрашкевіч — паэт-філамат, сябра Яна Чачота.*

## СОН СВОЙ СКІНУЎ ПАН ВЯСЁЛЫ...

1
Сон свой скінуў пан вясёлы —
Красавік, ідзе праз сёлы
Абуджаць лясы і долы.
Алілуя, алілуя, алілуя.
2
Тут сябры ўсёй грамадою
Во сышліся пад гарою
Піць ды есці талакою.
Алілуя, алілуя, алілуя.
3
Але ўсё ж дарма іх лаюць,
Бы яны адно і знаюць,
Што лайдачаць ды гуляюць.
Алілуя, алілуя, алілуя.
4
Не, з іх кожны — працавіты,
Да людзей душой адкрыты,
Годны продкаў, самавіты.
Алілуя, алілуя, алілуя.
5
Шмат вучыцца ў іх ахвоты.
Пішуць штокквартал работы
І даюць штомесяц — злоты [1].
Алілуя, алілуя, алілуя.
6
Край свой — клопат іх адзіны,
Мара іх — ва ўсе часіны
Быць падпорай для Айчыны.
Алілуя, алілуя, алілуя.
7
Прыйдзе час, і ў промнях рання
З філарэцкага яднання
Продак наш — сармат — устане.
Алілуя, алілуя, алілуя.
8
Блісне тут жазло сармата,
Клікне край ён да булата —
Знойдзе ўсіх за здзек расплата.
Алілуя, алілуя, алілуя.
9
Не змагчы, сябры, нас ліху!
Адпачнём цяпер хоць крыху,
Малако п’ючы пацiху [2].
Алілуя, алілуя, алілуя.

*[1] Відаць, гаворка ідзе пра філамацкія складкі.*

*[2] Малако было амаль рытуальным у бяседах філаматаў і філарэтаў, якія выступалі супроць п’янства.*

## ЗНОЎ ВЯРНУЦЬ ВЯКІ Б НАМ ТЫЯ...

1
Зноў вярнуць вякі б нам тыя,
Калі рэкамі ліліся
Малако, мяды густыя,
Людзі соладка жылі ўсе.
Сэрцы ў іх былі — бы з мёду,
Чысціні малочнай — душы.
Чорных дзей не знялі зроду,
Смутак дум іх не цярушыў.
2
Не трубіў ніхто аб цноце,
Не ўважала цнота пыху.
Кожны шчыра, па ахвоце
Шырыў добрае паціху.
Не маніла продкаў хвала,
Пра свае не дбаў даброты,
А чыніў ён, што казала
Сэрца, поўнае шчадроты.
3
Зноў вярнуць вякі б нам тыя,
Калі рэкамі ліліся
Малако, мяды густыя,
Людзі соладка жылі ўсе.
Так мы некалі ўздыхалі
Па вяках тых пад вятрамі,
Аж пакуль усе не сталі
Філарэтамі, братамі.
4
Гэтак мы вярнулі сёння
Залаты свой век гурмою.
Дружбы велічнай бяздонне
Поіць сонцам нашу мрою.
Дружба гэта меж не знае,
У вякі яна прастуе.
Сэрцы нашы ўспалымняе,
Маладую моц гартуе.
5
Ты[1] вярнуў вякі нам тыя,
Нас гукнуўшы звонка ў высі.
Малако, мяды густыя
Нам ракою паліліся.
Малако й ад нас прымі ты
Як знак веку залатога.
З ім і з мёдам у блакіты
Хай бяжыць твая дарога!

*[1] Верш прысвечаны Тамашу Зану, паэту, арганізатару Таварыства прамяністых, якое потым пераўтварылася ў Таварыства філарэтаў.*

## ДА ГОЛУБА

1
Голуб мой белы, госць мой вясняны,
Скуль ты сюды завітаў? [1]
Ці пад зарой, дзе ручай ля паляны,
Мілай маёй не страчаў?
2
Ці хоць вясёла яна? Ці здарова?
Мілы мой птах, раскажы!
Што, не для слыху твайго маё слова?
Гук яго птахам чужы?
3
Глянуў вясёла!.. Гэтак прыемна
Сэрца зайшлося ў грудзях!
Мо ад яе ты прынёс патаемна
Што для мяне, любы птах?
4
Шчасны, хто марыць умее, свабодны,
І ўслед за марай ісці.
Прэч жа, мой розум, розум халодны,
Лепш ты мяне адпусці!
5
Гэтак, як грэкі, за птахавым лётам
Думкі пушчу да аблок.
Што са мной будзе і сёння, і потым,
Розум не ўбачыць здалёк.
6
Зараз на боскую волю хачу я
Уласную долю аддаць.
Досыць гадаць, што мне Заўтра рыхтуе,
Лепш памыляцца, гуляць.
7
Голуб мой белы, госць мой вясняны,
Я, як хачу, варажу:
Да сваёй мілай прыйду, закаханы,
Што на душы, ёй скажу.
8
Ці хоць вясёла яна? Ці здарова?
Сёння ўжо буду я знаць!
Кажуць, ёсць ліст ад яе. Мілай слова!
Вечарам буду трымаць!
9
Ён за тры крокі, ў суседняй каморы,
Тайны ад мілай лісток.
Ах, што за дзень сёння доўгі, няскоры!
Здэцца, згушчаецца змрок?
10
Голуб мой белы, госць мой вясняны,
Зноў да чыіх ты акон?
Трапіш да мілай мо ты праз туманы,
Ёй занясі мой паклон.
11
Толькі куды ты? Праз змрок вечаровы
У іншы скіроўваеш бок?
Не зразумеў ты маёй, мусіць, мовы?
Ды ж не памог, галубок!
12
Ах, паляцеў ты туды ўжо, дзе ў змроку
Любы мой друг пад замком [2]
Ты і яго хоць суцеш там звысоку,
Веру вярні як тайком.
13
І яго думкі ўсё той жа пуцінай
І ў той жа дворык бягуць.
Каля яе яны кожнай хвілінай
Разам з маімі снуюць.
14
Гэта ж прывезлі сюды яе брата!
Будзе ў нас сонечны міг:
Разам са мной і яна будзе рада,
Разам сустрэну я іх!
15
Голуб мой белы, госць мой вясняны!
З Богам! Бывай, дарагі!
Ах, калі час той настане жаданы?
Здымем калі ланцугі?

*1823*

*[1] Верш напісаны ў віленскай турме, куды паэт трапіў разам з сябрамі за ўдзел у Таварыстве філаматаў.*

*[2] Тут мова пра Зосінага брата Францішка Малеўскага, якога арыштавалі ў Берліне і потым перавезлі ў Вільню, у тую ж турму, дзе адбываў пакаранне і Ян Чачот.*

## З ЦЫКЛА “СПЕВЫ ПРА ДАЎНІХ ЛІЦВІНАЎ ДА 1434 ГОДА”

### ВІЦЕНЬ[1],

вялікі князь літоўскі.

1283—1315 г.

Вера наша, хрысціянства!
Шмат ты ран крывавых мела,
Покуль сэрцы ўсе ў паганскай
У Літве заняць здалела.

Бо цябе, што ўсім вяртаеш
Дабрыню, любоў, спагаду,
Прышчапіць Літве хацелі
Праз пажары, кроў і здраду.

Ордэн той, што меч крывавы
Нёс на ўласных дабрачынцаў,
Што ў набегах нішчыў Польшчу,
Што біў прусаў, бы злачынцаў,

Што ішоў вайной на ўласных
Светароў ды на рыжанаў [2],
Жыў рабункамі. Таму так
Шчыраваў “для хрысціянаў”.

Мечам злым хрысціў Літву ён,
Пляжыў Жмудзь, знёс мур Рамновы [3].
На пажарышчах тых ставіў
Ён за замкам замак новы.

Ды на трон Літвы сеў Віцень,
Князь рашучы, мудры, смелы,
Крыжакоў ён біў у сечах,
Ад Літвы адвёў іх стрэлы.

Святарам жа іх ён собіў.
І мяшчанам, што раўкамі
Прывялі яго пад Рыгу,
Каб змагаўся з крыжакамі.

Пад Браўнзберг, Каліш і Добжын [4]
Ён хадзіў з сваёй літвою,
Праслаўляў наш край у свеце
Зброяй праведнай сваёю.

Нездарма ж і смерць да князя
Не змагла ўсё падступіцца.
Сам Пярун яго ў нябёсы
Узяў пад водбліск бліскавіцаў [5].

Шмат хто ў час той, кажуць, бачыў,
Як між хмар, дзе золак мройны,
На кані, бы месяц, белым,
Пралятаў ён, рыцар збройны [6].

*[1] Віцень (г.н. невядомы — п. каля 1316) — вялікі князь Вялікага княства Літоўскага (1293—1316). Шмат зрабіў для ўмацавання і пашырэння дзяржавы.*

*[2] Рыжскі архіепіскап быў супраць панавання крыжакоў над Рыгай, яго падтрымлівалі ў барацьбе з імі і рыжане, якія дапамаглі Віценю перамагчы гэтых нямецкіх агрэсараў.*

*[3] Рамнова — легендарная паганская святыня, дзе гарэў Зніч.*

*[4] Браўнзберг (альбо Бранева), Каліш, Добжын — гарады ў Польшчы.*

*[5] Як паведамляе Т. Нарбут, Віцень быў забіты громам. Яго цела адвезлі на капішча Свінтарога і спалілі там згодна з паганскім звычаем.*

*[6] Аўтар тут падкрэслівае, што з імем слаўнага збройнага рыцара Віценя звязана нараджэнне герба Пагоня.*

# ЗА СВЯНЦІЦКІМ — КРЫП'ЯКЕВІЧ...



**Іван Пятровіч Крып'якевіч быў другім пасля І. Свянціцкага, хто ў аўстра-венгерскім па тым часе Львове знаёміў пад'ярэмных суродзічаў з духоўнымі дасягненнямі таго народа, які таксама быў у імперскім, ды яшчэ горшым палоне, хацеў "людзьмі звацца". Змагар змагара разумее і стараецца дапамагчы. Так Заходняя Украіна ў асобе лепшых сыноў — Свянціцкага і Крып'якевіча — духоўна падтрымлівала і салідарызавалася з братняй Беларуссю.**

**І. Крып'якевіч нарадзіўся 110 гадоў таму (25 чэрвеня 1886 г.). У 1940 годзе стаў доктарам гістарычных навук, у 1958-м — акадэмікам. З 1953 года Іван Пятровіч узначальваў Інстытут грамадскіх навук АН УССР у Львове. Гэты ж інстытут, рэфармаваны ў новай жыццядайнасці незалежнай Украіны, носіць сёння ганаровае імя свайго колішняга дырэктара — І. П. Крып'якевіча.**

**У 1909 годзе І. Крып'якевіч выдаў сваю першую працу, прысвечаную нашаму народу. Яна так і называлася — "Білоруси". "Амаль усю мінуўшчыну пражылі мы разам з беларусамі, — пісаў львоўскі гісторык. — У долі і нядолі ішлі мы ўсе разам". У нарысе, які выдала Навуковае таварыства імя Т. Р. Шаўчэнкі, даецца аналіз не толькі гістарычных повязяў нашых народаў. Упершыню ва ўкраінскім перакладзе І. Крып'якевіч змяшчае купалаўскія вершы "А хто там ідзе?" і "Памяці Шаўчэнкі" (Ад гасцінца да гасцінца...") І як сучасна гучыць выснова ўкраінскага вучонага: "Творы Купалы — гэта гарачы заклік у абарону ўсіх прыгнечаных, кліч да барацьбы за лепшую долю беларускага народа".**

**Для нашага чытача заўсёды будуць цікавымі даследаванні Івана Крып'якевіча казацкага руху, Хмяльніччыны (і перадсмяротная шкадоба бунтоўнага Багдана аб Пераяслаўскай Радзе), пераклад "Дыярыуша" А. Філіповіча, погляды ўніклівага вучонага на культурныя каштоўнасці беларусаў, літаратурны працэс на Беларусі на працягу стагоддзяў.**

**Сяргей ПАНІЗНІК**

*На здымку: Іван Крып'якевіч. Львоў, 1966 г.*

*Фота аўтара*

# ПАЧАЛОСЯ З ЦІКАВАЙ КНІГІ



**Неяк трапіла пад руку настаўніцы Гезгалаўскай сярэдняй школы Дзятлаўскага раёна Ларысе Васільеўне Ненартовіч цікавая кніжка "Вазьмі простую саломку". Яна і ўзяла. Ды так захапілася новай справай, што пачалі ў яе атрымлівацца не проста рэчы, а сапраўдныя творы мастацтва. Спачатку дарыла іх сябрам і знаёмым, потым пачала ўпрыгожваць фае роднай школы. Але вось заезджыя культработнікі прапанавалі ёй прадставіць свае работы на абласной выстаўцы ў Гродне. Стала лаўрэатам. Цяпер Ларыса Васільеўна думае прысвяціць серыю пано прыродзе роднай Дзятлаўшчыны.**

*На здымку: Л. В. Ненартовіч са сваёй памочніцай — дачкой Валерыяй.*

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛТА*

# БЕЛАРУСЬ, ДЗЕ ТЫ?

## ЗНІШЧЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ ТАПАНІМІІ Ў ГАДЫ ТАТАЛІТАРЫЗМУ

Беларуская тапаніміка знішчалася і знішчаецца бесперапынна, сістэматычна, мэтанакіравана.

Гэта не галаслоўнае сцвярджэнне.

З 1917 па 1980 год у кожным годзе (за выключэннем 1942—43 гг.) можна адзначыць шматлікія выпадкі знішчэння назваў беларускіх вёсак, пасёлкаў, мястэчак, фальваркаў, засценкаў камуністычнымі ўладамі. Памылкова адзначаюць, што да 30-ых гадоў быў ледзь ці не росквіт (ці рэнесанс) беларускай культуры. На самай жа справе знішчэнне нацыянальнай тапанімікі пачалося з лістапада 1917 года і ішло бесперапынна. Стратэгія бальшавікоў была адна — знішчэнне беларускай культуры, русіфікацыя яе. Нічога нацыянальнага, інтэрнацыяналізм. А дзеля зману прымянялася розная вераломная тактыка. "Мы наш, мы новы свет збудуем". Беларуская культура разглядалася, як стары свет. У ахвяру прыносілася і нацыянальная тапаніміка.

15 лютага 1923 года быў утвораны Полацкі павет Віцебскай губерні. У склад яго ўвайшлі 13 валасцей цяперашніх Полацкага, Расонскага, Гарадоцкага, Шумілінскага раёнаў. З сусветнай практыкі вядома, што адміністратыўная адзінка атрымлівае назву ад цэнтра гэтай адзінкі. Напрыклад, Веркавіцкай воласць завецца таму, што цэнтрам яе з'яўляецца в. Веркавічы. Але гэта практыка — не для былых кіраўнікоў. У в. Арэхава была заснавана не Арэхаўская воласць, а Ленінская, у в. Обаль — Сялянская (як быццам іншыя воласці ў сельскай мясцовасці — не сялянскія), у в. Казьяны — Працоўная воласць, у маёнтку Палата — Бухарынская, у в. Сястронкі — Першамайская, у в. Рудня — Калінінская, у Клясцінах — Пралетарская, у Альбрэхтаве — Чырвонаармейская, у Тродавічах — Валадарская і у в. Гомель — Кастрычніцкая. З 13 назваў валасцей — 10 заідэалагізаваныя, палітызаваныя.

Аддаўшы заходнюю палову Беларусі палякам, бальшавікі ператварылі Усходнюю Беларусь у мілітарызаваны плацдарм для вызвалення працоўных усяго свету. На параўнальна невялікім кавалку зямлі стваралі ваенныя гарадкі, памежныя зоны, палігоны, аэрадромы, танкадромы, ваенныя лясніцтвы, таемныя аб'екты і г. д. Шчыльнасць войск была тут самая высокая ў СССР. Адчужаюцца землі для правядзення манеўраў, вучэнняў. Жыхары вымушаны былі пакідаць свае вёскі, фальваркі. Знікалі селішчы і, зразумела, іх старажытныя назвы. У тых жа селішчах і валасцях, што ацалелі, знішчалі народныя назвы і надавалі ім імёны знакамітых бальшавікоў. Так узніклі вёскі і сельсаветы, якім нададзены імёны Троцкага, Леніна, Бухарына, Сталіна, Луначарскага, Кнорына, Дзяржынскага і шмат якіх іншых. А *старажытная айчынныя назвы* зніклі. Затым высвятлілася, што шмат хто з гэтых дзеячаў быццам бы сталі ворагамі народа. Зноў змена назваў. Дзе-нідзе такое паўтаралася некалькі разоў. Што гэта вымагала шмат сродкаў, нікога не хвалявала.

Насельніцтва бесперапынна запалохвалі. Адных тым, што прыехалі з-за мяжы (з Заходняй Беларусі), другіх — што іх сваякі жывуць за мяжой, трэціх — што іх падазраюць у *шпіянажы. Праследаваліся эсэры,* эсдэкі, бундаўцы — прыхільнікі ўсіх палітычных партый — акрамя бальшавіцкай, "кулакі" і "падкулачнікі", служыцелі ўсіх рэлігійных канфесій, афіцэры-франтавікі, "сабатажнікі", "шкоднікі", "ворагі народа", "трацкісты", "бухарынцы" і іншыя. Усталявалася ўлада чэкістаў, *розных ваенных выведак* і контравыведак, спецаддзелаў, адзелаў кадраў і іншых падобных бальшавіцкіх устаноў. Потым прыйшоў 1937 год.

Усе гэтыя абставіны прыводзілі да вынішчэння карэнных жыхароў, да руйнавання эканомікі, да заняпаду культуры.

У некаторых рэгіёнах нацыянальная тапаніміка была знішчана ўшчэнт. Лельчыцкі раён Гомельскай вобласці. Старажытная тураўская зямля. Самы вялікі лясны масіў на Беларусі. *Сярод непраходных балот* і лясоў схавалася вялікая вёска Радзівілачы. У 1925 г. ёй далі новую назву — Радзівілавічы. Чамусьці і гэта назва не спадабалася. У 1931 годзе зноў яе перайменавалі — назвалі Дзяржынскам. Сельсавет стаў Дзяржынскім. Калгасу далі імя — "На варце". Нават балота паблізу вёскі стала Дзяржынскім ("Энцыклапедыя прыроды Беларусі", том другі, стар. 188; Мінск, 1983 г.). Цяпер ва ўсім сельсавеце вы не *знойдзеце ніводнай беларускай нацыянальнай назвы!*

У канцы 20-ых гадоў эканоміцы і культуры быў нанесены другі цяжкі ўдар. Пачалася калектывізацыя. Знішчаюцца пасёлкі, хутары, фальваркі, засценкі. Знікаюць іх назвы. Людзей вымушаюць ехаць у іншыя вёскі і гарады, а значную частку сялян высылаюць на Поўнач і ў Сібір. Гэта быў нечуваны масавы гвалт. Толькі на адной тэрыторыі сучаснага Светлагорскага раёна *знішчаны за гэтыя гады* 121 хутар і 32 пасёлкі.

У выніку правядзення калектывізацыі ўзнікла, замест мясцовай, новая савецкая тапаніміка. Калгасы атрымлівалі імёны розных партыйных функцыянераў, дзеячаў

*У спаміны*

# ДВА АЎТОГРАФЫ АЛЯКСЕЯ ПЫСІНА

Трымаю важкую самавітую кніжку. На блакітна-шэрай вокладцы буйнымі чорнымі літарамі напісана — "Пойма". Зверху і знізу стылізаваныя кветкі — і больш нічога. Нават *прозвішча* аўтара чамусьці няма.

На тытуле аўтограф: "Леаніду Левановічу, земляку з самымі шчырымі пажаданнямі. А. Пысін". І дата — 29. X. 1937 г. Не: гэта не мая памылка. 1937 г. — так напісаў А. Пысін. І выходзіць, што я атрымаў аўтограф, калі яшчэ не нарадзіўся. Мабыць, памылка — вынік рассеянасці, даволі часта ўласцівай творчым людзям. Адно скажу з упэўненасцю: гарэлкі мы не пілі, і прыйшоў Пысін цвярозы, нібы шкельца.

Прыгадалася тая далёкая восень 1973 года, калі я прыехаў у Магілёў. Працаваў тады ў часопісе "Нёман" загадчыкам аддзела крытыкі і мастацтва. Прыехаў у камандзіроўку *па рэдакцыйных справах.* А *яшчэ* было тайнае жаданне пазнаёміцца з А. Пысіным, угаварыць яго напісаць артыкул пра сучасную паэзію.

Імя Пысіна тады было, што называецца, на слыху, яго хвалілі крытыкі, асабліва за зборнікі "Мае мерыдыяны" і "Твае далоні". Кніжка "Пойма" — першае выбранае, выдадзенае ў 1968 годзе.

Да сустрэчы з паэтам-земляком я старанна рыхтаваўся, перачытаў усё напісанае ім. Уразіла мова вершаў: *настолькі яна блізкая* да гаворак маёй вёскі. Падалося, што лексіка Пысіна мне бліжэй, чым Аркадзя Куляшова, хоць Саматэвічы — радзіма Куляшова ўсяго за сем вёрст ад маіх Клеявічаў. Пысін жа родам з суседняга Краснапольскага раёна, да ягонага роднага кута — вёскі Высокі Борак адлегласць большая разы ў чатыры. Але чытаю Пысіна і здаецца, што гэта маці мая прамаўляе. Мусіць, такое ўражанне было і таму, што вёска Рвенск, дзе нарадзілася мая маці, мяжуе з Краснапольскім раёнам.

Перад ад'ездам з Мінска мне сказалі, што Пысін не надта гаварлівы, болей любіць маўчаць і слухаць. "Я ні разу не чуў, каб ён выступіў у саюзе. Ці на сходзе, ці на секцыі. Ніколі. Усё цішком, маўчком, як маўмыра. Ён адно пасля чаркі ажыўляецца...", — гаварыў адзін знаёмец. І я адчуў, што ён не дужа прыхільна ставіцца да майго земляка. "Відаць, зайздросціць таленавітаму чалавеку", — падумалася.

Было пасля паўдня, калі я пазваніў Пысіну з гасцініцы. У трубцы пачуўся глухаваты мяккі голас.

— Дык я вас ведаю. Нарыс пра бульбу чытаў. І апавяданні трапляліся на вочы. Вы ў гасцініцы "Магілёў"? — гэтае слова ён прамовіў з невынішчальным нашым, родным — "Мугілёў". — Ну я праз гадзінку буду. Дзесьці каля трох...

За гэтую гадзіну я перачытаў шмат вершаў, выбіраючы, пра якія можна сказаць аўтару, што ў іх пахваліць. Я ўжо амаль на *памяць ведаў "Магілёўскую гаворку",* славуты верш "Палім мы маршанскую махорку..." І яго шчымлівыя заключныя радкі:

**...Я гляджу на даўняе курганне,**
**На траву, на рыжых мурашоў,**
**Ведайце: калі мяне не стане —**
**Я ў сваю дывізію пайшоў.**

І вось пачуўся стук у дзверы — на парозе стаяў сярэдняга росту чалавек у шэрым паліто, у кепцы. Мяккі круглавіды твар і трохі навыкаце блакітна-шэрыя вочы. Паздароўкаліся. Я адчуў моцны шчыры поціск мяккай далоні — хоць і сялянскі сын, але тапара і пілы рукі, відаць, даўно не трымалі.

— Адкуль вы там з Касцюкоўшчыны? Я ваш раён добра ведаю.

Я адказаў, што мая вёска стаіць на Бесядзі, што пасля вайны ў нас было толькі чатыры класы, у сямігодку хадзіў за пяць кіламетраў у Белую Дуброву.

— У Саматэвічах я быў. Белую Дуброву праязджаў. Якая назва прыгожая! Белая Дуброва...

— У нас жа ёсць яшчэ Бялынкавічы. Вялікае мястэчка на Бесядзі. Маленькая вёсачка Белы Камень...

— А ці далёка ад вас Студзянец? Адтуль родам цёзка мой Аляксей Русецкі. Цікавы паэт. Вы знаёмы з ім?

Я адказаў, што з Русецкім добра знаёмы, у Студзянцы даводзілася бываць шмат разоў. Праз гэтую вёску ідзе дарога ў райцэнтр.

— Ён жа — Бурдзялёў. А вы — Лявонаў? Левановіч гэта псеўданім? Чаму ад свайго прозвішча адмовіліся?

*Давялося прызнацца, як пасміхаліся* з мяне ў часопісе "Нёман", калі выйшаў мой нарыс "Беларускі мёд", і нейкі адстаўны палкоўнік пазваніў у рэдакцыю: няўжо Леанід Лявонаў прыязджаў з Масквы ў Беларусь, адкуль ён так ведае нашу рэспубліку? Адзін жартаўнік сказаў: "Стары, твае ганарары будуць пасылаць у Маскву..." Расказаў Пысіну, што доўга шукаў псеўданім, што дапамог яго выбраць Іван Мележ.

— Некалі і я думаў сабе псеўданім узяць... *Розныя варыянты спрабаваў.* А потым вырашыў: пазнаюць нашу дачку і ў андарачку. Так і застаўся са сваім прозвішчам...

Мне хацелася павярнуць размову ў літаратурнае рэчышча, я загаварыў пра ягоную "Пойму", пачаў хваліць вершы. Пысін паморшчыўся:

— Дзякуй, зямляк, за добрыя словы... Ты лепей скажы, калі быў дома? — непрыкметна перайшоў на "ты". — Як там людзі жывуць? Як твае бацькі мадзеюць? У вас ёсць гэта слова?

— Жыве такое слоўца, — узрадаваўся я, нібы пачуў пра добрага знаёмца. Адказаў *на іншыя пытанні госця, папрасіў падпісаць* кнігу.

— Гэта я зраблю з прыемнасцю, — начапіў акуляры, дастаў ручку і старанна падпісаў, хоць і пераблытаў дату.

Я прапанаваў Пысіну перакусіць у гасцінічным рэстаране, і там прадоўжыць нашу гутарку. Ён мякка, але катэгарычна адмовіўся.

— Аляксей Васільевіч, такая просьба... Можа б, вы напісалі для "Нёмана" артыкул пра сучасную паэзію? Думкі ў раскаванай

